enter
kultura
miesięcznik wymiany idei

Штомесячны грамадска-культурніцкі інтэрнэт-часопіс. Месца абмену ідэяў са сферы культуры, мастацтва, грамадзянскай супольнасці, мультыкультурнасці, новых медыяў, Усходняй Еўропы. Асаблівае месца займае ўмяшчальны Усходні Раздзел, які аналізуе і апісвае актуальныя з’явы ва Ўсходняй Еўропе і постсавецкіх краінах.

Партнёры

pARTisan

















„Даклад аб стане незалежнай культуры і НДА ў Беларусі" – першы з сямі спецнумароў, якія паўстануць у рамках праекту „Даклад аб стане незалежнай культуры і НДА ў краінах Усходняга Партнёрства і ў Расіі", які рэалізуецца штомесячнікам Kultura Enter www.kulturaenter.pl сумесна з Фондам Kultura Enter.

ІДЭЯ ПРАЕКТУ Павел Лаўфэр

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР Павел Лаўфэр

РЭДАКЦЫЯ Таццяна Арцімовіч, Артур Клінаў

САКРАТАР РЭДАКЦЫІ Катажына Плябанчык

ПЕРАКЛАДЫ Сяргей Комлач, Конрад Шульга, Святлана Курс, Малгажата Бухалік, Марыя Луцэвіч-Напалкаў, Катажына Бартноўска, Бюро перакладаў „Narrator"

КАРЭКТАРЫ Дарота Стахура (англійская мова), Павел Лаўфэр, Агнешка Цабан (польская мова), Таццяна Нядбай (беларуская, руская мова)

ГРАФІЧНАЯ АПРАЦОЎКА, ВЁРСТКА Studio Format – studioformat.pl



ISBN 978-83-62495-09-2

ВЫДАВЕЦТВА Studio Format
вул. Solna 4/9, 20-021 Lublin, тэл. (81) 479 46 48, biuro@studioformat.pl

ДРУКАРНЯ Petit s.k.
вул. Tokarska 13, 20-210 Lublin, тэл. (81) 744 56 59

У фінансаванні праекту ўзяў удзел міністр замежных справаў Польскай Рэспублікі
– ў рамках цыклічнай праграмы „Распаўсюд ведаў аб Польшчы"

# ЗМЕСТ

НДА АНАЛІЗЫ



НДА ІНТЭРВ'Ю



# БЕЗ ДВУКОССЯ

Спынім на нейкі час размовы і думанне пра Беларусь. Пакінем убаку нашыя ацэнкі і чаканні, праекцыі, схемы і высновы, нашыя герменеўтыкі і палітыкі, меркаванні пра тыя ці іншыя акалічнасці, якія павінна пераадолець Беларусь. Адкладзем на пазнейшыя «ўрокі» пра Беларусь усе практыкаванні ў скланеннях, паводле якіх мы прызвычаіліся адмяняць Беларусь. І, індыферэнтныя, будзьма вучыцца размаўляць па-беларуску на своеасаблівым «уроку беларускай мовы»: перад вамі «Даклад пра стан незалежнай культуры і НДА ў Беларусі».

Калі чытаеш пра Беларусь, пра з'явы і падзеі, якія там адбываюцца, пра яе праблемы і дасягненні, то ўражваюць пастаянныя двукоссі – і ў газетных калонках, і ў голасе тэлевядоўцаў. Двукоссе як выяўленне «іроніі», як спроба пазначыць «недапасаванасць», акцэнтаваць «ненатуральнасць», «адыход» ад нормы, «адступленне», «пераносны сэнс», свядомае акцэнтаванне «ірацыянальнасці» тамтэйшае рэчаіснасці.

На гэтым уроку мы возьмем у двукоссе «Беларусь», і паспрабуем падступіцца да гэтай тэмы, зыходзячы з таго, што анічога пра яе «не ведаем», паспрабуем адкрыць яе для сябе нанова. І перш чым вярнуцца да засвоеных раней пунктаў гледжання і перспектываў, з якіх мы зыходзілі, калі справа датычылася Беларусі, перш чым адмовімся ад двукосся, прапаную паслухаць тых, хто стаіць ля самых вытокаў. Слова возьмуць найлепшыя настаўнікі – беларускія інтэлектуалы, практыкі, мастакі.

Унутраным (хаця і не сфармуляваным наўпрост) касцяком іх выказванняў з'яўляюцца тры праблемы – «што мы маем?», «чаго мы чакаем ад сябе?», «як мы можам гэтага дасягнуць?».

Звычайна стратэгія супрацоўніцтва з Беларуссю грунтуецца на спарадычных і выпадковых даследаваннях і аналізах. Яны не дазваляюць вызначыць актуальныя тэндэнцыі, сапраўдны *status quo* ў сферы культуры і НДА ў Беларусі. Гэта робіць немажлівым будаванне кампетэнтных, арыентаваных на рэальныя і актуальныя праблемы, схемаў супрацоўніцтва з культурнымі асяродкамі і НДА ў Беларусі.

«Даклад пра стан незалежнай культуры і НДА ў Беларусі», паводле сваёй задумы, мусіць запоўніць гэтыя прабелы, выправіць недахоп ведаў пра рэаліі беларускай культуры, перадусім незалежнай беларускай культуры, а таксама беларускага трэцяга сектару (НДА) і ўсёй існай сітуацыі. Гэты «Даклад» мусіць быць зразумелым і агульнадаступным сродкам стараннага вывучэння беларускай рэчаіснасці, тым інструментам, які дазволіць весці найбольш эфектыўную дзейнасць у той прасторы.

Гэтых ведаў і інструментаў для паспяховай дзейнасці і супрацоўніцтва бракуе і самім беларусам, таму «Даклад» публікуецца ў трохмоўнай польска-беларуска-англійскай версіі, выкладзенай на інтэрнэт-старонцы люблінскага штомесячніка «Kultura Enter» (www.kulturaenter.pl), а таксама ў польска-англійскай папяровай версіі.

«Даклад пра стан незалежнай культуры і НДА ў Беларусі» - гэта першае з сямі выданняў, якія будуць рэалізаваныя ў рамках праекту «Даклад пра стан незалежнай культуры і НДА ў краінах Усходняга Партнёрства і ў Расіі». Мы хочам з дапамогай гэтага праекту звярнуць асаблівую ўвагу на найбольш важныя моманты на постсавецкай прасторы, у тым ліку і на росквіт партнёрскіх дачыненняў паміж людзьмі, якіх лучыць будучыня і якія гэтую будучыню ўсведамляюць.

ПАВЕЛ ЛЯЎФЭР

Мы хочам падзякаваць усім, хто сваёй каштоўнай парадай, думкай і падтрымкай далучыўся да стварэння дакладу. Выказваем падзякі Марціну Раманоўскаму, Катажыне Плябанчык, Эліяне Кісялеўскай, Анне Камінэк, Пятру Зенюку, Агнешцы Цабан, Гжэгажу Кандрасюку, Сэбасцяну Мацу, Паўлу Казанэцкаму, Малгажаце Бухалік, Марыюшу Машкевічу, Андрэю Дурэйку, Тацяне Нядбай, Агнешцы Вайцяхоўскай, Сяргею Кавалёву, Конраду Шульгу.

Беларускамоўны дзеяч культуры цяпер не мае шанцаў стаць палітычным лідэрам. Ці нясе беларуская апазіцыя адказнасць за пазіцыю значнай часткі сваіх суайчыннікаў? Натуральна, і іншая пазіцыя беларускага грамадства была б немагчымай.



ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ

# ЧАМУ БЕЛАРУС НЕ ЧУЕ ГОЛАСУ КУЛЬТУРЫ?

19 снежня 2010 году ў Беларусі прайшлі прэзідэнцкія выбары. Чарговы раз "перамогу атрымаў" Аляксандр Лукашэнка. Бяру гэты выраз у двукоссе, бо, як і падчас папярэдніх выбараў, галасаванне ішло пяць дзён, а сама працэдура зноў нагадвала спецаперацыю (кожны студэнт, вайсковец, міліцыянт, чыноўнік, настаўнік ці выкладчык, ды практычна любы, хто працуе ў дзяржсектары, быў абавязаны прагаласаваць да 19 снежня). Прадстаўнікоў апазіцыі дапусцілі да назірання за падлікам галасоў толькі ў апошні дзень галасавання, і тое толькі ў некалькіх з 6 тысяч выбарчых участкаў, што тады працавалі па ўсёй краіне. Вось вынікі, атрыманыя кандыдатамі на часткова ахопленых назіраннем ўчастках у Мінску, а таксама ў Віцебскай, Гродзенскай, Гомельскай абласцях: Аляксандр Лукашэнка атрымаў ад 35 да 52% галасоў, яго апаненты - былы намеснік міністра замежных справаў і адзін з каардынатараў кампаніі "Еўрапейская Беларусь" Андрэй Саннікаў - ад 16 да 23% галасоў, славуты беларускі паэт і лідэр кампаніі "Гавары праўду!" Уладзімір Някляеў – ад 5 да 11%.

Варта дадаць, што Уладзімір Някляеў стартаваў у якасці палітыка толькі напачатку 2010 году, узначаліўшы кампанію "Гавары праўду!", якая ішла ў краіне ўвесь мінулы год. Аднак і да таго ён доўгія гады быў вельмі вядомы ў Беларусі. Па-першае, яшчэ ў 1980-х Някляеў праславіўся як аўтар словаў для музычных хітоў, папулярнасьць якіх перакрочыла межы тадышняй савецкай Беларусі. У часы перабудовы яго актыўна падтрымлівала рэфарматарская фракцыя камсамолу – афіцыйнага беларускага саюзу моладзі; у 1988 годзе ён стаў на чале новага часопіса "Крыніца", які выдаваўся на беларускай і рускай мовах накладам больш чым у паўмільёна асобнікаў – не абы-якое дасягненне, калі браць пад увагу колькасць беларусаў (каля 10 млн). З 1994 году Уладзімір Някляеў быў галоўным рэдактарам зусім іншай "Крыніцы" – выключна беларускамоўнага часопісу інтэлектуалаў і пісьменьнікаў Беларусі. Адразу пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі Някляеву нічога не пагражала, бо частка прыхільных да яго былых дзеячоў камсамолу (дзейнасць якога, дзякуючы Беларускаму Народнаму Фронту, была прыпыненая ў 1991–1993 гг.) і іншыя уплывовыя людзі перад выбарамі 1994 году падтрымалі якраз Лукашэнку, ўбачыўшы ў ім шанец для ўласнай палітычнай кар'еры.

Трэба адзначыць, што нягледзячы на тое, што Някляева падтрымалі камсамольцы (у тым ліку апошні кіраўнік гэтай арганізацыі ў камуністычныя часы, а пасля 2000 году - карэспандэнт „Gazety Wyborczej" Аляксандр Фядута), выбітныя беларускія інтэлектуалы, адмоўна настроеныя да камуністычных уладаў (напрыклад, Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Валянцін Акудовіч, і нават легендарны Васіль Быкаў) ніколі ад яго не адварочваліся, бо лічылі яго не чалавекам улады, а абаронцам беларускасці. У другой палове 1990-х Някляеў спрабаваў уплываць на атачэнне Лукашэнкі – ужо як кіраўнік Беларускага Саюзу пісьменнікаў і галоўны рэдактар дзяржаўнага мастацка-літаратурнага тыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Гэтае супрацоўніцтва хутка скончылася, бо рэжым паставіў зусім іншыя мэты, чым прасоўванне беларускай дэмакратычнай культуры. Таму ў 1999 годзе Някляева змусілі да эміграцыі. Ён выехаў у Польшчу, пазней жыў у Фінляндыі, аднак у 2004 пастанавіў вярнуцца ў Беларусь. Яго творы, натуральна, выключылі са школьнай праграмы, бо ён не заняў дагодлівай пазіцыі ў дачыненні да рэжыму.

У 2011 годзе Уладзімір Някляеў вёў найбольш агрэсіўную і тэхналагічна сучасную выбарчую кампанію. Больш за тое, паводле ацэнкі незалежных экспертаў, ён меў найлепшую фінансавую падтрымку з усіх апазіцыйных кандыдатаў. Харызматычны Някляеў бліскуча дэкламаваў свае вершы: радок "Я прыйшоў, каб вы перамаглі" стаў эфектным дэвізам усёй кампаніі. У апошні дзень галасавання, за 50 хвілін да закрыцця выбарчых участкаў, Някляеў быў жорстка збіты міліцыяй. За некалькі хвілін інфармацыя пра гэта даляцела да сотняў тысяч беларусаў, што, на думку назіральнікаў, стала адной з прычын мабілізацыі прыхільнікаў апазіцыі ў цэнтры Мінска. Менавіта тады дэманстрантаў жорстка разагналі, былі арыштаваныя прынамсі 750 чалавек, у тым ліку сем апазіцыйных кандыдатаў у прэзідэнты. Самога Някляева ў тую ноч спецслужбы выкралі са шпіталя і вывезлі ў невядомым кірунку (пазней апынулася, што яго закмнулі ў г.зв. "амерынканцы" – турме КДБ, злавесна вядомай яшчэ са сталінскіх часоў).

Увесь свет ахапіла кампанія пратэсту супраць выкрадання і зняволення беларускага паэта і палітыка: голас узнялі між іншымі Вацлаў Гавэл, Віслава Шымборска, Том Стопард, Яўгеній Еўтушэнка, Джордж Буш-малодшы, ПЭН-цэнтры з многіх краін і кантынентаў. Аднак у Беларусі панавала ціша. Апрача супольнасці інтэлектуалаў і праваабаронцаў, ніхто не пратэставаў. Чаму? Магчыма, таму, што паэт ці нейкі іншы культурны дзеяч, які карыстаецца беларускай мовай, не мае ў сучаснай Беларусі шанцаў стаць народным прарокам ці папулярным палітычным лідэрам.

У гэтым месцы трэба звярнуцца да беларускай гісторыі – як трохі аддаленай, так і найноўшай. Памятаю, як у 1980-х, у бытнасць дактарантам Мінскага Лінгвістычнага ўніверсітэту, я быў ашаломлены размовай з адной важнай персонай, беларусам, доктарам філалогіі. Ён сказаў мне, што не жадае і чуць пра Янку Купалу (знакамітага беларускага паэта, аднаго са стваральнікаў сучаснай беларускай мовы і літаратуры), бо "Купала там штосьці нагнюсіў з жанчынамі…". Я асцярожна адказаў яму, што калі параўноўваць яго ў гэтай справе з расійскія класікам Аляксандрам Пушкіным, то выйдзе, што Купала быў самым цнатлівым і сумленным чалавекам пад сонцам. У адказ мой апанент пачаў крычаць: "Я не дазволю табе абражаць вялікага Пушкіна, бо ўся гэтая беларуская літаратура, і Янка Купала разам з ёй, ні на што не годныя, ужо праз некалькі год пра яе забудуцца! Сапраўдная літаратура – руская літаратура". Калі такія погляды мае ўніверсітэцкі выкладчык,

што казаць пра звычайнага беларуса, у якога знаёмства з беларускай літаратурай абмяжоўваецца лічанымі творамі са школьнай праграмы, ухваленай Міністэрствам адукацыі пад ціскам палітычнай цэнзуры. Сённяшнія вучні, як за савецкім часам, не маюць доступу да большасці найлепшых твораў беларускай нацыянальнай літаратуры, а творчасць беларускамоўнай эміграцыі цалкам забароненыя. Натуральна, сёння друк і распаўсюд гэтай літаратуры - не праблема. Але калі ў абсалютнай бальшыні школ у Беларусі на беларускую мову выдзяляюць адну-дзве акадэмічныя гадзіны на тыдзень (на якіх вывучаюць галоўным чынам тэорыю мовы), абсалютная бальшыня маіх суайчыннікаў не ў стане нават зразумець твораў самых таленавітых беларускіх пісьменнікаў ці філосафаў. Патрэбныя не абы-якія намаганні, каб пераадолець наступствы звычайнага недахопу часу – а часта і банальную ляноту – і самастойна вывучыць мову сваіх продкаў.

Зноў вяртаюся ў памяці да 1980-х. Недзе ў 1984 годзе ў мясцовай газеце пад нелітаратурнай назвай “Хімік” (яе выдавалі ў Наваполацку, “горадзе вялікай хіміі”) з’явіліся мае першыя пераклады некалькіх вершаў Гайнрыха Гайнэ, Адама Міцкевіча і Ўладзіміра Маякоўскага на беларускую. Праз некалькі тыдняў мяне выклікалі ў “аддзел кадраў” Наваполацкай палітэхнікі, дзе я тады працаваў асістэнтам выкладчыка. Там мяне чакаў нейкі спадар (прозвішча цяпер ужо і не прыгадаю), які прадставіўся падпалкоўнікам КДБ Віцебскай вобласці, адказным за “барацьбу з праявамі нацыяналізму”. Відавочна, ён палічыў такой праявай публікацыю маіх перакладаў у газеце “Хімік”. „Леанід Пятровіч, - сказаў ён мне (натуральна, па-руску), - вы павінны зразумець, што беларуская мова не мае ніякіх шанцаў на выжыванне. Гэта архаічная мова і на ёй немагчыма перадаць нейкі сур’ёзны змест”. Таварышу падпалкоўніку асабліва замінала тое, што я пераклаў на беларускую Маякоўскага (“нашага пралетарскага паэта”). Я яму адказаў, што як прафесійны лінгвіст лічу, што адна мова не можа быць горшая за другую. Я быў асцярожны і рабіў выгляд, што проста чагосьці не разумею: трохі яшчэ верыў, што падпалкоўнік прыме мае аргументы і пакіне мяне ў спакоі. Натуральна, для яго гэтая размова была толькі фармальнасцю: ён выконваў загад. Трохі пазней, у часы перабудовы, я зразумеў, што палітыку асіміляцыі ў Савецкім Саюзе запланавалі ў шырокіх маштабах, за яе рэалізацыю плацілі вялікія грошы, асабліва тым прадстаўнікам ″малых народаў”,

якія здраджвалі сваёй тоеснасці ды выступалі за замену ва ўстановах, у сістэме адукацыі, у культурных інстытуцыях роднай мовы на рускую (общепонятный язык). Тыя, хто спрабаваў супраціўляцца русіфікатарам, нават калі толькі выказваў адрозную думку на гэты конт, у сталінскія часы найчасцей апыналіся ў ГУЛАГу або ў Курапатах; а ў пазнейшыя часы траплялі ў псіхіятрычныя лякарні; у іншых жа акалічнасцях іх "усяго толькі" пераследавалі і высмейвалі.

Шанцы на нейкія змены з'явіліся на пераломе 80–90-х. Акурат тады айчынная культурная эліта, у асноўным беларускамоўная, стала на чале антыкамуністычнага руху, які галоўнай мэтай абраў вяртанне незалежнасці і дэмакратыі ў Беларусі. Ад самага пачатку гэтыя групы інтэлігенцыі актыўна падтрымлівалі колы беларускамоўнай моладзі рознай арыентаванасці, якія з'явіліся ў 90-х у Мінску і ў іншых гарадах Беларусі: у Віцебску, Гродне, Брэсце, Магілёве, Наваполацку, Оршы, Баранавічах. Праведзеныя вясной 1990-га часткова дэмакратычныя выбары ў Вярхоўны Савет БССР прынеслі гэтаму руху, на чале якога стаў Беларускі Народны Фронт (БНФ), ачолены Зянонам Пазняком (па прафесіі гісторыкам мастацтва і археолагам), параўнальны поспех. У выніку складанай канкурэнцыі дэпутатамі сталі два самыя вядомыя беларускія пісьменнікі, Ніл Гілевіч і Анатоль Вярцінскі, а таксама некалькі менш вядомых дзеячоў культуры, архітэктараў, мастакоў, гісторыкаў і г.д. Фальшаванні, якія і тады былі пры падліку галасоў, не дазволілі перамагчы некалькім вядомым пісьменнікам (м. інш. Рыгору Барадуліну, Генадзю Бураўкіну, Сяргею Законнікаву, Артуру Вольскаму, Адаму Мальдзісу), а таксама мастакам (Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Сымон Свістуновіч). Нягледзячы на гэта, невялікая фракцыя БНФ, пры падтрымцы нешматлікіх дэпутатаў і фармальна не належных да яе інтэлігентаў і працоўных, здолела пераканаць Вярхоўны Савет, які на 80% складаўся з камуністычна-гаспадарчай наменклатуры, што абвяшчэнне незалежнасці краіны неабходнае для ўратавання беларускага народу ад знешніх і ўнутраных пагроз (найперш ад наступстваў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС). Тады пачалося і адраджэнне беларускай школы. У 1994/95 навучальным годзе больш за 75% вучняў першых класаў у Беларусі пайшлі ў школы з беларускай мовай навучання (у Мінскай вобласці гэтая лічба сягала амаль 90%!), Бацькі спарадычна пратэставалі, але ў маштабе краіны гэта былі адзінкавыя выпадкі

(варта памятаць, што ў Беларусі жыла працэнтна найбольшая ў СССР група вайскоўцаў і кадэбістаў небеларускага паходжання, уключна з вайсковымі пенсіянерамі і іх сем'ямі). Аднак ужо тады, асабліва пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, беларускую інтэлігенцыю актыўна вінавацілі ў … эканамічным крызісе, які працягваецца ў краіне пад камуністычным і лукашэнкаўскім кіраваннем з моманту набыцця незалежнасці беларускай дзяржавай ў 1991 годзе. На жаль, гэтая прапаганда мела і мае свае вынікі. Раздражнёныя беларусы старэйшага і сярэдняга пакалення звязваюць пагаршэнне свайго жыцця менавіта з новымі фігурамі, якія з'явіліся на беларускай палітычнай сцэне напачатку 90-х, бо гэта былі харызматычныя асобы, прозвішчы якіх лёгка згадваліся дзякуючы штодзённай жывой трансляцыі паседжанняў Вярхоўнага Савету.

Гэтыя драматычныя акалічнасці ў значнай ступені дазволілі Аляксандру Лукашэнку, з дапамогай манапалізаванага ім беларускага тэлебачання, сфармаваць у вачах вялікай часткі жыхароў Беларусі уяўленне аб беларускамоўнай інтэлігенцыі як аб лайдаках, якія за ўяўныя грошы з Захаду (а цяпер і з Расіі) сядзяць на карку беларускага народу.

Сваю ролю адыгралі і рэпрэсіі з боку рэжыму. Праваабаронцы сцвярджаюць, што у 1995–2011 гадах практычна кожны дэмакратычна настроены пісьменнік, музыка, мастак, кінематаграфіст, тэатральны дзеяч ці журналіст сядзеў у турме хаця б некалькі дзён – або быў пакараны вялізным, у параўнанні з прыбыткамі, найчасцей беспадстаўным штрафам за ўдзел у розных акцыях пратэсту. На жаль, звычайны беларус пра гэта ведае няшмат, а калі і ведае, то часцей за ўсё кажа: "І навошта ім усё гэта? Хай бы сядзелі ціха, як я". Уласнае баязліўства успрымаецца як рацыянальнае дзеянне: такі чалавек хутчэй скажа, што падтрымлівае палітыку Лукашэнкі (хаця часта насамрэч не атаясамлівае сябе з ёй), але ніколі не падтрымае людзей, якія публічна дэманструюць сваю нязгоду. Таксама часта сустракаецца стаўленне да дзеячоў культуры як да дармаедаў, на якіх "я працую".

Якім жа будзе адказ на пытанне: ці нясе беларуская інтэлігенцыя адказнасць за пазіцыю вялікай часткі беларускага грамадства? Натуральна, і іншая пазіцыя беларускага грамадства немагчымая. Інтэлігенцыя адказная за тое, што доўгія гады не займалася пошукамі кантактаў з рознымі слаямі беларускага грамадства, была занадта

індывідуалістычная, больш за тое – самазакаханая. Частка пісьменнікаў і мастакоў займалася выключна творчасцю, нават маючы дыпломы выкладчыкаў, ніколі не працавала з моладдзю, навучаючы яе хаця б беларускай мове.

Сёння мы перажываем наступствы гэтага. У цяперашняй Беларусі Ўладзімір Някляеў меў бы толькі тэарэтычныя шанцы стаць наступным прэзідэнтам. Іншая выснова з вышэйсказанага - беларуская інтэлігенцыя сёння мусіць адначасова змагацца і працаваць, а гэта надзвычай складаная задача. Аднак надалей вырашальная. Прынамсі, я хачу ў гэта верыць.

ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ

Галоўная праблема, якая на сёння стаіць перад асяродкамі беларускай культуры – гэта палітызацыя іх дзейнасці. Часам гвалтоўная і насуперак ім самім.



# ЕЎРАПЕЙСКАЯ АНЁЛАЛОГІЯ – БЕЛАРУСКАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

## МАРЫЮШ МАШКЕВІЧ – ІНТЭРВ'Ю

**Павел Ляўфэр: Вы шмат гадоў працавалі ў Беларусі дыпламатам. Што, на Вашую думку, найвыразней акрэслівае існасць беларускай культуры і Трэцяга сектару?**

Марыюш Машкевіч: Найважнейшым чыннікам з'яўляецца палітычная сітуацыя ў Беларусі. Важны таксама комплекс з'яваў, якія ўплываюць на развіццё беларускай культуры – у тым ліку, суб'ектаў, якія ствараюць гэтую культуру. Агулам кажучы, з часоў прэзідэнцтва Лукашэнкі стварыліся дзве плыні ў сферы культуры – плынь афіцыйная, дзяржаўная, якая надзвычай асцярожна ставіць найбольш істотныя для дзяржавы і беларускага народу пытанні, і плынь незалежная. Таму існуе спакуса параўнаць такі стан рэчаў да сітуацыі ў Польшчы ў 1980-х, з яе незалежнай культурай, мастакамі, якія байкатавалі афіцыйныя СМІ. Але гэтая аналогія няслушная.

Натуральна, многія важныя творцы культуры жывуць па-за афіцыйнай сферай. Іх не паказваюць у СМІ, пра іх не гаворыцца ў афіцыйнай прэсе, іх не відаць у тэлебачанні. Гэта тычыцца галоўным чынам мастакоў, незалежнай музыкі, у тым ліку яе наймалодшай, рокавай генерацыі. Дзякуючы міжнародным арганізацыям і падтрымцы беларускіх НДА,

ім удавалася доўгія гады трымацца і ствараць цалкам сэнсоўны змест і пасыл, як ва ўнутрыбеларускім, так і ў знешнім маштабе.

**П.Л.: Але што такога спецыфічнага ў беларускай сітуацыі, што не дазваляе параўнаць яе з сітуацыяй у Польшчы ў 1980-х?**

**М.М.:** Гэта, найперш, іншы досвед. У постсавецкай сферы мы не мелі досведу з рухам незалежнай культуры, з дысідэнцкім рухам. Гэта была маргінальная з'ява, вядомая толькі ў некалькіх найбольшых гарадах. Культура была трохі на памежжы палітычнай актыўнасці, скіраванай на пашырэнне грамадзянскіх свабод. У Савецкім Саюзе таксама існавалі незалежныя творцы. Мы можам прыгадаць некалькі прозвішчаў, хаця б падзвычай папулярных спевакоў, якія лічыліся незалежнымі і не вельмі часта з'яўляліся ў агульнадаступных СМІ: Высоцкі, Акуджава.

Аднак у Беларусі мы мелі дачыненне з фармаваннем «савецкага чалавека». Людзі, якія былі масава перавезеныя з малых мястэчак у вялікія прамысловыя цэнтры, гадаваліся на агульнай савецкай культуры. Кіно, музыка, тэатр з Масквы і Ленінграду лічыліся і ў Мінску. Адчувалася нават, што беларусы саромеюцца сваёй народнай, вясковай культуры і лічаць, што яе змест не мае ніякай каштоўнасці. Нягледзячы на тое, што афіцыйныя ўлады падтрымлівалі творчасць народных калектываў.

Гэта пасля 1990 году стала для многіх маладых людзей зыходнай кропкай, момантам, ад якога яны маглі адштурхнуцца, каб шукаць новых уражанняў і увайсці ў больш шырокі кантэкст – еўрапейскі ці сусветны. Няшмат каму гэта ўдалося. Тая культура, з якой мы маем дачыненне, гэта хутчэй культура рэгіянальная, вядомая ў Беларусі і іншых постсавецкіх краінах, на памежжы. Аднак яна не мае нейкага вялікага даробку, які быў бы вядомы шырэй. Няма беларускага пісьменніка, які б атрымаў Нобеля. Затое існуюць прыклады людзей, якія далі пра сябе знаць: Васіль Быкаў, Уладзімір Арлоў ці Святлана Алексіевіч. Дзякуючы польска-беларускаму супрацоўніцтву здолела праявіцца цэлае пакаленне маладых творцаў. Хіба найлепшым такім прыкладам будзе Андрэй Хадановіч.

Праблема мастацтва цесна звязаная з палітыкай. Працэс стварэння нацыі, фармаванне яе тоеснасці – гэта ў Беларусі справа складаная. Галоўнай прычынай гэтай складанасці з'яўляецца саветызацыя, і ў вымярэнні штодзённага жыцця, і ў высокай культуры. Руская мова дамінуе.

Гэта банальнасць, але адначасна рэч, якую нельга абысці, калі казаць пра спецыфіку беларускай культуры. Людзі, якія карыстаюцца беларускай мовай, аўтаматычна ўспрымаюцца як апазіцыя. Як тыя, хто ў сваёй мове дэкларуе погляды. Мова тут робіцца формай аўтапрэзентацыі.

**П.Л. Як Вы ацэньваеце сённяшнюю сітуацыю ў параўнанні з тымі часамі, калі вы ачолілі прадстаўніцтва? Тады пачыналася супрацоўніцтва на культурным, інстытуцыянальным і няўрадавым узроўні, на ўзроўні польска-беларускім. Як Вы сёння ацэньваеце гэтае супрацоўніцтва і магчымасці, якія былі тады і якія ёсць цяпер?**

М.М.: Тут з'яўляецца праблема пэўных гістарычных складанасцяў, якія існуюць у польска-беларускіх адносінах. Польшча для вялікай часткі беларусаў – асабліва з заходняй часткі краіны – была дзяржавай высокай культуры, якая навязвалася беларусам, што жылі на тэрыторыі даўнейшай Рэчы Паспалітай. На тэрыторыі Беларусі сутыкаліся светы дзвюх культур – польскай і расійскай, ствараючы пэўнага кшталту канкурэнцыю. Вядома, што тэатр Дуніна-Марцінкевіча ў 19 ст., у пэўным сэнсе, натхняўся палітычнай ідэяй для барацьбы з царызмам. Праз паказанне меншасці і адрознасці, праз прагаворванне тэзы, што беларусы іншыя, чымся маскалі, што яны не хочуць паддацца спробам увесьці праз іх іншыя парадкі, што яны маюць сваю мову, традыцыю і спадчыну.

Каб выйсці з гістарычнай схемы польска-беларускіх адносін пасля адраджэння незалежнасці ў 1991 г., пасля усталявання афіцыйных і неафіцыйных кантактаў, Польшча дзейнічала праз мясцовае самакіраванне, Польскі інстытут, прадстаўніцтвы амбасады. Мне здаецца, што гэта робіцца досыць эфектыўна. Супрацоўніцтва абапіраецца галоўным чынам на спробах паказаць сучасную культуру дзеля таго, каб натхняць і шукаць агульныя абшары.

У той час нарадзілася некалькі цікавых мерапрыемстваў. Як прыклад магу падаць рок-фестываль «Басовішча» або фестываль культуры ў Беластоку, дзе паказваюць агульнабеларускую культуру і вузей – беластоцкую. Гэтыя дзве імпрэзы, якія адбываюцца на польска--беларускім памежжы, на польскім баку, у пэўным сэнсе канкуравалі міжсобку. З аднаго боку, афіцыйнае мерапрыемства прадзяржаўнага характару, спансараванае Беларускім грамадска-культурнам

таварыствам у Польшчы, а з другога - студэцкая моладзь беларускага паходжання з незалежным «Басовішчам». На беларускім баку таксама ўдалося стварыць шэраг падзеяў – тэатр, музыка, медыа, літаратура – існуюць такія выспы польскай прысутнасці, якія прыцягваюць беларускіх творцаў. Адтуль мы маем такія часопісы, як «Архэ», «Партызан» або шэраг іншых, якія выраслі з патрэбы ўкаранення беларускай тоеснасці у еўрапейскай культуры. Думаю, што гэта і ёсць рыса польска-беларускага супрацоўніцтва, якое развіваецца апошнія два дзесяцігоддзі, нягледзячы на перашкоды і праблемы.

Тым не менш працэс дэбеларусізацыя школы і дзяржаўных установаў культуры паспрыяў таму, што фрустрацыя сярод творцаў усё ўзрастае. Мы маем дачыненне з магутнай хваляй эміграцыі. Невыпадкова Васіль Быкаў апошнія гады жыцця правёў на Захадзе. Святлана Алексіевіч таксама большасць часу праводзіць па-за Беларуссю. Многія пісьменнікі шукаюць праектаў, дзякуючы якім маглі б тварыць, і знаходзяць такую магчымасць у Польшчы, Літве і далей у Заходняй Еўропе.

**П.Л.: Калі гаворка ідзе пра беларускую эміграцыю, ці не бачыце Вы падабенства са з'явай, якая цяпер прысутнічае ў кантэксце Украіны? Украінская эміграцыя на адлегласці падтрымлівае і ініцыюе працэсы, якія ўплываюць на краіну. Асяродак інтэлектуалаў у Таронта ў пэўным сэнсе з'яўляецца для Ўкраіны тым, чым была, напрыклад, парыжская «Культура» для Польшчы. Ці Беларусь валодае такім выразным асяродкам, на Вашую думку?**

**М.М.:** Украінскія асяродкі з пасляваенных часоў былі надзвычай моцныя. Вялізная колькасць украінцаў, якая жыве ў Нямеччыне ці Амерыцы, стварала выспы ўкраінскасці. У 40-х і 50-х гадах паўстаў Універсітэт у Мюнхене, пазней у ЗША, Канадзе. Гэтыя групы дзейнічалі магутна, што сёння, напрыклад, відаць ва ўкраінскай гісторыяграфіі. Усю з'яву вельмі добра ілюструе творчасць наймаладзейшага пакалення гісторыкаў, напрыклад, Рабчука ці Грыцака.

У сваю чаргу, беларуская эміграцыя была параўнальна слабая. Беларуская дыяспара ў Літве ці ў Польшчы не мела моцнай, творчай эліты. Таму, думаю, параўнанне з Гедройцам не да канца дакладнае. У гэтым выпадку мы маем дачыненне з сусветным унікумам. Рэдка бывае,

каб ідэі, створаныя ў эміграцыі невялікім цэнтрам, які сабраў вакол сябе групу інтэлектуалаў і творцаў, былі перанесеныя ў краіну. Выпадак «Культуры» – гэта было выключэнне, якое пацвярджае правіла, яно не мае аналогіі ў параўнанні з іншымі эміграцыйнымі асяродкамі Сярэдняй і Ўсходняй Еўропы.

Калі мы можам гаварыць пра нейкае ў меру моцнае ўздзеянне на Беларусь звонку, то тут хіба галоўную ролю грае Польшча. Тут я маю на ўвазе беластоцкае асяроддзе. Іх творамі з'яўляецца хаця б «Часопіс», дзейнасць Сакрата Яновіча, выдавецкія серыі або навуковыя часопісы.

Гедройць з дапамогай польскіх прафесараў спрабаваў стварыць моцны універсітэцкі асяродак у Беластоку, аднак з вельмі слабым вынікам. Аказалася, што гэта не так проста, працэс гэты мусіць быць раскладзены на доўгія гады.

Беласток мацней за Люблін уплывае на Беларусь, але абодва гэтыя асяродкі надзвычай важныя. Гэта відаць па праектах, якія ладзяцца на польска-беларускім ці польска-ўкраінскім памежжы.

**П.Л.: Што, на Вашую думку, цяпер і раней, складае найвялікшую перашкоду у супрацоўніцтве Беларусі з краінамі Еўрасаюза і Польшчай? Натуральна, мы ведаем пра палітычны складнік – гэта відавочна. Але, на вашую думку, ці маюць беларусы ўзровень даверу, які дазваляе добра супрацоўнічаць? Ці адчуваюць сябе беларусы звязанымі з Еўропай?**

**М.М.:** Беларусы адчуваюць сябе еўрапейцамі, тут няма ніякіх сумневаў. Апошнія дваццаць гадоў ім удалося ўпарадкаваць свае гісторыка-культурную спадчыну і даробак, які пра гэта сведчыць.

Часта гавораць пра тры галоўныя падваліны культурнай беларускай тоеснасці, іх еўрапейскай гістарычнай тоеснасці. Гэта Статут Вялікага Княства Літоўскага, які з'яўляецца часткай гістарычнай спадчыны беларусаў, нягледзячы на спрэчку з летувісамі, не толькі за гэты дакумент, але і ўвогуле за права да гэтай часткі спадчыны. Другая падваліна – гэта вялікі абшар рэлігійнай культуры, альбо ўсё тое, што паўстала са спадчыны Францыска Скарыны – Біблія на беларускай мове і развіццё трох галоўных хрысціянскіх цэркваў на тэрыторыі Беларусі: грэкакаталіцкай, каталіцкай і праваслаўнай. Гэты працэс нават сёння

заўважны ў праваслаўі. Гэта беларусізацыя, якая ідзе вельмі павольна, з нізоў, але яна існуе, яна бачная і заўважная нават з маскоўскага патрыярхату. Такая палітыка цяперашняга мітрапаліта Філарэта. Выразны ўплыў мела і пазіцыя нядаўна памерлага кардынала Свёнтка, які працаваў над тым, каб каталіцкі касцёл не асацыяваўся выключна з польскасцю. Гэта вялікае дасягненне каталіцкага касцёла, якое ўдалося рэалізаваць (што прагучыць парадаксальна) дзякуючы вялікаму польскаму патрыёту, якім быў кардынал Свёнтак.

Трэцяй падвалінай беларускай культуры з'яўляецца свецкая літаратура. Прывяду прыклад: нядаўна я выдаў у супрацоўніцтве з мінскімі філолагамі «Беларускага Трыстана» (ён даступны ў электроннай версіі на старонцы «Камунікату», інтэрнэт-бібліятэкі, створанай у Беластоку групай тамтэйшых дзеячоў культуры). Беларускі пераклад старой легенды пра Трыстана. Існуе рукапіс, арыгінал якога знаходзіцца ў Познані, датаваны канцом XVII стагоддзя, выкананы, напэўна, у нейкай палацавай канцылярыі. «Беларускі Трыстан» паказвае, дзе карані беларускай культуры і пацвярджае іх глыбокую еднасць з еўрапейскай культурай.

Яны не мусяць гвалтам даводзіць, што з'яўляюцца еўрапейцамі. Але для іх гэта надзвычай важныя зыходныя пункты.

Найбольшая праблема, з якой сутыкаюцца беларускія культурніцкія асяродкі, – гэта палітызацыя іх дзейнасці. Гвалтоўная, часамі насуперак ім самім. Вялікая частка з іх не хацела б мець дачыненне да палітыкі. Не хацела ўваходзіць у палітычныя спрэчкі і дэбаты, але працэс русіфікацыі ці другаснай саветызацыі за апошнія пятнаццаць гадоў выклікаў імпульс адмаўлення, які прывёў гэтых творцаў у плынь супраціву, незалежнай у дачыненні да афіцыйнай ідэалогіі і ўлады.

Польшча і заходнія краіны падтрымліваюць такую дзейнасць. Вялікая частка сродкаў паходзіць як з розных знешніх крыніц, так і з самой Беларусі. Яе накіроўвалі на дзейнасць НДА, незалежных арганізацый, няўрадавага сектару. Творцы ў пэўным сэнсе аўтаматычна былі вымушаныя даваць сабе рады без дзяржаўнага мецэнацтва. І гэта праблема палітызацыі мастакоў з кола незалежнай культуры, якія ахвотна і без пярэчання карысталіся б дзяржаўным мецэнацтвам, але, на жаль, іх адпрэчвае дзяржаўная машына з-за беларускай мовы і каштоўнасцяў, якія ўтрымлівае іх мастацтва і якія спрэчныя з дзяржаўнай ідэалогіяй.

**П.Л.: Пагаворым пра апошні падзеі, звязаныя з перадачай польскай сістэмай юстыцыі інфармацыі аб банкаўскіх рахунках незалежных беларускіх дзеячоў. Вы сцвярджаеце, што гэта вяршыня айсбергу.**[1]

**М.М.:** Так. Галоўным чынам таму, што гэты працэс, да абурэння шматлікіх беларускіх асяродкаў у Польшчы і ў Беларусі, ідзе шмат гадоў. Мы назіраем дзеянні судоў і следчых органаў у дачыненні да асобаў, якім улады закідаюць крымінальныя злачынствы, і якія мусілі ўцякаць з Беларусі пад пагрозай пакарання за незалежніцкую дзейнасць, падтрымку незалежных арганізацый або апазіцыцных палітычных партый. Іх пераследуюць праз міжнародны вышук і саджаюць у турмы; гэта было ўжо ў дзевяностых гадах, і толькі ад чуйнасці асобных суддзяў і пракурораў залежаў іх далейшы лёс. Большасць справаў скончыліся добра. Я не магу цяпер пералічыць усіх імёнаў тых, хто трапіў у пастку сістэмы міжнароднай прававой дапамогі, але бывала, што многія з іх правялі цэлыя тыдні або месяцы ў польскіх арыштах, чакаючы рашэння польскіх судоў. Шырока вядомы прыклад Андрэя Жукаўца, у выпадку якога ўдалося давесці, што дакументы, прысланыя з Беларусі, былі сфабрыкаваныя пры перакладзе. Была шматгадовая гісторыя абсурдных закідаў у дачыненні да Станіслава Буйніцкага з Гродна. Гісторыя Алеся Бяляцкага, такім чынам – толькі вершаліна айсбергу. Гэта пытанне не злой волі з польскага боку, а хутчэй канстытуцыйнага бязладдзя. Польшча, падпісваючы дамову аб юрыдычнай дапамозе і карыстаючыся дапамогай беларускіх дзяржаўных установаў, імкнулася да больш эфектыўнага супрацоўніцтва судоў і органаў юстыцыі. Памятаю, што яшчэ дзесяць год таму юрыдычнае супрацоўніцтва дзвюх дзяржаваў было прызнана ўзорным. У большасці выпадкаў яно тычылася сферы аховы дзяржавы, пераследу крымінальных злачынстваў. Беларускія ўлады выкарысталі гэтае добрае супрацоўніцтва, распачаўшы пераслед людзей, якія ніколі не павінны пачуць крымінальных абвінавачанняў.

1 У верасні 2011 г. польская пракуратура перадала беларускім следчым органам звесткі аб рахунках беларускіх апазіцыянераў, што выклікала новую хвалю рэпрэсій.

**П.Л.: Міністр Сікорскі казаў пра звальненне пракурора, адказнага за перадачу інфармацыі, пра змену заканадаўства так, каб толькі генеральная пракуратура магла перадаваць звесткі такога кшталту. Што польскі бок можа зрабіць, каб палепшыць сітуацыю?**

**М.М.:** Ідэя абмежаванага супрацоўніцтва з афіцыйнымі дзяржаўнымі ўстановамі пры польска-беларускіх ці літоўска-беларускіх стасунках паўстала пад канец 1990-х з-за пагаршэння стану дэмакратыі, падпарадкавання публічных установаў адной асобе – прэзідэнту. Абмежаванае супрацоўніцтва, якое Чэслаў Бялецкі назваў «гульнёй на двух фартэпіянах», прадугледжвала кантакты ў вызначанай палітычнай сферы, пры адначасовым захаванні пэўнай сістэмы каштоўнасцяў і вялікую польскую актыўнасць у завязванні добрых кантактаў з грамадствам. Гаворка ідзе пра падтрымку незалежнай культуры, прамоцыю дэмакратыі і вартасцяў, якія для нас у Польшчы найдаражэйшыя. Здавалася, што гэтая «гульня на двух фартэпіянах» магчымая і надалей. Крызіс вакол Саюза палякаў у 2005 годзе, а таксама пастаянныя парушэнні правоў чалавека ў Беларусі паказалі, што гэтыя сферы супрацоўніцтва ў многіх выпадках пачынаюць небяспечна перасякацца, а іх падзел робіцца ўсё больш складаным. Польскія ўлады ўжо некалькі гадоў вымушаныя верыфікаваць гэтую практыку, на жаль, са шкодай для незалежных асяродкаў. Праўда, плынь дапамогі для незалежных інстытуцый у Беларусі не была спыненая, але апазіцыйныя асяродкі сігналізуюць пра нарастанне праблемаў. Бо гаворка ідзе не толькі пра інстытуцыі, якія ствараюць культуру ў яе шырокім разуменні, але і пра тыя, што занятыя пабудовай грамадзянскай і дэмакратычнай Беларусі. Гэта надзвычай істотная справа, бо часта культуру немагчыма аддзяліць ад палітыкі. А ў гэтым схаваная яшчэ і шырэйшая геапалітычная праблема. Паводле бальшыні беларускіх палітыкаў, адразанне Беларусі ад супрацоўніцтва з Захадам ідзе на карысць Расіі. Неабходнасць перарывання афіцыйных адносін па лініі Варшава-Мінск, Вільня-Мінск або Брусэль-Мінск выклікае ў іх трывогу. Ва ўзніклую пустку прыйдзе нехта іншы. Яны баяцца русіфікацыі, падпарадкавання Беларусі Маскве. Яны лічаць, што расійская стратэгія прадугледжвае стварэнне сітуацыі, калі заходнія партнёры Беларусі адвернуцца ад яе. Як гэтае пытанне вырашаць польскі міністр ці прэм'ер – гэта добрае пытанне. Я аднак думаю, што незалежна ад існай палітычнай

сітуацыі ў нашай краіне, незалежна ад кіроўнай каманды, гэта доўгі працэс, і мы асуджаныя да доўгага пераходу, а часам і лавіравання паміж рыфамі.

**П.Л.: Як вы ацэньваеце, такім чынам, магчымасці развіцця незалежнай культуры і НДА ў Беларусі?**

**М.М.:** На шчасце, творцы культуры, апрача фінансавай падтрымкі і ўдзелу з міжнародных праектах, не патрабуюць моцнага мецэнацтва і дзяржаўнай апекі. Творца, які малюе, стварае, піша, робіць гэта дома ў рамках сваіх сродкаў, якія мае пад рукой. Яму не патрэбны міністр ці дырэктар дэпартаменту, каб тварыць. Я думаю, што тут існуе цэлы шэраг інструментаў, якія могуць быць ужытыя заходнім бокам, незалежна ад усёй юрыдычна-прававой сітуацыі. Я кажу пра фінансавую падтрымку, пра уцягванне мастакоў у супольныя праекты.

Так, між іншым, меўся працаваць праект Усходняга Партнёрства. Аднак мушу з горыччу прызнаць, што ён не працуе так, як гэта планавалася і чакалася напачатку. Пры падрыхтоўцы гэтага праекту мелася на ўвазе, што мы будзем абапірацца на досвед, які набылі з Украінай (гаворка ідзе пра закрыты ў 2004 годзе фонд «Ведаць як»). Здавалася, што мы прыцягнем нашыя дзяржаўныя і еўрапейскія сродкі, запросім няўрадавыя арганізацыі і культурніцкія ўстановы і глыбей увойдзем у розныя сферы грамадскай актыўнасці.

З Украінай гэта ўдавалася шмат гадоў і падзеі 2004 году на Майдане былі ў пэўным сэнсе эфектам дзейнасці польскіх НДА, якія тады яшчэ працавалі без фінансавай падтрымкі польскай дзяржавы.

**П.Л.: Дык якія былі чаканні і якія мэты былі пастаўленыя ў дачыненні да Беларусі на этапе планавання Ўсходняга Партнёрства?**

**М.М.:** Гэта праблематычнае пытанне, бо многія асобы і інстытуцыі бачылі гэта па-рознаму. Я сам памятаю такія ідэі ў міністэрстве, якія прадугледжвалі толькі неабходнасць падрыхтоўкі агульных палітычных рамак, якія Еўрасаюз і яго агенцыі павінны былі запоўніць з інстытуцыйнай дзейнасцю. Таму на ўзроўні прыняцця рашэнняў гаворка ішла пра стварэнне агульнага праекту і ўключэнне яго ў

інстытуцыйны механізм Еўрасаюзу. Аказалася, што гэта не працуе, і што тут патрэбныя ўсё ж моцныя мадэратары, інстытуцыі з вызначанай дзейнасцю, падрабязна акрэсленыя партнёрскія планы, канкрэтны бюджэт. Я меркаваў, што ролю мадэратараў пяроймуць няўрадавыя арганізацыі – не толькі польскія, але і чэшскія, літоўскія. Тыя, з усходняй часткі Еўрасаюзу, якія маюць зблiжаны досвед з Украінай, Беларуссю ці краінамі Каўказу. Я расчараваны, бо не хапіла імпульсу, ідэі, а можа, і адвагі, каб аддаць Усходняе Партнёрства ў рукі такіх мадэратараў, якія маглі б гэта адолець і працаваць за дзяржаўныя і еўрапейскія установы. Тымчасам чутно, што шматлікія няўрадавыя арганізацыі наракаюць на адсутнасць падрабязнай інфармацыі, што дзяржаўныя установы не даюць ім патрэбных інструментаў.

**П.Л.: Якімі вы ў такім выпадку бачылі б далейшыя крокі Польшчы і Еўрасаюзу, што дапамаглі б палепшыць гэтую сітуацыю?**

**М.М.:** Я думаю, што націск з боку НДА на польскія дзяржаўныя інстытуцыі павінен быць мацнейшы. Установы, адказныя за Ўсходняе Партнёрства, павінны паказаць інструменты і метады, якія б дапамаглі ў рэалізацыі агульных прынцыпаў Партнёрства. Стварыць механізмы, дзякуючы якім беларусы маглі б чэрпаць карысць са знешніх сродкаў. Пакуль што мы маем дачыненні з чымсьці, што адзін з няўрадавых дзеячоў акрэсліў, як «анёлалогію», у якой гаворка ідзе пра “нябёсныя сферы”, пра вялікую палітыку, але без канкрэтыкі.

Калі гаворка ідзе пра польскія ўстановы, то дзейнасць па падтрымцы беларускай культуры можна ўскласці на мясцовае самакіраванне і ў меншай ступені на недзяржаўныя установы. Рукой дапамогі звонку для беларускіх мастакоў быў бы іх суўдзел у рознага роду праектах з Польшчай, Літвой ці іншымі краінамі Еўрасаюзу. Мы аднак павінны ў меру магчымасці самі генераваць тыя падзеі і ўцягваць у іх беларускіх мастакоў. Для іх гэта вельмі шмат значыць, гэта спроба выйсці навонкі, па-за ўласны асяродак і канфрантацыя таго, што яны робяць, з тым, што дзеецца ў Еўропе.

З боку Еўрасаюзу гэта аднак праблема шырэйшая. Еўрасаюз мае праблему з самім сабой – не толькі ў кантэксце фінансавага крызісу, але найперш са сваім развіццём. Таму, калі глядзець на Брусэль як на цэнтр

аб'яднанай Еўропы, паўстае ўражанне, што мы засяроджаныя толькі на сабе. Гаворыцца пра неабходнасць вырашэння ўнутраных праблемаў ЕС і пра тое, што будзе усё менш сродкаў на тое, каб выходзіць навонкі. Мы, палякі, глядзім на Беларусь, Украіну і Малдову як на патэнцыяльных чальцоў Еўрасаюзу, як на дзяржавы з памежжа, якія будуць усё мацней уцягвацца у сферу аб'яднанай Еўропы (эканамічна і палітычна). Затое для многіх немцаў, французаў, іспанцаў ці італьянцаў гэта абстракцыя, хутчэй цяжар, чым станоўчая вартасць. Я сутыкнуўся з гэтым, напрыклад, падчас пошукаў сродкаў для праекту тэлебачання БелСАТ. Я хадзіў па розных еўрапейскіх інстытуцыях ад дзвярэй да дзвярэй, прамаўляў на спатканнях, падчас якіх вырашалася пытанне аб падтрымцы незалежных СМІ ў Беларусі. Часта ўзнікалі пытанні, на якія цяжка знайсці адказ: «А навошта гэта ўвогуле? Хай там жывуць сабе як хочуць. Хочуць Лукашэнкі - іх справа. Хочуць у Расію – іх праблема. Якое гэта мае значэнне – будзе ў іх еўрапейская тоеснасць ці не?». Быццам бы беларусы сапраўды могуць штосьці ў гэтай справе вырашаць; а яны ж ужо доўгія гады не могуць. Бо ў іх адабралі права вольных выбараў. З далёкай перспектывы заходняй часткі Еўрасаюзу гэта сапраўды менш істотна. Еўрасаюз глядзіць на Беларусь, як на Марока, Алжыр або Лівію. Аднак з польскай перспектывы мы кажам: «Не, гэта краіны з еўрапейскай спадчынай, яны ўключаныя ў наш кантэкст, гэта не суседзі Еўропы, а еўрапейскія дзяржавы, таму ім належыць больш еўрапейскай салідарнасці».

# БЕЛАРУСКАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ КУЛЬТУРА – СПРОБА ДЫФДЫЯГНАЗУ

Беларуская культурная прастора настолькі дыферэнцыянаваная і настолькі ўнутрана супярэчлівая, што, падаецца, няма і не можа быць адзінай яе трактоўкі і ацэнкі. Для многіх беларускай культуры ўвогуле не існуе, і ці гэта праблема выключна самой культуры, ці таксама праблема назіральніка, які не бачыць яе, таму што яна, па нейкіх прычынах, не трапляе ў агульны трэнд і, апдаведна, эфір?

Вы бачыце беларускую культуру? – так і хочацца спытаць у першага-лепшага мінака. І нават калі ягоны адказ будзе адмоўным, з упэўненасцю можна парыраваць фразай з вядомай показкі: «Не бачыце? Але яна (у нас) ёсць».

Пра тое, чаму склалася сітуацыя «невідочнасці» і што з гэтым усім рабіць разважаюць нашыя эксперты. Яны спрабуюць паставіць беларускай незалежнай культуры дыферэнцыяльны дыягназ, вызначыць, якія прышчэпкі і пігулкі ёй трэба прапісаць і які ў яе прагноз – спрыяльны або не, урэшце – пацыент хутчэй жывы ці хутчэй мёртвы?

Эксперты – дэміўргі сучаснай беларускай культуры, якія, аднак, глядзяць на яе і ацэньваюць яе з розных перспектываў і пазіцыяў, што дазваляе атрымаць нам найбольш поўную клінічную карціну.

ТАЦЯНА НЯДБАЙ



ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ

ФІЛОСАФ, ЭСЭІСТ, ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК. У ШЫРОКІХ КОЛАХ ВЯДОМЫ ТЫМ, ШТО ЯГО НЯМА.

## ШТО ДЛЯ ВАС АЗНАЧАЕ ПАНЯТАК «НЕЗАЛЕЖНАЯ КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ»?

Перадусім, ён для мяне азначае культуру дзейную, што выяўляецца як творчая актыўнасць у сітуацыі супраціву фармальнай культуры, легалізаванай палітычным дыскурсам улады. З гэтага, па вялікім рахунку, толькі *незалежная* культура і ёсць уласна культурай у сучаснай Беларусі. Хаця відавочна, што мая тэза залішне радыкалісцкая, каб быць аб'ектыўнай стасоўна ўсіх астатніх кантэкстаў культуры, часам і прыўлашчаных дзяржавай. А ў шматлікіх сферах размежаванне культуры на «залежную» і «незалежную» ўвогуле амаль немагчымае, як, скажам, у дызайне ці сімфанічнай музыцы.

## ЯК ВЫ АЦЭНЬВАЕЦЕ СЁННЯШНІ СТАН НЕЗАЛЕЖНАЙ КУЛЬТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ? ШТО ЗАМІНАЕ АБО СПРЫЯЕ ЯЕ РАЗВІЦЦЮ?

Не ўпэўнены, што тут можа быць нейкі ўніверсальны адказ. *Незалежная* культура выяўляецца ў самых розных відах, жанрах, формах і г.д. Таму, як кажуць, у адным месцы густа, у другім – пуста. Прыкладам, надзвычай багата і дынамічна прэзентуе сябе паэзія. Здаецца, ёй ніяк не замінае ні рэпрэсіўная ўвага ўлады да яе, ні яшчэ больш рэпрэсіўная абыякавасць грамадства. А вось тэатр (за выключэннем «Свабоднага тэатра») у *незалежнай* культуры так і не сфармаваўся, прынамсі як з'ява.

З гэтага аб праблемах і перспектывах можна разважаць толькі адносна нейкай канкрэтнай падзеі, а не ўсяго дыскурса *незалежнай* культуры. А што да гэтага дыскурса як цэлага, дык у яго адна праблема – уласная *незалежнасць*, і адна перспектыва – некалі страціць сваю *незалежнасць* і стацца проста культурай.

**ЯКІЯ ТЭНДЭНЦЫІ РАЗВІЦЦЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ КУЛЬТУРЫ ВЫ ЛІЧЫЦЕ НАЙБОЛЬШ ІСТОТНЫМІ І ПЕРСПЕКТЫЎНЫМІ? ШТО, НА ВАШУ ДУМКУ, МАГЛО Б ЗМЯНІЦЬ СІТУАЦЫЮ ДА ЛЕПШАГА? ЧАГО НЕ СТАЕ НЕЗАЛЕЖНАЙ КУЛЬТУРЫ?**

*Незалежная* культура Беларусі – унікальны феномен. За пару свайго існавання яна стварыла шматлікія адукацыйныя, навуковыя, аналітычныя ды іншыя інстытуцыі, якія плённа працуюць ужо шмат год. Сюды ж далучым мноства газет, часопісаў, альманахаў, выдавецтваў, асветніцкіх, літаратурных, інтэлектуальных ды іншых суполак, адно пералік якіх зойме невядома колькі месца.

У дыскурсе *незалежнай* культуры ўпершыню паўстала і досыць ярка сябе праявіла беларускае нацыянальнае мысленне ўжо менавіта як мысленне. Яшчэ больш адметнай падзеяй сталася даафармленне (пераафармленне) нацыянальнай гістарыяграфіі, якая канцэптуальна перайначыла ўяўленне беларусаў пра іх уласнае мінулае.

Тут (і толькі тут) сфармавалася новая беларуская літаратура, рашуча адрозная – і сутнасна, і якасна – ад той, што была раней. Адным з магчыма і нечаканых вынікаў гэтага пераруху стаўся (без перабольшвання) выбух перакладніцкай літаратуры.

Асобна трэба сказаць пра рок-музыку, якая ў дзевяностыя гады для абуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў адыграла не меншую ролю, чым у сваю пару оперы Вагнера для нацыянальнай свядомасці немцаў…

На гэтым пакуль і спынюся, каб паспець заўважыць, што *незалежная* культура рэабілітавала *ўсю* беларускую культуру за ўвесь час яе суверэннага існавання. І яшчэ. Не за гарамі тая пара, калі наробак *незалежнай* культуры пакладзецца ў аснову ўсёй нацыянальнай культуры. Але пакуль тая пара прыспее, ёй, натуральна, неабходная падтрымка,

паколькі гэта не камерцыйная мас-культура, якая зарабляе на сябе сама. Дзе шукаць гэтую падтрымку ў сітуацыі, калі Дзяржава варагуе з уласнай культурай? Усюды, дзе можна. Хаця канкрэтны адказ на гэтае пытанне, як кажуць навукоўцы, не ў маёй кампетэнцыі.

## ЯК ВЫ АЦЭНЬВАЕЦЕ ЗМЕНЫ Ў НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ, ЯКІЯ АДБЫЛІСЯ ЦЯГАМ АПОШНІХ ДВАЦЦАЦІ ГАДОЎ? ЯКАЯ ПАДЗЕЯ, СІТУАЦЫЯ ЦІ АСОБА ВАС НАЙБОЛЬШ УРАЗІЛА АБО ЗДЗІВІЛА?

Зразумела, за столькі год шмат што мусіла змяніцца. Ужо даўным даўно няма той рамантычнай эйфарыі, якой поўніўся кожны, хто падхопліваўся адраджаць нацыянальную культуру. Ды і сам панятак «нацыянальнага» страціў тую імператыўнасць, якую меў напачатку. Тут я маю на ўвазе славутую трыяду: мова, апрычоная культура, гераізаваная гісторыя. Пакрысе круты нацыяналізм апынуўся на маргінэсе, саступіўшы месца беларусацэнтрызму, які вызначаюць усяго дзве і, да таго ж, даволі абстрактныя канстанты: свабода і пяшчота да сваёй краіны. З гэтага дыскурс «незалежнай беларускай культуры» згубіў сваю строгасць і цэласнасць, але прыдбаў падтрымку сярод той часткі грамадства (найперш рускамоўнай), якую палохаў нацыянальны радыкалізм. Таму сёння *незалежная* культура існуе як бы ў двух фарматах: «беларускім» і «рускім». Але вось што цікава – у адрозненне ад даўнейшай пары, калі рускамоўныя пасіянарыі на Беларусі пачуваліся прыналежнымі да рускай культуры, цяпер яны ў пераважнай бальшыні таксама лічаць сябе прэзентантамі дыскурса *незалежнай* беларускай культуры (хай сабе і яго рускамоўнай версіі). І гэта надзвычай важная, канцэптуальная перамена.

А што да другой часткі пытання, дык перадусім мяне захапляе нашая здольнасць ўжо два дзесяцігоддзі трымаць (хай і не без стратаў) дыскурс *незалежнай* беларускай культуры ва ўмовах татальных рэпрэсіяў, якія дзень пры дні абрыньвае на нас дыктатура. Дарэчы, з гэтага захаплення я нават тост прыдумаў – *За абаронцаў дыскурса!* На Дзень Волі мы з сябрамі ім абавязкова карыстаемся, бо ці не вартая нашая трывушчасць моцнай чаркі?



МІКАЛАЙ ХАЛЕЗІН

ДРАМАТУРГ, ЖУРНАЛІСТ, РЭЖЫСЁР, МАСТАК. АДЗІН З ЗАСНАВАЛЬНІКАЎ І КІРАЎНІК «СВАБОДНАГА ТЭАТРА».

## ШТО ДЛЯ ВАС АЗНАЧАЕ ПАНЯТАК «НЕЗАЛЕЖНАЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ»?

В большинстве цивилизованных стран понятие «независимая культура» отсутствует. «Зависимость» в нашем контексте – это элементарная несамостоятельность, и, как следствие, полное или частичное подчинение государству. А учитывая тот факт, что наше государство – это диктатура, зависимость становится жестким идеологическим барьером, преодоление которого карается отказом в финансировании, лишением возможности легально работать, если не банальным силовым прессингом, выраженным в разной форме.

В цивилизованных странах государства, даже выделяя полное финансирование творческим коллективам, не имеют права вмешиваться в творческий процесс, а следовательно неуместен разговор о «зависимости» или «независимости». К примеру, в Швеции есть два типа театров – государственные и независимые. Государственную финансовую поддержку получают и те, и другие, но «независимые» не получают государственного заказа на постановки. Очевидно, что сегодня мы находимся в терминологическом разрыве с демократическими странами и пользуемся терминологией несвободного общества. Сегодня, говоря о Беларуси, этим термином я объединяю некое сообщество творческих единиц, которые могут творить, игнорируя идеологические установки власти.

Яркий пример – театр «Компания» под руководством режиссера Андрея Савченко, который вот уже несколько лет на абсолютном энтузиазме и без всякой поддержки со стороны театрального сообщества ставит и играет спектакли на арендованных площадках города.

## «ЗДЕСЬ И ТЕПЕРЬ» БЕЛАРУССКОГО ТЕАТРА

Несмотря на общую *однообразную* обстановку в государственных театрах, полную их незаинтересованность в молодых специалистах (случай с Екатериной Аверковой исключение), новое театральное поколение очевидно не желает сегодня мириться с заданным «однородным» направлением. Благодаря доступности информации, свободе географического передвижения молодое поколение драматургов, режиссеров, актеров не только ставит вопрос о необходимости обновления беларусского театра, но предпринимает конкретные действия.

Так, одним из ярких независимых театральных проектов последнего времени является «Театр Евгения Корняга», который, отталкиваясь от формы, заданной немецким хореографом Пиной Бауш, предлагает свое уникальное видение пластическо-драматического театра. Несмотря на немалую цену билетов (связанную, в первую очередь, со стоимостью аренды помещения), «Cafe “Поглощение”», «Не танцы» Корняга собирают полные залы. Такой же популярностью пользуется и независимый Театр современной хореографии D.O.Z.SK.I Дмитрия Залесского и Ольги Скворцовой.

Определенным прорывом для беларусской сцены стала постановка пьес уже признанного мировым сообществом скандального ирландского драматурга М. Макдонаха сначала в Новом театре, а затем на малой сцене Национального театра имени Янки Купалы. К сожалению, эти опыты не только не получили должной поддержки со стороны профессиональных критиков, но даже наоборот, журналисты отдельных государственных

изданий обвинили режиссеров и руководителей театров в том, что они не понимают, «о чем хотят сказать», а драматург, в принципе, «бледный». Конечно, после такой рецензии попадание в репертуар современных пьес ставится под вопрос.

На общем фоне особо выделяется деятельность режиссера Беларусского театра кукол Алексея Лелявского, который помимо плановых постановок спектаклей для детей работает в области экспериментального building theatre (синтез форм драматического, кукольного, пластического театров). Интересными в этом плане являются его спектакли по пьесам А. Чехова «Чайка», «Вишневый сад», «Драй швестерн» («Три сестры»), в которых он, используя опыт современного европейского театра, смело интерпретирует русского классика.

Успешно и эстетически полноценно продолжает существовать ставший легендой еще со времен экспериментального студийного движения 1980-х пластический театр Вячеслава Иноземцева «ИнЖест». В непростых материальных условиях, до сих пор не имея собственной площадки, «ИнЖест» не только играет спектакли, экспериментируя с различными формами (пластика, танец буто, игровой театр, видео), но и содержит собственную студию, которая обеспечивает театру обновление актерских кадров.

Уникальным в своем роде для беларусского театрального пространства остается «Свободный театр». На сегодняшний день это единственный в Беларуси перманентный театральный проект, который максимально правдиво (некоторые называют это политической спекуляцией) пытается отражать самое актуальное беларусское (как политическое, так и социальное) «здесь и теперь».

«Свободный театр» не только разрешил себе говорить обо всем, что его волнует. Он сделал это основным принципом своей деятельности. То, что табуировано официально, в жесткой бескомпромиссной форме воплощается на подмостках «Свободного театра». К сожалению, после последних президентских выборов труппа театра попала в список «запрещенных» на территории Беларуси, поэтому вынуждена существовать за пределами родины.

Продолжателями деятельности «Свободного театра» стали студенты созданной несколько лет назад при театре студии «Фортинбрасс». В полуподпольных условиях, не имея специального театрального

образования, ребята пишут пьесы (пьеса Риммы Ушкевич «Безупречный» вошла в шорт-лист конкурса современной драматургии HotInk в Нью-Йорке), публично читают их, дебютируют как режиссеры.

Еще одним значимым событием в беларусском театральном пространстве стал международный фестиваль альтернативных театров «Тот Самый Фестиваль», организованный группой энтузиастов театра-студии «Рондо» при поддержке немецкого культурного центра в Бонне. На протяжении шести дней минский зритель смог познакомиться с уличным, драматическим, пластическим театрами из США, Чехии, Словакии, Словении, Польши, России и Беларуси. Зрительский интерес, с которым был воспринят этот фестиваль, еще раз подтвердил «дефицит» в Беларуси альтернативных театров, развитие и движение которых абсолютно не поддерживаются государственными программами.

Конечно, «Не танцы» Евгения Корняга, «Быть Гарольдом Пинтером» Владимира Щербаня или «Доступ к телу» Вячеслава Иноземцева в контексте европейского театра, т. е. с точки зрения их формы, не являются новаторством. Но для Беларуси каждый из этих проектов становится победой, шагом на пути к появлению театральной *множественности*. В царящей «монотонности» важным становится не то, как это сделано, но сам факт произнесения и воплощения другого материала другими средствами.

К сожалению, многие из этих проектов не имеют достаточной информационной поддержки, проходят в полуподпольных условиях либо показываются один раз в виде сценического чтения. Такая «элитарность» негативно сказывается на формировании разнообразного театрального поля, поддерживая миф о беларусской театральной беспомощности.

Важно отметить, что авторы этих проектов новую для беларусского театра форму вынуждены «изобретать». На сегодняшний день в Беларуси не существует театрального образования, альтернативного академическому. В Беларусской Академии Искусств готовят специалистов, способных работать, в первую очередь, в традиционном театре. В программе обучения абсолютно отсутствуют курсы по современным практикам и направлениям. Студентам приходится постигать *другой* театр самостоятельно – через книги, увиденные спектакли, опыт мастер-классов зарубежных специалистов.

Однообразие, устаревшие учебные программы, фактически отсутствие высококвалифицированных педагогов стали причинами того, что уже много лет молодые люди уезжают учиться за границу. Чаще всего, закончив обучение, они там остаются, потому что, как показывает практика, в Беларуси они становятся невостребованными.

Так, например, осталась в Москве молодой режиссер Ольга Соротокина. Ее дипломная работа – «Столица Эраунд» по пьесе молодого беларусского автора Сергея Гиргеля – была сразу замечена не только в Беларуси. Спектакль представлял Беларусь на старейшем европейском фестивале «Новые пьесы из Европы» в Висбадене. После этого Ольгу пригласили работать в Республиканский Театр Беларусской Драматургии и за год не дали осуществить ни одной постановки. Ольга поступила в аспирантуру Центра имени Мейерхольда в Москве, закончив которую, там и осталась, понимая, что на родине ей придется набивать много «шишек», отстаивая свои индивидуальные творческие замыслы.

От существующего сценического однообразия страдает, в первую очередь, публика, которой в результате приходится выбирать между театром развлекательного характера и «беларусским» театром. Такая ситуация как нельзя лучше характеризует направленность идеологии в Беларуси, где для думающего, интеллектуального, провокационного театра места не находится.

Конечно, с одной стороны, существующие обстоятельства затормаживают развитие беларусского театра. С другой – являются мощным стимулом для нового поколения театралов, которые, не надеясь на поддержку со стороны государства, пытаются существовать автономно. Это позволяет надеяться, что в ближайшем будущем беларусский театр все-таки выйдет на новый этап своего развития.

ТАТЬЯНА АРТИМОВИЧ

Асяродак незалежнага тэатра ў Беларусі на сённяшні дзень існуе разрознена і хаатычна; гэта пераважна асобныя праекты, нерэгулярныя фестывалі, разавыя спектаклі.



K.S.

# НЕЗАЛЕЖНЫ БЕЛАРУСКІ ТЭАТР – МІФ ЦІ РЭАЛЬНАСЦЬ?

Пытанне «Ці існуе ў Беларусі незалежны тэатр?» гучыць амаль рытарычна для краіны, у якой усё належыць дзяржаве. Дваццаць сем дзяржаўных драматычных тэатраў існуюць дзякуючы дзяржаўнаму фінансаванню і выконваюць рэпертуарныя планы, якія загадзя ўзгадняюцца з Міністэрствам культуры. Гэта азначае неабходнасць вярнуць заінвеставаныя дзяржавай грошы. Абавязковым з'яўляецца атрымаць згоду Міністэрства культуры на пастаноўку той ці іншай п'есы, а таксама дазвол і сродкі, каб прыняць удзел у міжнародным фестывалі.

## ШЭРАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ

Тэрыторыя культуры ў Беларусі ўспрымаецца дзяржавай, як дадатак, на які, на жаль, трэба выдаткоўваць грошы, і тое, што яна сама сябе не акупае, не прыносіць стабільны і вялікі прыбытак, звычайна выклікае здзіўленне.

Фондаў па падтрымцы культурных праектаў у Беларусі не існуе, сістэма мецэнацтва не функцыянуе, бо бізнэсмэны проста не разумеюць значэння датацый сферы культуры. Акрамя таго, дзяржава замест таго,

каб знізіць мецэнатам падаткі, як гэта адбываецца, напрыклад, у ЗША, адразу ж запытае іх пра крыніцу паходжання грошай, прызначаных для культуры.

Ці патрэбны Беларусі незалежны тэатр? Ці існуе ён сёння наогул?

Кансерватыўнасць, «закрытасць» беларускай культуры і напружанасць у грамадстве праз складаную палітычную сітуацыю ў краіне не спрыяе з’яўленню новых тэатральных праектаў. Тыя, што існуюць, – існуюць насуперак усяму. Найбольш вядомым з’яўляецца «Свабодны тэатр» Мікалая Халезіна, які ў сваёй творчасці адкрыта выказваецца пра беларускую палітычную сітуацыю. Незалежны тэатр у Беларусі на сённяшні дзень існуе ў выглядзе разрозненых і хаатычных ініцыятываў, гэта пераважна асобныя праекты, нерэгулярныя фестывалі, разавыя спектаклі.

Творчыя лабараторыі, што часам праводзяць замежныя калегі, з’яўляюцца «разавай ін’екцыяй». Падчас працы, вядома, паўстаюць новыя планы, праекты, нават спектаклі, але калі госці з’язджаюць, беларускія творцы не ведаюць, што рабіць далей, дзе ставіць гэтыя спектаклі і як рэалізоўваць новыя ідэі.

Акрамя таго, творцы не знаходзяць моцнай матывацыі, каб здзяйсняць праекты, якія могуць проста не адбыцца праз бюракратычныя перашкоды і якія не здольныя акупіць сябе, бо публіка прызвычаілася да таго, што тэатр – гэта нешта сур’ёзна-рэалістычна-пафаснае, месца, куды трэба прыходзіць увечары і святочна апранутым. Менеджараў культуры ў дзяржаўных установах, вядома, не вучаць, як заснаваць незалежны тэатр ці рэалізаваць праект пры падтрымцы міжнародных культурных фондаў. Менавіта таму няма і прафесійных менеджараў.

Збянтэжанасць і разгубленасць, што пануе ў грамадстве сёння, не спрыяе з’яўленню цікавых творчых ініцыятываў. Моладзь, якая пачынае актыўна і паспяхова рэалізоўваць сябе на беларускай сцэне, хутка разумее, што тут, у Беларусі, «каралеўства малое» і «разгуляцца няма дзе», а да таго ж «правілы гульні выразна акрэсленыя», таму вялікая колькасць здольных і таленавітых проста з’язджае за мяжу. Энтузіязму тых, хто застаецца змагацца з шэрай рэчаіснасцю, таксама хапае ненадоўга: такія якасці, як індывідуальнасць, лідэрства і непадобнасць да іншых, прыроўніваюцца да небяспечных для грамадства і выцясняюцца. Шмат

якія цікавыя ідэі і праекты так і застаюцца нерэалізаванымі, а планы – няздзейсненымі.

Незалежны беларускі тэатр на сённяшні дзень – маленькая выспа ў беларускай тэатральнай культуры, якая, тым не менш, не дазваляе «рацэ застаяцца». Менавіта такую мэту і ставяць перад сабой Тэатр «Інжэст» Вячэслава Іназемцава, Тэатр «D.O.Z.SK.I» Вольгі Скварцовай і Дзмітрыя Залескага, праект «КарнягТЭАТР» Яўгена Карняга – гэтыя праекты спрыяюць развіццю і мадэрнізацыі мастацкіх ідэй.

## ВЫСПА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Рэжысёр Яўген Карняг пачынаў у Мінску: скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «Актор тэатра лялек», рэалізаваў шэраг яркіх праектаў і перабраўся ў Маскву – паступіў у рэжысёрскую магістратуру Цэнтра імя Мейерхольда. Аднак працягвае ставіць спектаклі і ў Беларусі. Ягоны «КарнягТЭАТР», дарэчы, не мае сцэнічнай пляцоўкі і сталай акторскай трупы. Маладыя акторы і мастакі, што працуюць у разнастайных дзяржаўных тэатрах, аб'ядноўваюцца для рэалізацыі праектаў і пастановак.

Спектакль «Café “Паглынанне”» пару гадоў таму стаў маладзёвым маніфестам у прасторы пошука эксперымента. Выкарыстоўваючы лозунг «З тэатрам скончана», стваральнікі пастаноўкі змянілі традыцыйную сцэну на прастору начнога клуба, а гледачоў зрабілі ўдзельнікамі спектакля. Дзеянне складаецца з фрагментарных кавалкаў: танцавальныя нумары, маналогі персанажаў і пластычныя сцэны. Яўген Карняг змешвае розныя пласты грамадскага жыцця, іранізуе і кідае публіцы ў твар непрыемную праўду. Ён выварочвае вонкі тое, што так карпатліва хаваецца, закранае табуяваныя для беларускага тэатра тэмы – аборт, наркотыкі і «цеснata» правінцыйнай дзяржавы.

Персанажы «Café “Паглынанне”» – клубныя дзяўчаты, занятыя сваімі эмацыянальнымі перажываннямі, фобіямі, комплексамі. Гераіня Кацярыны Аверкавай – мадэль, хворая на анарэксію, яна мяняе сукенкі і пазіруе перад камерамі, пакутуе ад таго, што лічыць сябе тоўстай, з цягам часу не можа ўжо нічога есці. Цяжарная гераіня Юліі Міхневіч спрабуе таньчыць у клубе нават з вялікім пузам, якое ёй, безумоўна,

замінае. У нейкі момант яна пачынае лупцаваць сябе кулакамі па жываце, агрэсіўна крычаць пра тое, што гэтае дзіця ёй абрыдла. Сцэну аборта Карняг паказвае цалкам метафізічнымі сродкамі: пасярэдзіне пляцоўкі ў вялізным цэлафанавым мяшку, які паступова напаўняецца дымам, знаходзіцца гераіня Валянціны Гарцуевай. Яна спрабуе выбрацца адтуль, задыхаецца, крычыць і, апошні раз глынуўшы паветра, падае. Тады яе, як непатрэбную ўжо дэталь дэкарацый, схапіўшы за рукі, цягнуць па падлозе, пакуль цела зусім не знікае з поля зроку гледачоў. *Show must go on*. Гераіня Міхневіч выскоквае на сцэну ўжо без выпуклага жывата, жвавая і цалкам задаволеная і зноў пачынае танчыць, цяпер ёй ужо нічога не замінае атрымліваць асалоду ад жыцця.

Карняг лёгка змешвае трагічнае з іранічным, мінулае з сучасным. Наступная сцэна – кульмінацыя іроніі ў дачыненні да абсурднай рэчаіснасці, дзе побач суіснуюць савецкае мінулае і еўрапейскае сучаснае. У кампаніі клубных нафарбаваных дзяўчат з'яўляецца няўцямная гераіня ў нацыянальным убранні, якая спрабуе сказаць нешта патрыятычна-пафаснае, нават зацягнуць песню і затанчыць «Лявоніху», што атрымліваецца ў яе няўдала, нязграбна і выглядае зусім камічна. Па невялікім чорна-белым тэлевізары, што знаходзіцца справа ад гераіні, у гэты час паказваюць працу камбайнёраў, а дыктар распавядае пра колькасць ураджаю. Гераіні ў бліскучых модных сукенках шчыра смяюцца і здзекуюцца з яе, і яна, нібы ўсвядоміўшы ўсю дзікасць і бессэнсоўнасць сваёй прысутнасці ў гэтым месцы, знікае са сцэны. Іронія Я. Карняга, гратэскавая і дакладная, у дачыненні да рэчаіснасці, якая так лёгка распазнаецца, трапляе ў самую сутнасць справы. Дакладна выяўляецца душнае паветра і балоцістая мясцовасць, час у якой нібыта спыніўся. Менавіта таму гераіня Вольгі Скварцовай пасля экспрэсіўнага танца забіраецца на вялізную калонку і істэрычна крычыць: «Я не чую музыку, зрабіце грамчэй!» - хаця дынамік разрываецца ад моцнага гука. «Я ўжо ўсё бачыла ў гэтай краіне, усюды была, мне тут цесна, я хачу ў новы клуб у Нью-Йорку», – лямантуе яна.

Гэты спектакль, як і іншыя («Не танцы», «Бясконца», «Birthday party», «C'est la vie. Exercices pres du baton»), не быў пастаўлены паводле якога-небудзь драматургічнага твора. Свае спектаклі Карняг прыдумляе сам, аддаючы дамінуючую ролю пластыцы актора. Калі ў «Café "Паглынанне"»

быў лозунг «З тэатрам скончана», то спектакль, прысвечаны праблеме гвалту, называецца «Не танцы».

Карняг гаворыць пра тое, пра што зазвычай маўчаць, выцягвае на паверхню чалавечы боль і экзістэнцыю, паказвае гэта, не шкадуючы гледача, каб той абудзіўся ад літургічнай мроі, пачаў рэфлексіраваць і аналізаваць.

Тэатр «Інжэст» стаў у Беларусі пачынальнікам прафесійнага пластычна-эксперыментальнага тэатра. На сёння «Інжэст» – гэта вядомы тэатральны брэнд, які існуе з 1980 г. і прадстаўляе шырокі спектр тэатральнага вербальнага пошуку: клаўнада, хэпенінгі на вуліцах, танец Буто. Геаграфія гастроляў «Інжэста» – шырокая: Расія, Нямеччына, Польшча, Украіна, Нідэрланды, Швецыя і г.д. Сумесныя праекты трупа рэалізуе з польскім «Teatrem Formy» Юзэфа Маркоцкага і японскім «Ten pen chii».

Вячаслава Іназемцава хвалюе чалавечая экзістэнцыя і звязаныя з ёй пакуты. Ён гуляе з сэнсамі і шматзначнымі асацыяцыямі. Ягоны вядомы спектакль «ДКДанс» паказваў чалавека, з якога здзерлі абалонку, скуру, усё прыўнесенае і вонкавае, дэманстраваў чалавечую існасць па-за формай, у чыстым выглядзе. Цалкам аголенае чалавечае цела сімвалізавала вяртанне да каранёў, прыроднай арганікі, катарсіс і перанараджэнне. Фізіялагічнасць сталася маніфестацыяй актора, у якой ён пазбаўляўся асабовасці, псіхікі, пола. Дарэчы, «Інжэст» ці не ўпершыню ў беларускім тэатры звярнуўся да фізіялагічнасці. «Мне цяжка змяшчаць свет у рамкі», – кажа Іназемцаў, і таму стварае адкрытую для ўспрыняцця асацыятыўную прастору. У спектаклях, што адбываюцца на сцэне, «Інжэст» выкарыстоўвае элементы вулічнага тэатра. У «ДКДансе» актор з'яўляўся на вялікіх хадулях, якіх паступова «пазбаўляўся»: гучная бензапіла ў руках іншага персанажа рабіла сваю справу – падпілоўвала ягоныя хадулі, пакуль ён зусім не падаў на ўскрайку сцэны. Але ўздымаўся: фінальная сцэна, дзе Іназемцаў спрабуе устаць і нібыта вучыцца хадзіць нанова, – услаўленне моцы чалавечага духу.

Тэатр «D.O.Z.SK.I» Вольгі Скварцовай і Дзмітрыя Залескага быў заснаваны ў 2005 г. Стваральнікі вызначаюць свой жанр як «contemporary dance», яны выкарыстоўваюць сінтэз харэаграфічнага і драматычнага мыслення. Іх «Дах» пару год таму выклікаў бурную рэакцыю публікі, на спектакль вельмі складана было дастаць квіткі. Экспрэсіўная пластыка актораў, дынамічная пабудова прасторы, музыка і святло, што рабіліся

паўнавартаснымі ўдзельнікамі спектакля, стваралі дзеянне з моцнай энэргетыкай і жывым нервам. «Дах» распавядаў пра стан чалавечай душы і псіхікі, які выйшаў з-пад кантролю. Акторы пры дапамозе пластыкі акрэслівалі ўзаемаадносіны персанажаў, што заблыталіся ў пачуццях, дзеяннях і апынуліся ў хаасе. Гарачая і напятая, як струна, атмасфера спектакля перарываецца рэзкім крыкам актрысы: «Я нічога ўжо не разумею»; далей – цішыня і затрымка дзеяння падчас якога акторы ўважліва ўглядаюцца ў твары гледачоў. Але калі ў Яна Фабрэа нечаканыя перапынкі, падчас якіх акторы кураць цыгарэты і назіраюць за публікай, могуць працягвацца 10–30 хвілін, то ў тэатра «D.O.Z.SK.I» – гэта хвілінны перапынак, пасля якога дзеянне набірае новыя абароты, пакуль усе ўдзельнікі пастаноўкі не апынаюцца на даху. Стаяць, глядзяць уніз. Паўза. І калі ў Сары Кэйн гераіня не знаходзіла выйсце і прымала вялікую дозу лекаў, то ў «ДАХу» момант выбару пераходзіць у момант катарсісу. Знізу, куды ўзіраюцца персанажы, запальваецца святло, і героі, узяўшыся за рукі, проста падскокваюць на месцы, ператвараючы дзеянне ў жарт.

У чэрвені 2009 г. ў Варшаве адбылася прэм’ера спектакля «Мухі на сонцы, альбо Бяссоніца», у кастрычніку таго ж году тэатр прыняў удзел у маскоўскім фестывалі «Этніка» з працамі «Сталасць» і «Ў даліне лёсу», а ў лістападзе яны атрымалі Гран-пры на міжнародным фестывалі сучаснай харэаграфіі ў Віцебску за аднаактныя спектаклі «Homo sapiens» і «Камень, нажніцы, папера».

Першы незалежны Міжнародны тэатральны фестываль эксперыментальных тэатраў «Той самы фестываль» прайшоў зусім нядаўна – 21–26 красавіка 2011 г. Арганізатарамі фестываля сталі тэатр-студыя «РОНД», тэатр-студыя імя Еўсцігнея Міровіча, суарганізатары – Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Цэнтр беларускай драматургіі і рэжысуры, канцэртна-прадзюсерскае агенцтва «Бопромо» і Муніцыпальная ўстанова па культуры г. Бона (Нямеччына). За сваю мэту фестываль ставіў адкрыццё ў Беларусі платформы для міжкультурных дыялогаў у сферы сучаснага тэатра. На працягу шасці дзён 18 тэатральных труп і больш за 280 удзельнікаў і спецыяльных гасцей рэалізоўвалі разнастайную праграму. Яе аснову склалі вулічныя і пластычныя спектаклі эксперыментальных калектываў Германіі, ЗША, Славакіі, Славеніі, Польшчы, Расіі і Беларусі, а таксама работы юнацкіх тэатраў Маладзёжнай праграмы фестываля, у лік якіх

увайшлі 2 дабрачынныя паказы: мультфільмы студыі дзіцячай анімацыі «Мы ёсць!» (навукова-практычны цэнтр, п. Бараўляны) і спектакль лялькавай студыі «Ціхі Акеан» (дом-інтэрнат для дзяцей-інвалідаў). Важную частку фестываля склалі бясплатныя майстар-класы: майстар--клас па кантактнай імправізацыі правёў Карэл Ванег з Нямеччыны, «Танец буто» быў праведзены Лілі Эмерсан з ЗША, «Вулічны тэатр», які ўключаў таксама ўдзел у флэш-мобах, – арганізаваў **Куд Люд са Славеніі,** майстар-клас па працы з маладзёжнымі тэатрамі Ціна Юкер з Нямеччына, майстар-клас па драматургіі імправізацыі правяла Вераніка Насальская з Казахстана. Праграма падзялілася на пластычную і драматычную часткі. Пластычную частку склалі спектаклі тэатраў «Інжэст», «Карняг-ТЭАТР», «D.O.Z.SK.I», «EYE», тэатр-студыя «РОНД», тэатр-студыя «Бармаглот» (Беларусь), «Тэатр Карэла Ванэка» (Нямеччына), «Debris Company» (Чэхія), «Lucid Street Theatre» (ЗША), «Kud Ljud» (Славенія). Драматычная частка была прадстаўленая такімі тэатрамі, як «Studium Teatralne» (Польшча), «Валакалаамскі Народны» Тэатр (Расія), «Марабу» (Нямеччына), «Д.Е.М.И.» (Расія).

## МАЛАДЫЯ РАЗЗЛАВАНЫЯ

Асобнай тэрыторыяй незалежнага беларускага тэатра з'яўляецца новая беларуская драматургія, што паўстала на пачатку нулявых гадоў і для пастановак якой у Беларусі пакуль што не склаліся ўмовы. Маладыя «раззлаваныя» следам за ангельцамі Сарай Кэйн і Маркам Равенхілам, расійцамі Васілём Сігаравым і Максімам Курачкіным, палякамі Міхалам Вальчакам, Марэкам Прухнеўскім ствараюць творы, якія датычацца чалавека, што дзейнічае тут і цяпер. Тэматыкай найноўшай драматургіі становіцца татальная камунікацыйная раз'яднанасць, пачуццё адчужанасці, «закрытасць» асобы, нестабільнасць эмацыйнага стану, дэпрэсія, спажывальніцтва, крызіс сям'і, аборт, гвалт, няздольнаць да самаідэнтыфікацыі.

Павел Пражко – адзін з самых яркіх прадстаўнікоў альтэрнатыўнай драмы; ён смела ўздымае зусім новыя для Беларусі тэмы. Ягоныя п'есы з поспехам ідуць за мяжой. «Жыццё ўдалося», напрыклад, была пастаўлена адначасова ў двух вядомых маскоўскіх тэатрах: Міхаілам

Угаравым у «Тэатры.doc» (спектакль, дарэчы, атрымаў галоўную расійскую тэатральную прэмію «Залатая Маска» у 2009 г.) і Эдуардам Баяковым у тэатры «Практыка».

Героі гэтага твора – падлеткі. Гісторыя чатырох маладых людзей: братоў – настаўнікаў фізкультуры – і дзяўчын-школьніц прадстаўляе сабой зрэз жыцця, у якім у персанажаў няма ні думак, ні жаданняў, а ёсць толькі фізіялагічныя патрэбы, якія яны намагаюцца задаволіць, мяркуючы, што менавіта гэтага ім не стае для шчасця. Яны шчыра ўпэўненыя, што іх жыццё «ўдалося», але шчасця няма, і кахання няма і фізіялогія радасці не прыносіць. Вяселле Аляксея і Алены – відавочны трагіфарс, падобны да медыйных reality show: жаніх напіваецца і засынае ў прыбіральні, а нявеста прыходзіць да высновы, што кахае брата жаніх. Пражко паказвае жыццё аднаклетачных арганізмаў, якія не маюць волі і рэфлексіі. Бясконцыя самапаўторы і паўзы выяўляюць няздольнасць персанажаў выказаць тое, што яны адчуваюць. Героі, дарэчы, не забойцы, не злодзеі, яны проста – «планктон». Рэмарка «і ні аб чым не думае» (з п'есы «Зачыненыя дзверы») працягвае тэму замбаванага планктона. Дастасоўваючы яе практычна да ўсіх герояў, Пражко настойвае на няўменні герояў мысліць і рэфлексаваць. Персанажы імітуюць жыццё, не знаходзячы матывацыі для яе паўнавартаснага пражывання. Герой Валера імітуе наяўнасць прыватнага жыцця перад бацькамі: абсалютна чужая дзяўчына грае роль яго каханай, сам жа ён, як паведамляе рэмарка, «нічым не зацікаўлены». Адсутнасць пачуццяў, індыферэнтнасць, няздольнасць паўнавартасна пражываць жыццё, татальная стомленасць і абыякавасць да знешняга свету вымушае персанажаў не пражываць, а імітаваць жыццё.

Акрамя творчасці Паўла Пражко, вядомай за межамі Беларусі з'яўляецца і творчасць Мікалая Рудкоўскага. Аўтар іранічна і дакладна перадае інтанацыю часу, які змяніўся, і канстатуе праблемы сучасных рэалій. Камедыя «Дажыць да прэм'еры» – гэта татальная іронія з шырока распаўсюджаных памятных ваенных датаў, якія сёння «карыстаюцца вялікім поспехам» у беларускім тэатры ў выглядзе пафасна-касцюміраваных пастановак. Актрыса Вера рыхтуецца да «ваеннай» прэм'еры ў сваім тэатры і прагне ў поўнай меры адчуць і пражыць выпрабаванні сваёй гераіні-партызанкі. Яна аддае нейкай бабулі дарагія касцюмы мужа-бізнэсмена за дзве скарынкі хлеба, якія і падае яму на вячэру. Сваю баявую сяброўку яна прымушае адмовіцца ад салярыя

і салонаў прыгажосці. Тая, вядома ж, спачатку адмаўляецца, але потым і сама пранікаецца гэтымі «ахвярнымі ідэямі». Кульмінацыяй кур'ёзу становіцца сцэна, дзе на просьбу Веры яе гвалцяць на вачах у мужа, які траціць прытомнасць ад пабачанага. Парадаксальная сітуацыя тут даведзеная да абсурду. Феерычная іронія драматурга ў дачыненні да замбаванай свядомасці здымае налёт сур'ёзнасці, але не памяншае глыбіні праблем.

Пакуль у Беларусі не склаліся ўмовы для пастаноўкі такіх п'ес. Маладыя рэжысёры, зацікаўленыя ў гэтых творах, сцвярджаюць, што не маюць пляцоўкі для іх рэалізацыі, тэатральныя менеджэры не ведаюць як спалучыць юрыдычна-фінансавыя нюансы з патрэбамі творцаў і гледачоў. Крытыкі сцвярджаюць, што мастацкі вынік такіх спектакляў будзе паўторам і бляклай копіяй расійскіх ці польскіх калег. І, пэўна, у нейкай ступені маюць рацыю: моцная рэжысура ў Беларусі ў такіх закансерваваных умовах проста не можа сфармавацца і свабодна рэалізоўвацца. Гэтую сітуацыю ўскладняе і іншае пытанне – ці мажлівы паўнавартасны арыгінальны і наватарскі тэатр ва ўмовах татальнай нестабільнай сітуацыі ў краіне? І ці можа творца думаць пра высокія і духоўныя рэчы, калі цяпер пры сярэднім заробку ў 250$ кілаграм грэчкі каштуе 4$?

Абсалютна відавочна, што незалежны тэатр не народзіцца сам сабою. Беларусам на сённяшні дзень патрэбная вялікая доза замежнай ін'екцыі і дапамогі know-how ў выглядзе лабараторнай працы, узаемных праектаў і элементарных майстар-класаў для рэжысёраў і менеджараў на тэму таго, як ажыццявіць праект ці арганізаваць фестываль. Дзяржаўныя інстытуты здольныя навучыць, на жаль, толькі кансерватыўнай тэорыі, а не таму, як прымяняць ініцыятыву нароўні з юрыдычна-арганізацыйнымі ведамі.

К.С.

Беларусь до сих пор остается «белым пятном» на музыкальной карте Европы. Возможно, такая «изолированность» стала причиной того, что для беларусского музыкального андеграунда характерны оригинальный стиль и авторская интонация.



СЕРГЕЙ ПУКСТ

# БЕЛАРУСЬ: БЕЛОЕ ПЯТНО НА МУЗЫКАЛЬНОЙ КАРТЕ ЕВРОПЫ

Одной из причин *отсутствия* беларусской музыки в мировом музыкальном пространстве является то, что за 20 лет после распада Советского Союза в нашей стране так и не был сформирован музыкальный рынок, который способствовал бы продвижению отечественного музыкального «продукта» на Запад и Восток.

Шоу-бизнес, в первую очередь, предполагает некую конкуренцию. Тогда возникает противостояние артистов, подключается «желтая» пресса, провоцируя «скандалы» и поддерживая интерес слушателя. В Беларуси конкуренция проходит «келейно», потому что большинство эстрадных артистов работает в довольно замкнутых государственных структурах, например в Театре эстрады Василия Раинчика или в оркестре Михаила Финберга. Соответственно, те и другие, конкурируя внутри этих организаций, стараются не выносить «сор из избы».

Рок-звезды также пьют и ругаются, по большей части в своем кругу, стараясь жить дружно, но в плане творчества двигаться строго параллельно. При этом ни поп-, ни рок- звезды, если

понимать определение «шоу-бизнес» буквально, не заинтересованы в демонстрации своей «личной драмы». Поэтому беларусский шоу-бизнес ограничивается «колодой» видеоклипов, которые являются своего рода визитками на случай возможных корпоративных мероприятий.

Как и в советские времена, беларусская музыка четко разделяется на «официальную» и «неофициальную». «Официальные» группы имеют всё: зарплату, концертные залы, аппаратуру, гарантированное количество концертов и, как следствие, условную, статистическую популярность. На «неофициальные» группы государство не тратит ни копейки. В принципе, оно и не обязано на них тратиться. Проблема заключается в другом: в условиях жесткого государственного регулирования практически отсутствуют источники существования для музыкантов, которые не вписываются в государственную структуру. Эти музыканты существуют сами по себе, и, соответственно, финансовый успех «Ляписа Трубецкого», «Серебряной свадьбы», «Троицы» и «N.R.M.» является реальным показателем их истинной конкурентоспособности и зрительской любви. Но нужно отметить, что, даже имея большую зрительскую аудиторию в Беларуси, эти группы зарабатывают, как правило, за пределами страны.

Таким образом, можно сказать, что на сегодняшний день в Беларуси профессионального музыкального сообщества все-таки нет. Музыканты существуют как «люди-острова», в основном прислушиваясь к звукам внутри себя. То есть коллегиальное общение, конечно, происходит, но не носит уродливых открыто тусовочных форм. Как ни парадоксально, это идет на пользу: такая внешняя и внутренняя (само)изоляция способствует существенному своеобразию беларусской музыки. Ощущение собственной адекватности не является результатом усилий продюсера – это нечто интуитивно нащупываемое самим музыкантом. Процесс совсем не простой, но куда более честный, чем механическое повторение нескольких внутрижанровых аккордов, чтобы работать манекеном подростковой самоидентификации. *Это если говорить о немногих «плюсах» сложившейся ситуации*.

Теперь о «минусах» для музыкантов. Беларусскую «звезду» вчерашнего концерта можно запросто встретить утром в метро: музыкант едет на свою «мирскую» работу. Очень немногим удается зарабатывать своим творчеством. Помимо «официальных» исполнителей, работающих в государственных музыкальных организациях (что, нужно отметить,

значительно ограничивает их творческий рост), стабильно может существовать только ресторанный музыкант (что, с другой стороны, также не способствует его развитию).

В любом случае даже в такой, казалось бы, неблагоприятной ситуации в Беларуси появляются исполнители и группы, которые находят своего зрителя на родине и за рубежом. Это, как правило, те музыканты, которые попадают в сектор «неофициальной» музыки и которым удается существовать «вопреки».

## «ГРУППЫ-С-ХАРИЗМАТИЧНЫМИ-ЛИДЕРАМИ»

«Группы-с-харизматичными-лидерами», как правило, существуют на постсоветской сцене уже больше 20–30 лет. В конце 80-х, в переломный момент советской истории, именно музыканты-«трибуны» оказались особенно востребованными. Музыкальная революция, которая на Западе произошла в конце 60-х годов, в Беларуси свершилась в конце 80-х.

Именно с этим обнадеживающим временем у меня связана личная эстетическая «травма»: действительно новой, интересной музыки так и не появилось. Беда заключалась в том, что на Западе сексуальная революция и ЛСД создали и оформили новую музыкальную эстетику. Беларусская революция произошла прежде всего на политическом уровне. Музыкальных идей, как оказалось впоследствии, было совсем немного. Главным оружием для музыкантов стало слово.

Самыми яркими в этом смысле оказались две группы: «Ляпис Трубецкой» и «Мроя», позже «N.R.M.».

«Ляпис Трубецкой» сегодня, очевидно, является группой номер один. Надо сказать, что еще в конце 80-х в разваливавшемся Советском Союзе стали популярными запрещенные прежде авторы – писатели-абсурдисты Даниил Хармс, Александр Введенский и др., которые задали невиданный прежде уровень самоиронии. Солист группы Сергей Михалок чрезвычайно точно эту тенденцию ощутил. Сквозь его скоморошьи стихи поблескивала некая амбивалентная истина, которая тут же торопилась превратиться в шутку. Сергей работал в образе провинциала и, в частности, идеально передавал бездну девственного сознания, которое самым диким образом встраивалось

в урбанистическое окружение. Этот образ эксплуатировался им чрезвычайно долго и разнообразно до начала «нулевых».

В 2000-х произошла освежающая смена имиджа. Сергей стал подтянутым, бодрым, татуированным. Стал высказываться в актуальном антиглобалистском ключе. Всё это, правда, воспринималось пока как очередной «прикол». В контексте творчества «ЛТ» в искренность ее лидера сложно было поверить. Обострение интереса к группе подсказало, что «прикол» срабатывает. Сегодня, однако, музыканты звучат все более серьезно. Именно сейчас лидеру группы удалось наиболее отчетливо, почти без иронии высказаться по поводу того, что его по-настоящему волнует.

Вторым безусловным лидером музыкальных 1990-х в Беларуси были «N.R.M.». Будучи первокурсником Минского художественного училища, зайдя в кабинет химии, я увидел длинноволосого старшекурсника Лявона Вольского, который доказывал нашей учительнице химии элементарное: если мы живем в стране под названием Беларусь, то разговаривать надо, соответственно, на беларусском языке. Это были прекрасные, вдохновенные слова.

«N.R.M.» для меня так и осталась группой этой светлой идеи, хотя музыкальную эстетику коллектива я разделял далеко не всегда. Помимо напористой «N.R.M.», уже позже Лявон основал группу «Крамбамбуля», где он в полной мере показал себя как лирический автор. Необходимо отметить, что уровень его текстов в обоих проектах был очень высок.

## «ФОЛК-ГРУППЫ»

Безусловно, первая величина фолк-направления в Беларуси – это группа «Троица» с ее лидером, обладателем уникального голоса, Иваном Кирчуком. Именно «Троица» впервые после «Песняров» представила полноценное и своеобразное прочтение беларусского фольклора. Правда, это уже не рок-музыка, а, скорее, world-music. За каждой нотой стоит кропотливая работа: Кирчук, профессиональный этнограф, до сих пор ездит в экспедиции по беларусской глубинке. Аутентичность материала подчеркивается дотошным сохранением особенностей произношения тех мест, где была записана песня.

Несмотря на обаяние таких замечательных альбомов, как «Сон-трава», «Семь» и «Зимушка», моим любимым диском остается экспериментальная работа «Жар-жар», звучание которой значительно отличалось от того, что зритель мог услышать на концерте. Любопытно, что сам Кирчук так до конца, кажется, и не признал эту работу «своей», видя в ней, прежде всего, «террористический» саунд-дизайн звукорежиссера Андрея Жукова.

Еще один коллектив – «Акана» – состоит из трех поющих девушек, которые синтезируют фолк-музыку с современными музыкальными жанрами – от джаза до «битов» украинских ди-джеев. В последнее время коллектив активно участвует в интернациональных проектах: где еще интересен беларусский фольклор, как не за рубежом. В результате последнего проекта со швейцарскими музыкантами было дано несколько концертов в городах Беларуси. Сейчас руководитель коллектива Ирена Котвицкая делает новый проект с Алексеем Ворсобой из беларусской группы «Порт Моне».

В этом же ряду стоит группа «Стары Ольса», которая специализируется на исполнении средневековой музыки. Музыканты являются постоянными участниками разного рода «ролевых», реставраторских мероприятий. В свое время группа высокопрофессионально и изобретательно аранжировала «Полацкі сшытак» (средневековый нотный сборник, найденный беларусским исследователем Адамом Мальдисом). Дмитрий Сосновский, лидер команды, человек, в принципе, подвижнического склада, является активным пропагандистом средневековой музыки. Он также попробовал себя в качестве продюсера более модернистского проекта «Литвин-тролль», где средневековые и народные инструменты усилены звучанием электрогитар.

## «ФРИК-ГРУППЫ»

Понятно, что абсурд, начиная еще с Николая Гоголя, а также классиков жанра Хармса и Беккета, рассматривает, помимо прочего, природу маленького человека, существующего в собственном крошечном мире, полном самых диковинных фантазий. Это если говорить о талантливых «фриках». «Фрики» попроще кривляются, работая в основном на пьяную аудиторию, не поднимая «низкий жанр» до уровня искусства.

Безусловно, лучшей беларусской фрик-группой сегодня является фрик-кабаре «Серебряная свадьба». Фронтвумен коллектива Света Бень, вокруг которой собрался небольшой профессионально звучащий оркестр, раньше писала впечатляющие стихи. Сейчас они получили убедительное сценическое воплощение. Помимо собственно пения от лица простодушной «лисички», внезапность выступлению придает изобретательная работа с обильным реквизитом, в чем сказывается Бенькино (Бенька – так ее *нежно* называют в музыкальных кругах) режиссерское образование. Любопытно, что солистка «СС», любит читать «остро теоретическую» литературу, например Михаила Бахтина. А это, на самом деле, говорит о том, что впечатления, возникающие у зрителя в голове, ей во многом известны заранее.

Кабаре-дуэт «Rocker Jocker», состоящий из двух колоритных, условно циничных персонажей Максима Сирого и Михея Носорогова, напоминает упрощенного Тома Уэйтса. Носорогов аккомпанирует себе на крошечной гитарке-укулеле, а Максим Сирый – на стандартном баяне. Группа бравирует своей грубоватой эстетикой и колоритным внешним видом.

Еще один «фрик» со знаком «плюс» – это группа «Кассиопея», исполняющая так называемый «спец-поп», который можно одним словом определить как ретро-футуризм. «Щупальца с планеты Х» благополучно соседствуют с ностальгическим советским мироощущением. Такой стиль прекрасно воспринимается в России, разрываемой между надеждой на цивилизованное будущее и воспоминаниями, как хорошо было в СССР. Иногда это похоже на электро-поп, иногда – на жесткий электро-панк.

## «РОК-ГРУППЫ»

Из всего огромного списка беларусских рок-групп особо хотелось бы отметить две: «Петлю Пристрастия» и «Красные звезды».

Многое кажется интересным и спорным в «Петле Пристрастия»: «графоманское название», цепкие тексты, уместно неформальная музыка и видимая простота и легкость. Илья Черепко-Самохвалов – солист коллектива – всем своим видом опровергает стереотип-представление о лидере рок-группы. Постоянное сомнение в себе выводит его из

категории рок-героев в категорию живых людей. Складывается ощущение, что он находит неисчерпаемый источник вдохновения в собственной неуверенности. В результате рождаются исчерпывающе язвительные тексты.

Группа «Красные звезды» как будто должна играть ностальгически грязный среднерусский панк в духе «Гражданской обороны» (к сопоставлению с которой лидер группы Владимир Селиванов сам время от времени с видимым удовольствием подталкивает). К счастью, «Красные звезды» исполняют нечто намного более абсурдное и изощренное по музыке. Просто ломают еще один устойчивый стереотип, отказываясь от классического приема классической панк-группы: они не делают вид, что не умеют играть, лишая себя всяких видимых ограничений, которые могли бы навсегда пригвоздить группу к какому-то стилистическому направлению. Именно поэтому их можно и нужно слушать.

## ИНСТРУМЕНТАЛЬНЫЕ ГРУППЫ

В этом «сегменте» можно выделить группы «Гурзуф» и «Порт Моне». С самого первого взгляда кажется, что группы идентичны: оба бэнд-лидера играют на баяне. Но на этом сходство коллективов заканчивается.

Егор Забелов («Гурзуф») – одаренный композитор, который внятно строит музыкальную фразу, работает мелодически остро, умеет резко менять фактуру и обладает редким даром сохранять в своей музыке интригу. В последнее время он работает с различными электронными гаджетами. Необходимо также отметить и другого участника коллектива – барабанщика Артема Залесского. Артем – один из самых нестандартных беларусских музыкантов, который не аккомпанирует, а выстраивает барабанную линию. К моей искренней радости, кажется, у них получается больше нигде не работать и заниматься исключительно музыкой.

Группа «Порт Моне» существует с 2005 года. Но Алексей Ворсоба начал исполнять музыку намного раньше. Задолго до этого он был лидером инструментального «Коллектива им. Хорошего Человека» (его так и называли – «Леша – хороший человек»). Музыка «Порт Моне» создана по законам ландшафтного дизайна, когда все выпуклости, пригорки и впадины обозначены музыкальными утолщениями

и утоньшениями, замираниями и взрывами. И в этом, конечно, тоже есть своя структура, логика и отчетливая закономерность.



## ГРУППЫ, ИСПОЛНЯЮЩИЕ ИНТЕЛЛЕКТУАЛЬНУЮ МУЗЫКУ

Есть в Беларуси, как минимум, две группы, исполняющие, с точки зрения нормального потребителя «музпродукта», *непонятно что*. Это группа «ВОМ», название которой, собственно, и есть аббревиатура стиля «волшебная одноклеточная музыка», и группа «Князь Мышкин», которая исполняет интуитивный джаз.

Антон Кривуля, он же Бэтман Большой Украины, он же Стереочувак, он же Жан-Дирижабль, основал несколько отделений «ВОМ» в России и Беларуси. Родился стиль благодаря счастливому наблюдению: Антон заметил, что звук, помимо вертикального, имеет еще и горизонтальное измерение. То есть музыка может возникать не благодаря звуковысотным изменениям, а благодаря разным обертонам, которые приобретает один и тот же звук в ходе постоянного повторения одной ноты. С этим связаны забавные временные сдвиги в сознании слушателя (например, когда я слушал «ВОМ», мне казалось, что они играют около часа, а программа длилась всего 20 минут).

Антон довольно много выступает в России. Вспоминается фрагмент из нашей с ним переписки. Антон писал: «Приезжай выступать с нами в Москву. Нас тут хорошо знают. Нас уже все ненавидят».

Главный идеолог «Князя Мышкина» Леонид Нарушевич, человек умный и бескомпромиссный, был удостоен высочайшего комплимента от музыканта собственной группы: «Леня, а ты, оказывается, умеешь играть на гитаре». Действительно, Нарушевич достиг такого исполнительского уровня, когда мастерство заметить практически невозможно. На первый взгляд, группа исполняет нечто весьма неконкретное. Но это с точки зрения неподготовленного слушателя. Если же закрыть глаза или слушать CD, то сразу отчетливо проступают «ребра» музыкальной формы. При этом я отнюдь не утверждаю, что музыка «КМ» математически выверена. Я думаю, музыканты просто чувствуют структуру спинным мозгом.

Мне довелось однажды играть с «Князем Мышкиным». Это была в чистом виде не подготовленная с моей стороны интуитивная

импровизация. К стыду должен признать, что это было одно из самых неудачных моих выступлений: я постоянно попадал в ловушки модуляций, провалов в другие тональности и меняющегося размера. При этом музыканты «КМ» не испытывали никаких проблем.



## РЕГИОНАЛЬНЫЕ ОБЪЕДИНЕНИЯ И КОЛЛЕКТИВЫ

«Провинциальное» отношение к музыке, в отличие от так называемого «столичного», как раз отличается бóльшим вниманием к музыке, то есть более внимательным вслушиванием в музыкальный материал. Попутно замечу, что определение «региональные группы» ни в коем случае не определяет их как коллективы, находящиеся на периферии музыкального процесса.

Самым крупным музыкальным центром, помимо столицы, является Могилев. Здесь удалось организовать сообщество «Центр живого рока», которое позволило духовно поддерживать существующие здесь коллективы, играющие так называемый «русский рок». Одна из наиболее важных групп здесь – «Сердце Дурака», где солирует чрезвычайно одаренный поэт Тимофей Яровиков. Также совсем недавно здесь появилась группа «Глюки», музыканты которой сегодня играют любопытную англоязычную музыку в рамках нового проекта «Acute».

Когда я выступал в Могилеве, был поражен, с каким вниманием тамошняя публика слушала даже не нас с Атморави, номинальных минских хэдлайнеров, а местную группу «Калачиком рядом» (отличная, между прочим, группа), игравшую перед нами. Тишину такого качества я слышал только в филармонических залах.

Даже этот, далеко не полный, перечень указывает на то, что в Беларуси на сегодняшний день работают группы, представляющие довольно широкий спектр музыкальных стилей. Одновременно с этим, в силу некоторой изолированности Беларуси коллективы имеют свою авторскую интонацию, которую сегодня встретишь далеко не везде. Иными словами, в нашей стране идет нормальная андеграундная музыкальная жизнь, которую Европе во многом еще только предстоит открыть.

СЕРГЕЙ ПУКСТ

Сучасны беларускі літаратурны працэс нагадвае «арганізм», што складаецца з пэўнай колькасьці «болевых кропак». Актуальнымі застаюцца праблемы свабоднага мысьленьня аўтара, яго запатрабаванасьці ўладай, выдавецтвамі й чытачамі



МАРГАРЫТА АЛЯШКЕВІЧ

# БОЛЕВЫЯ КРОПКІ БЕЛАРУСКАГА ЛІТПРАЦЭСУ

Уявім сучасны беларускі літаратурны працэс як арганізм – і намацаем яго болевыя кропкі.

## НАЦЫЯ ПАЭТАЎ (СОНЕЧНАЕ СПЛЯЦЕНЬНЕ)

Спытайце любога беларуса – і высьветліцца, што прынамсі аднойчы ён / яна пісалі вершы. Многія нават не адзін сшытак сьпісалі. Праўда, вершамі большасьць маіх суайчыньнікаў лічыць усё, што напісана ў слупочак і мае рыфму. Адсюль цэлы суплёт праблем для літаратурнага працэсу.

Найбольш відавочная праблема – «квадратнасьць» паэзіі. Адкрываем літаратурны пэрыёдык – а там роўненькія катрэнчыкі, бы хто іх пад адзін капыл падганяў: зь перакрыжаванай і апаясанай рыфмоўкай, пераважна двухскладовікі. Хай сабе Максім Багдановіч яшчэ на пачатку

XX ст. напрыдумляў, паводле падлікаў беларускага дасьледчыка, філёлага Вячаслава Рагойшы, 93 віды строфаў, хай напрыканцы таго ж стагодзьдзя Алесь Разанаў выгінаў форму верша так, як толькі яму заманулася, – ствараў зномы, вэрсэты, вершаказы ды іншыя новыя паэтычныя формы, хай Адам Глобус і многія іншыя стваралі выкшталцоныя хайку й танка, няхай Андрэй Хадановіч жартуючы напісаў кнігу лімэрыкаў, а Віктар Жыбуль выдаў не адну кнігу паліндромаў, хай Віктар Лупасін перасьмяяў усе цьвёрдыя формы вершу, хай Віталь Рыжкоў выйграе паэтычныя слэмы і ў нас, і за мяжой, хай Антон Францішак Брыль… Сьпіс тых, хто ставіў форму нашага вершу ўва ўсе прыстойныя й непрыстойныя позы, можна доўжыць і доўжыць. Але адкрываем пэрыёдык – бачым «квадрацікі». Вядома, пэрыёдыкі бываюць розныя – я зараз кажу пра (проста-)народнае ўспрыманьне паэзіі, якое выяўляюць найлепш выданьні дзяржаўнага выдавецкага холдынгу. Вянок вянкоў санэтаў тут лічыцца роўным подзьвігу, а да нерыфмаваных вершаў ставяцца падазрона: адзін літаратурны крытык нават заявіў, што лічыць вэрлібр «хваробай у паэзіі, індуцыраванай да нас з Захаду».

Геній Якуба Коласа ня ў тым, што ён падрабязна занатаваў побыт вёскі, – у «Новай зямлі» ён зарыфмаваў і зрытмізаваў нацыянальны характар. Грунтоўнасьць, трываласьць, нязьменнасьць, працалюбнасьць, вернасьць традыцыі – усе яны там, паміж ямбічных радкоў, паяднаных сумежнай рыфмай, узьведзеных у абсалют вершаванага раману. Злы геній часу – у тым, што з Коласа зрабілі гіганцкі бронзавы помнік, які пасадзілі на цэнтральную плошчу сталіцы. А ягонага маладзейшага сучасьніка Ўладзімера Дубоўку, шукальніка новых формаў паэзіі, вынаходніка паэтычнага «камбайну», які мусіў спалучаць розныя мэтры, віды рыфмоўкі, элемэнты розных родаў літаратуры й ейныя розныя жанры, таго самага Дубоўку, якога сам Купала ляпаў па плячы – маўляў, ты наш Пушкін, – выслалі ў лягеры на чвэрць стагодзьдзя. Паўлюка Шукайлу, братоў Шашалевічаў і шмат каго яшчэ ўвогуле выкінулі з нацыянальнай памяці, так што дасюль вяртаем...

«Квадратнасьць» датычыць ня толькі фармальнага боку паэзіі. Можна гаварыць пра пэўную тэматычную квадрыгу. Кожны паэт лічыць сябе абавязаным раней ці пазьней выказацца пра Радзіму (варыяцыі: Маці, Мову), Прыроду, Паэзію, а Каханьне застаецца галоўным рэчывам, якое сілкуе паэтычную творчасьць. І хай сабе ўсё больш творцаў ператвараюць

верш у featurнага кшталту інтэлектуальныя гульні, як сучасныя маладыя паэты Віка Трэнас, Вольга Гапеева, Марыйка Мартысевіч, Ігар Кулікоў ды іншыя, – лічыцца, што гэта яны цалкам традыцыйна ідуць *у рожкі са старымі* (выраз паходзіць з 20-х гг. XX ст., калі сябры тадышняй суполкі «Маладняк» дыскутавалі з старэйшымі «нашаніўцамі»), а потым перахварэюць на гэтае сваё захапленьне ўласнай разумнасьцю й стануць апяваць васількі ў жыце ды конікаў у траве.

І яшчэ адна важная акалічнасьць. Калі чалавек хоча пабудаваць камяніцу, ён кліча муляроў; калі мае нейкія праблемы са здароўем – зьвяртаецца да лекара, да спэцыяліста. Беларусы не давяраюць спэцыялістам. Мы самі з вусамі, не сьвятыя гаршкі лепяць – і ўсё такое. Тым больш слоўныя пабудовы – не хмарачосы, а пісьменства – не хвароба з мудрагелістаю назвай. Натуральна, літаратурная крытыка трактуецца не як прафэсія, а як спосаб зьвесьці асабістыя рахункі зь літаратурай. Само пісьменства, заўважым, таксама не прафэсія, ішлі б вы, хлопцы, на завод ці там у бізнэс, а вы, дзеўкі, – замуж.

Самае горшае ў «нацыі паэтаў» – гэта адсутнасьць чытачоў. Усе пішуць, але мала хто ўмее *чытаць* паэзію. Самае лепшае – гэта патэнцыял: чакацьмем на ператварэньне колькасьці ў якасьць.

## РАСКОЛІНА (ПРАМЕЖЖА)

Кажуць, дзе два беларусы, там тры палітычныя партыі. Затое колькі разнастайнасьці!

Паэты й графаманы – ну хай сабе, гэтак, напэўна, паўсюль (іншая справа, што ў «нацыі паэтаў» графаманія – кшталту эндэмічнага захворваньня). А вось дзяржаўныя й недзяржаўныя выданьні? Ад такой тэрміналёгіі прафэсура журфаку БДУ калісь аджартоўвалася – маўляў, усё, што друкуецца ў гэтай дзяржаве, дзяржаўнае. Тады сталі ўжываць замест «недзяржаўнай прэсы» – «незалежную», але ўзьнікла праблема з антонімам; карысталі яшчэ парачку «афіцыйныя / апазыцыйныя выданьні», але потым з апазыцыяй стала так няпроста, што яе ўжо без двукосься й зьневажальных эпітэтаў ніяк і ня згадвалі ў «афіцыйным» друку; тады ў гаворцы сталі дзяліць пэрыёдыкі на «правільныя»

й «няправільныя», але хутка заблыталіся, што для каго правільнае, дзе нашы, а дзе ўжо «нянашы»…

У літпрацэсе гэтыя падзелы адчувальныя. Дзяржаўныя літаратурныя пэрыёдыкі – «Полымя», «Нёман», «ЛіМ», «Маладосьць» ды іншыя – атрымалі багатую савецкую спадчыну: сыстэму распаўсюду па ўсёй краіне, ведамасную падпіску, дзярждатацыі, якія-ніякія брэнды. Недзяржаўныя: «ARCHE-Пачатак», «Дзеяслоў», «Літаратурная Беларусь», «Верасень» ды іншыя, – атрымалі нефарматных аўтараў, якія не хацелі ці не маглі пісаць квадратныя вершыкі, і патрабавальнага чытача, зазвычай сталічнага, начытанага, разбэшчанага інтэрнэтам. У дзяржаўных выданьнях дзейнічае негалоснае правіла ня згадваць «няправільных» аўтараў; недзяржаўныя выдаткоўваюцца па максымуме, каб пусьціць у сьвет гэтых замоўчаных творцаў, так што сілы на іншых «няправільных» аўтараў часам проста нестае.

Паміж тымі й гэтымі аўтарамі існуе нябачная, але добра адчувальная прорва: парушальнікаў парадку на «афіцыйным» баку звальняюць з працы – здавалася б, ну якое нармальнае разьвіцьцё літаратуры можаісьці ў такіх умовах, калі рэдкі дасьледчык літаратуры ўтрымаецца *па-над* дастаткова доўга, каб пабачыць цэласнасьць. Такія, на шчасьце, ёсьць: гэта і крытыкі – Леанід Галубовіч, Ірына Шаўлякова, Ціхан Чарнякевіч ды іншыя, і тыя зь літаратуразнаўцаў, якія рызыкуюць аналізаваць бягучы літпрацэс – Пятро Васючэнка, Міхась Скобла, напрыклад. Але жывецца ім няпроста: таго й чакай, з абодвух бакоў камяні паляцяць.

Сапраўдная бяда па абодва бакі – гэта культывацыя адмысловых тэмаў, пра якія як ні пішы – захваляць. Благая літаратура застаецца благой, будзь яна пра Русь-матухну ці пра змагара з рэжымам.

Але ніхто ня можа забараніць цікаўнаму чытачу чытаць (цьху-цьху, як той казаў, калі на вуліцы ўжо нельга папляскаць, дык мо хутка і за няправільны часопіс у руках будуць забіраць?). А значыць, чым больш ствараецца выданьняў, тым лепш, тым разнастайней, тым цікавей. Калі ж нейкі аўтар прызнаны па абодва бакі, можна сьмела запісваць яго ці яе ў клясыкі. І тут могуць апынуцца разам такія розныя і па сьветапоглядзе, і па творчай манеры аўтары, як Альгерд Бахарэвіч (груба кажучы: надзвычай густое, ускладнёнае, выкшталцонае пісьмо; заглыбленьне ў чалавека, дасьледзіны ягоных дачыненьняў з абсурдным грамадзтвам) і Людміла Рублеўская (зноў жа, вельмі груба: стварэньне й папулярызацыя

нацыянальнага міту з дапамогай гістарычна-прыгодніцкага жанру; простае, даходлівае пісьмо).

Расколіна паміж дзяржаўнымі й недзяржаўнымі выданьнямі – толькі адна з тых, у якія можа гахнуць літпрацэс. Згадайма яшчэ падзел на беларусаў нармальных і беларускамоўных, ну й застарэлыя непаразуменьні паміж *людзьмі нармальнымі* ды творцамі нікуды не дзяюцца. Крытыкі называюць адной з магістральных тэмаў нашай літаратуры апошніх 20 гадоў самоту. Беларускамоўны незалежны пісьменьнік у самоце – як лёткая рыбіна ў вадзе.

## МОВА Й «МОВА» (ЯЗЫК, ВУСНЫ)

Раней думалі, што жгуцікавыя расейскамоўныя хламідыі перадаюцца выключна полавым шляхам, аднак найноўшыя дасьледаваньні пацьвердзілі, што гэтую брыду можна падхапіць і праз сродкі гігіены, і праз асяродак зносінаў, а яшчэ хвароба ўспадчыньваецца. Так што, каб застацца здаровым беларускамоўным беларусам, трэба насіць скафандар, абачліва выбіраць партнэраў і заўжды памятаць, *дзе знаходзіцца тваё палаценца*.

Расейскамоўны хламідыёз – гэта такое хранічнае захворваньне грамадзкай сьвядомасьці, пра якое гаварыць неяк няёмка, трываць можна (многім увогуле нічога не баліць), лячыць моташна, таму амаль ніхто ня лечыцца й працягвае заражаць іншых і наваколле. Моўны хламідыёз, гэтаксама як і звычайны, прыводзіць да бясплоднасьці. Я б прапісала нам гвалтоўную беларусіфікацыю: вышэйшы заробак і лепшыя пасады даваць беларускамоўным, штрафы й усеагульную пагарду – за расейскамоўнае справаводзтва, абавязковы белмоўны іспыт падчас працаўладкаваньня для чынавенства й журналістаў, расейскамоўным палітыкам – анафэму, ну й адзіную дзяржаўную мову, само сабой. Але момант, відаць, незваротна ўпушчаны, і спадзявацца на прадуманую й мэтаскіраваную беларусіфікацыю, роўную па часе русіфікацыі (70 гадоў плюс-мінус два стагодзьдзі) не даводзіцца. Таму сьветлыя галовы нацыі, літаратары, змагаюцца з хваробай, як могуць.

Тут бачна некалькі стратэгіяў: адна, распачатая «нашаніўцам» Вацлавам Ластоўскім і ўдала разьвітая ў другой палове XX ст. Уладзімерам

Караткевічам, – рабіць зь сюжэту такую цукерачку, каб разам зь ёю хворы праглынуў і мову, асноўнае лекавае рэчыва. Некаторыя сёньня нават памяншаюць канцэнтрацыю беларушчыны, нібы наўмысна разбаўляючы яе русізмамі (як, напрыклад, Юры Станкевіч, Алёна Беланожка). Другая стратэгія, карані якой у моўным пурызьме 1920-х гг. (яскравы прыклад – празаік Лукаш Калюга), – узяць пэрліны безэквівалентнай, архаічнай і дыялектнай лексыкі, распусьціць у воцат аўтэнтычнага сынтаксысу, загусьціць усю гэтую беларушчыну да стану эмульсіі, наліць у кубак падзабытага правапісу – тарашкевіцы, лацінкі ці нейкай яшчэ коўкі – і ўліваць хворым унутрывенна. Прытым тут з празаікамі (Сяргей Балахонаў) і паэтамі (Міхась Баярын, Юрась Пацюпа) пазмагаюцца перакладнікі (Васіль Сёмуха, Марына Шода, Алесь Разанаў і шмат хто яшчэ). Таксама маюцца стратэгіі моўнай гульні: адныя гуляюцца ў паранімічную атаракцыю (Зьміцер Вішнёў, Арцём Кавалеўскі), іншыя – у інтэртэкстуальнасьць (паэт Андрэй Хадановіч, празаікі Ўладзіслаў Ахроменка й Максім Клімковіч, крытык Ірына Шаўлякова) і г. д.

Некаторыя творцы, відавочна, маюць трывалы моўны імунітэт, пішуць – як дышуць (згадваюцца тут Рыгор Барадулін, Натальля Кучмель, Пятро Васючэнка, Барыс Пятровіч).

Усе гэтыя высілкі ў маштабах нацыі марныя. Бо літаратурных агентаў, якія бегалі б за беларусамі зь беларускай кніжкай, як санітаркі за хворымі, у нас няма. Сьветлыя галовы могуць колькі заўгодна спрачацца ў інтэрнэце пра ўсялякія моўныя тонкасьці, кшталту як правільна пасланць: у дупу ці ў сраку, – у той час як цёмныя галовы, якіх большасьць, будуць называць тытульную мову нацыі «мовай» – двукосьсе нахабна ўтыркае свае лапкі ў гаворку. Беларускамоўнага чалавека ў нашым грамадзтве чакае небясьпека выслухоўваць ад кожнага небеларускамоўнага меркаваньні наконт беларускай мовы. Калі беларусы чуюць беларускую мову, мажлівыя такія рэакцыі: «Вой, як вы хараша па-беларуску гаворыця! А дзе эта вы так навучыліся?» Ці: «Я счытаю, што вы правільна робіце, нада, нада свой язык знаць». Альбо: «Ты чо, эты, как ыво, апазыцыянэр вашывы?»

Чым менш беларускамоўных пісьменьнікаў, тым больш небясьпека: кожны, хто піша па-беларуску, атрымлівае сабе німбік на галаву, гэткую індульгенцыю, эмісіяваную нацыянальна сьвядомай крытыкай. Вось, скажам, расейскамоўны празаік напісаў беларускамоўную кніжку

– ды як жа тую кніжку раскрытыкуеш, калі падтрымаць чалавека трэба, падхваліць, да белмоўнага асяродку прынадзіць! Ці, скажам, напісаў які творца хрэнь нечытэльную, а зноў крытык яго не чапай, бо ж – засвойвае новы жанр, ці новы мастацкі кірунак, ці яшчэ нешта такое, чаго мы ў сваім дыскрэтным (або паскораным, каму як больш падабаецца) разьвіцьці ня мелі, але мяркуем, што мусім.

## КАРЦІНКА, ЯКАЯ ЗАБІВАЕ (ВОЧЫ)

Паводле статыстыкі Ротмана за 2007 год, што была надрукавана ў часопісе «Нёман», у новым стагодзьдзі ў нас сталі менш чытаць. Галоснасьць другой паловы 1980-х дала шалёныя тыражы й небывалы ўздым чытаньня, але яна ж прывяла й да дэвальвацыі друкаванага слова, з выніковым падзеньнем накладаў літаратурна-мастацкіх выданьняў у другой палове 1990-х. Білінгвізм, замацаваны рэфэрэндумам 1996 году, калі расейскай мове быў нададзены статус дзяржаўнай поруч зь беларускай, дэ-факта стаўся працягам русіфікацыі: чынавенства трактуе закон пра дзьве мовы на карысьць расейскай і, пачуўшы беларускую, учыняе гвалт, маўляў, у нас жа дзьвюхмоўе (у той час як папрасіць у іх якога-кольвек блянку на беларускай – як летам сьнегу).

У выніку сёньня нармальны наклад літаратурнага часопісу – 1–4 тысячаў асобнікаў, паэтычнага зборніку – 300–500 асобнікаў, кнігі прозы – мо крыху больш. Затое карыстальнікаў беларускага сэгмэнту інтэрнэту толькі ў сталіцы – больш за мільён. Вядома, ня ўсе яны чытаюць у сеціве беларускую літаратуру, і нават далёка ня ўсе ўвогуле там чытаюць па-беларуску, але такая магчымасьць у іх, прынамсі, ёсьць, і белмоўны сэгмэнт сеціва ўвесь час пашыраецца.

Піянерам нашай літаратурнай інтэрнэт-прасторы зьяўляецца litara.net, што й зараз абяцае распавесьці літаральна ўсё пра сучасную беларускую літаратуру. Электронных бібліятэк багата, раю зазірнуць на knihi.com – гэта Беларуская Палічка (Беларуская электронная бібліятэка) са зручнай навігацыяй, папулярная ў студэнтаў; на bellib.net (BELARUSIAN eBOOKS LIBRARY) знойдзеце беларускую літаратуру ў замежных перакладах і замежную літаратуру ў перакладах на беларускую мову, ёсьць і адмысловы перакладніцкі рэсурс – prajdzisvet.org, адзін

з найцікавейшых праектаў апошніх гадоў. На беларускай літаратуры спэцыялізуюцца інтэрнэт-кнігарні prastora.by і knihi.by, беларуская кніга прысутнічае і ў іншых сеціўных крамах, напрыклад oz.by ці vilka.by. Калі нашая клясыка найболей прадстаўленая ў бібліятэках, крамах і на пэрсанальных сайтах пісьменьнікаў, дык бягучы літпрацэс апошнія гады адлюстроўваўся ў блогах, а цяпер, напэўна, асвойтаецца ў сацыяльных сетках.

Найбольш зручна пачынаць знаёмства зь беларускай літаратурай, напэўна, зь бібліятэкі kamunikat.org. Гэта ня толькі збор адсканаваных выданьняў і ня толькі самая багатая калекцыя нашай пэрыёдыкі з усіх, што мне асабіста трапляліся. Тут таксама знойдзеце: штодзённыя размовы пра беларускую літаратуру й культуру з этэру радыёвяшчаньня, інфармацыю пра навінкі беларускага выдавецкага рынку, пералік і біяграфіі беларускіх аўтараў – паэтаў, празаікаў, гісторыкаў, публіцыстаў. Яшчэ адна зручнасьць: на Камунікаце пачалі зьяўляцца кнігі ў фармаце ePub, якія ўспрымаюць прылады да чытаньня электронных кніг.

Электронныя кнігі – яшчэ адна кропка акупунктуры. З аднаго боку, выдаўцы – а тых, хто робіць бізнэс на беларускамоўнай мастацкай кнізе, можна пералічыць на пальцах (загінайце: Ігар Логвінаў, Зьміцер Колас, выдавецтва «Галіяфы», выдавецтва «Медысонт», э-э-э… «Беларускі кнігазбор»? «Харвест»? «Мастацкая літаратура»?..) – скардзяцца на інтэрнэт, які адбірае ў іх апошнюю скарынку; зь іншага боку, электронную кнігу проста апублікаваць і распаўсюдзіць, што добра ва ўмовах, калі пісьменьнікам нестае грошай на выданьне сваіх дысыдэнцкіх шэдэўраў, а выданьне за дзяржаўныя грошы падаецца гэткім жа савецкім мітам, як шклянкі ў гарадзкіх апаратах газіроўкі.

Змяншэньне адлегласьці паміж момантам напісаньня тэксту й момантам публікацыі, адсутнасьць кантролю за распаўсюдам прыемныя для большасьці ўдзельнікаў літпрацэсу, аднак каштуюць гэтыя прыемнасьці даволі шмат. Калі адкінуць усялякія сантымэнты кшталту пораў паперы, паху друкарскай фарбы ды іншага эстэтычнага задавальненьня, якое дае кніга як артэфакт, застаюцца яшчэ такія важныя рэчы, як карэктура, рэдактура й вёрстка тэкстаў, на чым інтэрнэт-аўтары любяць эканоміць. Да ўсяго, хуткасьць і простасьць публікацыі разбэшчвае: можна абвясьціць сябе вялікім пісьменьнікам, стварыць блог, назьбіраць туды фрэндоў, выдаваць кожнае пашавольваньне сваёй

думкі за геніяльнае адкрыцьцё й атрымліваць прыхільныя камэнтары – як рэпу грызьці.

Бо літаратурная крытыка як інстытут адсутнічае, а сярод тых, хто ўсё ж такі займаецца час ад часу крытычнай дзейнасьцю, мала аматараў разграбаць інтэрнэт-сьметніцу ў пошуку мастацкіх залацінак (час ад часу падобнае пракідваецца ў блогах крытыкаў Паўла Абрамовіча, Ганны Кісьліцынай, пісьменьніцы Марыйкі Мартысевіч). Нават калі такія філянтропы знаходзяцца, іх мала хто слухае – можаце біць мяне галавой аб сьцяну, дзе напісаная колькасьць унікальных наведваньняў блогаў памянёных крытыкаў і непамянёных літаратараў-тысячнікаў, але пакуль што нашыя сеціўныя літаратурныя баталіі падаюцца мне валтузьнёй дзетак у пясочніцы. Інтэрнэт – патэнцыя, і вялікая, але ад патэнцыі да пасьпяховага зачацьця й шчасьлівага нараджэньня – эх, вялікі шлях.

## ПАМРЭМ АД СЬЦІПЛАСЬЦІ (ЗАМЕСТ ЭПІКРЫЗУ)

Мне б нахвальваць нашую літаратуру, сыпаць імёнамі й назвамі кніг, радавацца ўздыму пісьменства, які назіраецца апошнія гады – нягледзячы на абсалютна неспрыяльнае моўна-палітычнае асяродзьдзе. А вось не магу, слаўнае беларускае самаедзтва замінае. Відаць, праўду казаў філёзаф і культуроляг Валянцін Акудовіч у кнізе «Код адсутнасьці» (якая мусіла стацца культавай, але – з апісаных вышэй прычынаў – стала шырока вядомай у вузкіх колах): у беларусаў так доўга ўсё адбіралі, што цяпер мы баімся пахваліцца – каб хто не пакваліўся й не адабраў. Так і будзем трымаць гаршчок золата пад гнілымі дошкамі скляпеньня.

МАРГАРЫТА АЛЯШКЕВІЧ

Сучаснае беларускае кіно ўяўляе сабой таямніцу. Нягледзячы на тое, што беларускія творцы ствараюць годныя фільмы, у Беларусі многія ўпэненыя, што беларускага кіно не існуе.



АНДРЭЙ РАСІНСКІ

# ДОСЬВІТКІ НА КАЛЯНІЯЛЬНЫХ РУІНАХ

Сучаснае беларускае кіно ўяўляе сабой таямніцу. Пра яго мала чулі, яшчэ меней – яго бачылі. Нават у самой краіне многія ўпэўненыя, што беларускага кіно сёньня не існуе. Хаця ёсьць годныя беларускія фільмы – у тым ліку зь неблагім камэрцыйным патэнцыялам – гледачоў амаль нямашака.

Парасткі незалежных студыяў, што зьявіліся на пачатку 90-х, зьніклі; асобныя зь іх ролі ня граюць. Фільмы выпускае галоўная кінастудыя «Беларусьфільм», што жыве на дзяржаўнай датацыі. З 90-х гадоў існуе «Беларускі відэацэнтар» – візытоўка Міністэрства культуры.

Пракат у краіне камэрцыялізаваўся й абапіраецца на расейскія кампаніі, што прывозяць апошнія галівудзкія навінкі. Але беларуская кінастудыя існуе па-за межамі сучаснае эканомікі, хаця й здае ў арэнду расейскім сэрыяльнікам свае павільёны. Пра гледачоў ня дбае ніхто, акрамя рэжысэраў, што выклікае падазронасьць у чынавенства. Беларуская кінастудыя – адбітак краіны, што спынілася ў часе; істотныя не пракат ды мастацкія вартасьці фільмаў, але бюракратычнае «засваеньне бюджэтных сродкаў» – разам з кантролем за мастакамі.

Але, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, кіно працягваюць здымаць. Цікавай падаецца канфрантацыя "ўзорных", афіцыйных стужак з загнанай у падпольле беларускай культурай, – што ў кіно напоўніцу праявілася.



## ЖОРСТКАЯ БАРАЦЬБА. ТРЫ КІРУНКІ БЕЛАРУСКАГА КІНО

Першы кірунак разглядае Беларусь як заходнерускую правінцыю. Большасьць карцінаў прыпадае на раньнія лукашэнкаўскія часы. Паказальныя фільмы адыёзнага прапагандыста Юрыя Азаронка («Нянавісьць: дзеці хлусьні» (1995); тэлепраграмы «Таемныя спружыны палітыкі» (2001), «Кансьпіралёгія» (2005), «Духоўная вайна» (2006)). Але з 2001 году «заходнеруская» эстэтыка муміфікуецца. Апошняй ейнай праявай можна лічыць стужку Саюзнай дзяржавы Расеі й Беларусі «Брэсцкая крэпасьць» (2010), якая належыць беларуска-расейскаму кіно.

Дзеяньні другой плыні разгортваюцца ва ўмоўным месцы. Немагчыма зразумець, якая гэта краіна. Такія «бяздомныя» гісторыі вельмі пасуюць для авангардовых экспэрымэнтаў, анімацыйных прыпавесьцяў, але ў аўтарытарныя часы фільмы набылі бесканфліктнасьць, як калісьці ў апошнія сталінскія гады.

Нарэшце, апошні кірунак, які набывае моц, – беларусацэнтрычны.

## ЗАХОДНЕРУСКІ КІРУНАК, WARSPLOITATION, ТРЭШ-АФІЦЫЁЗ

Зьяўленьне лукашэнкаўскае эпохі было пазначана карцінаю «Сын за бацьку» 1995 году. Рэжысэрам гэтай «заходнерускай» стужкі стаўся актор Мікалай Яроменка-малодшы. Ён сам сыграў у фільме – і зьняў у карціне свайго бацьку. Яроменка-старэйшы сыграў хірурга, якога ўсяляк дапякаюць камэрсанты-бандыты. Аб'яднаўшыся з сынам і знаёмымі вяскоўцамі, у якіх заўжды закапаная зброя, героі ўшчэнт разьбілі бізнэсовую хеўру, на чале якой – злодзей, падазрона падобны да лідэра БНФ Зянона Пазьняка.

Тэму «кепскіх дэмакратаў» працягвае рэтраградна-вялая мэлядрама Сяргея Сычова «Пакуль мы жывыя» 2008 году. Былая камсамолка пасьля «трагічнага распаду Савецкага Саюзу» застаецца «ідэйнай». Яна закаханая

ў калегу-перараджэнца, які здрадзіў прынцыпам, спаліўшы камсамольскі білет. Цнатлівая гераіня ахвотна й упарта жыве на грошы гэтага дэмакрата-бізнэсоўца, але аддаецца яму, толькі калі той канчаткова зьбяднеў.

Вяршыня заходнерускага кірунку – «У жніўні 44-га» Міхаіла Пташука паводле раману Ўладзімера Багамолава «Момант ісьціны». Карціна пастаўленая ў 2001 годзе з рускімі акторамі й ваенным размахам (бюджэт студыі быў высмактаны). Фільм вылучаецца зладжанай гульнёй выдатных артыстаў і граматнай рэжысурай, якая, праўда, не выходзіць за межы 70-х гадоў ХХ стагодзьдзя. Паводле сюжэту карціны ў жніўні 44-га група выведнікаў-НКУСнікаў шукае нямецкіх агентаў, якія адпраўляюць шыфроўкі з вызваленай тэрыторыі Беларусі. У фільме палякі – падазроныя чужыя, беларусы – ні тое ні сёе, і толькі лубянскія агенты з Расеі – свае.

Кінастудыя ўпарта працягвала выпускаць мілітарныя фільмы. Зьмест фільмаў – нэасталінскі: лепшыя героі – гэбоўцы й бязьлітасныя ваякі. Беларускае warsploitation – гэта эксплюатацыйныя фільмы вельмі сумнеўнай якасьці, якія дазваньня абсмоктваюць ваенную тэму, нягледзячы на актыўны супраціў гледачоў.

Дзеці-атрутнікі, найманыя гестапа, перавярбоўваюцца НКУС. Істэрычная чэкістка ў абцягнутай форме – галоўная гераіня («Радзіма альбо сьмерць» (2007) Алы Крыніцынай).

Гераіня гераічнай абароны Магілёва («Дняпроўскі рубеж» (2009)) гераічна любіць корпацца ў агнястрэльных ранах пад лірычныя развагі пра сямейнае шчасьце. А жанчыны з карціны Пятра Крывастаненкі «Яшчэ пра вайну» (2004) носяць шынэль на голае цела.

Трэш-афіцыёзныя фільмы на сталінскія сюжэты невыносна нудныя. Але школьнікі, загнаныя на фільм «Шчыт айчыны» (2007), былі ўдзячныя настаўнікам: у карціне, дзе заходнія шпегі падрываюць баяздольнасьць сучаснае Беларусі, ёсьць вялікая эратычная сцэна.

На пасаду самага кепскага ваенна-эксплюатацыйнага фільму прэтэндуе «Глыбокая плынь» (2005), але ёй цяжка пераплюнуць карціну Юрыя Бяржыцкага «Вам заданьне» (2004). Фільм пра фашыстоўскіх паноў-дывэрсантаў і добрых гэбоўцаў атрымаўся настолькі благім, што нават графаману Мікалаю Чаргінцу, па кнізе якога стужка пастаўленая, яна не спадабалася.

Фільм Івана Паўлава «Сьвежына з салютам» – трэш-афіцыёзная кінакамэдыя. Па выхадзе ў 2001 годзе яна ўвогуле рэклямавалася як

стужка на беларускай мове. Гісторыя пра вяскоўцаў, якія вырашылі зарэзаць парсючка, – натужліва-недасьціпнае этнаграфічнае гета, дазволенае ў лукашэнкаўскай Беларусі.



## КІНО БЯЗЬ МЕСТУ

Іншая камэдыя Паўлава «На сьпіне ў чорнага ката» (2008) хутчэй належыць да другога, бесканфліктна-ўмоўнага кірунку. Гэта бадзёра-маразматычная вітрына лукашэнкаўскага глямуру. У фільме два хуліганістыя дзяды--сталіністы, выйграўшы ў лятэрэю, адправіліся гарэзіць у Менск пад апекаю двух анёлаў. Адметнасьць фільму – стэрыльная вылізанасьць, руская мова ў вёсках і намёкі на «добрага цара». Маладыя зайздросьцяць дзядоўскай халяве й сьпяваюць разам зь імі старыя ваенныя песьні. Расейскаму сьпеваку Філіпу Кіркораву, які сыграў у фільме сябе самога, асабіста патэлефанавалі з адміністрацыі прэзыдэнта й запрасілі зьняцца ў карціне. А галоўную дзіцячую ролю выканала ўнучка дыктатара – Віка Лукашэнка.

У мэлядраме «Павадыр» Аляксандра Яфрэмава пра сьляпую й закаханага ў яе недарэку адсутнічаюць хоць нейкія прыкметы месца, дзе ўсё адбываецца. Канфлікты ў фільме, насуперак інтэнцыям сцэнарыста Аляксандра Качана, прыцішаныя. Пануе шчасны аптымізм, натхнёная барацьба найлепшага з лепшым.

У халоднай драме «Інсайт» (2009) Рэнаты Грыцковай канфлікты ўжо паказаныя, акторская гульня – найперш дзякуючы Багдану Ступку – больш жорсткая й жывая. Але гэта фільм пра глямурны інцэст – і без усялякай геаграфічнай прывязкі.

Авангардовыя экспэрымэнты жанчынаў добра пачуваюцца на ўмоўнае тэрыторыі. Зьняты Карынай Анціпенкай ў 2000 годзе фільм «Вонкавае. Вываратнае» – маналёг зьляканай жаночае падсьвядомасьці, пабудаваны на сакавіта-гучных дэталях з маскамі-макіяжам; карціна калючая, рэзкая, як любоўна засьнятыя кактусы й пяшчотныя коцікі з ільвіным рыкам. Фільм, які дасьледуе жаночыя страхі, выклікаў неадэкватную рэакцыю ў некаторых гледачоў, якія гучна пажадалі «бачыць карціну ў труне разам з аўтаркай». Затое стужку прывецілі на міжнародным кінафоруме ў Канадзе, які праходзіў пад эгідай ААН.

Фантазійныя й казачныя сюжэты – гэта асобнае царства. Фільм «Падзеньне ўверх» (1998) Алены Трафіменкі пра хворага хлопчыка, які ўцякае ва ўласныя мары, быў ускладнёны аўтарскімі інтэнцыямі й даволі няўцямным сцэнаром, хаця нельга не адзначыць музыкі Ўладзімера Кандрусевіча.

Стужка Алены Туравай «Навагоднія прыгоды ў ліпені» (2008) таксама мела надзвычай рыхлы й вельмі архаічны сцэнар. Але прыгоды дзетак у кампутарнай прасторы былі расквечаныя новымі для Беларусі адмысловымі эфэктамі. А сёлетняя карціна Туравай (дарэчы, дачкі беларускага клясыка Віктара Турава) «Рыжык у Залюстроўі», нягледзячы на сцэнарныя недахопы, – дзівосная казка пра краіну Нядалію, у якую можна трапіць са звычайнай менскай бібліятэкі.

У Нядаліі злы прынц Морціс захапіў уладу й зачараваў усе люстэркі, так што людзі, паглядзеўшы ў іх, ператвараліся ў цені. Краіну здольная выратаваць спадчынная прынцэса, па сумяшчальніцтве – гарэзьлівая беларуская школьніца, якая выпраўляецца ў небясьпечны шлях. Плошчы Нядаліі, спустошаныя злом і запоўненыя фантомамі, якія вітаюць сваю прынцэсу, рыфмуюцца са стэрыльнымі кінавуліцамі аўтарытарнага Менску. Двайнікі й блізьняты, партрэты й ажыўленыя сьцені, дзіўныя мэтамарфозы ў каралеўстве люстэркаў і адбіткаў абвастраюць пытаньне пра беларускую тоеснасьць. Як і героі, краіна завісла паміж сусьветамі.

Сучасная беларуская анімацыя – увасобленая мэтафізыка зь дзіцячымі вобразамі й чароўнымі фарбамі. Яна трымаецца на мастаках, якіх сыстэма не заўважае але й занадта не замінае ім працаваць.

Ірына Кадзюкова паставіла цыкль «Сьвяточных апавяданьняў». «Каляднае» (1994), «Дзяўчынка з запалкамі» (1996), «Дзіўная вячэра ў Вігілію» (1999), «Прытча пра Раство» (2000) абапіраюцца на казкі й гісторыі Сашы Чорнага, Андэрсэна – і з ахвотаю распаўсюджваюцца ў праваслаўных асяродках. Але гэтыя дзівосныя па ручным майстэрстве й прасякнутыя любоўю мультфільмы па тэлевізары, бадай, і ня ўбачыць. «Сястра і брат» (2002) – казка з парадаксальным выкарыстаньнем сучасных цытатаў, а «Легенда пра лэдзі Гадзіву» (2004) прыводзіла ў захапленьне гледачоў на кінафэстах.

Фільмы зь вялікімі (для Беларусі) бюджэтамі, наадварот, выклікаюць пільную чыноўную цэнзуру, што прыводзіць да згубных эстэтычных вынікаў.

Так стужку «Настасься Слуцкая» (2003) узяў на асабісты кантроль Аляксандар Лукашэнка. Фільм пра княгіню, якая абараняла Слуцк ад татараў, стаўся нязграбнай ідэалягічнай канструкцыяй зь недарэчна ўплішчанымі аголенымі сцэнамі.

Экстатычныя рэакцыі, барацьба найлепшага зь лепшым, дэкарацыі, пазбаўленыя Пагоні (чыноўнікі пільнавалі, каб гістарычная сімволіка не пратачылася) пераводзяць карціну ў ранг умоўна-бесканфліктнае стужкі. Канфлікты, калі й дазволеныя, то толькі з дрэннаю шляхтай, якая прагне «вольнасьцяў» – ды й з вонкавымі агрэсарамі (нацкаванымі шляхтай). Але асноўныя героі разам з народам-масоўкай як адзін абʼядноўваюцца вакол мудрай манаршай улады. Аўтарытарнае кіраваньне ведае толькі згоду.

## БЕЛАРУСКІЯ МІСТЭРЫІ АТАКУЮЦЬ

Фальшываму трэш-афіцыёзу ды бесканфліктнай «бяздомнасьці» даў бой Андрэй Кудзіненка.

Вучань Турава Андрэй Кудзіненка пачынаў экспэрымэнтальна-перамантажнымі «Снамі Валянціна Вінаградава» (1998), прысьвечанымі гнанаму ў Беларусі кінаавангардысту. Але тая ж перамантажаваная «Плянэта XX», як і «Сны», зьнятая на «Беларускім відэацэнтры» на мяжы 2000-х, ужо выклікала рэзкае раздражненьне. Гісторыя пра тое, што людзі гуляюць, – і ў гэтых гульнях XX стагодзьдзе – была абвінавачаная ў «прапагандзе фашызму й пацыфізму» адначасова. Паэтычная «Плянэта XX» пакладзеная на палічку ды нідзе й ніколі не дэманстравалася.

Спрачаючыся з патасна-бюджэтнай стужкай Пташука, Кудзіненка разам зь сябрамі паставіў першую містэрыйную навэлу пад назвай «Адам і Ева». У ёй маскоўскі зухаваты ваяка Штыркін вядзе беларускага хлопца Адама ў партызаны, але той трапляе ў палон да польскай німфаманкі Евы (паказальна, што Еву сыграла Сьвятлана Зелянкоўская, якая ў «Настасьсі Слуцкай» была галоўнаю гераіняй).

У Ратэрдаме экзыстэнцыйна-іранічная навэла спадабалася, і Кудзіненку далі грошай на працяг. Па сцэнары Аляксандра Качана Кудзіненка на прыватнай студыі «Навігатар» зьняў поўнамэтражны лічбавы фільм «Акупацыя. Містэрыі» (2003), які складаецца з трох

зьнітаваных навэлаў. У навэле «Маці», што ідзе адразу пасьля «Адама і Евы», нямая беларуская жанчына гадуе параненага нямецкага жаўнера сваім малаком. А ў аповядзе «Бацька» хлопчык, падумаўшы, што да яго прыйшоў тата, выдае маці й айчыма партызанам, якія прыйшлі помсьціць.

У карціне героі гаварылі пра Любоў Арлову й Марлен Дзітрых, дзівосна й іранічна сьпляталіся нацыі й мовы, а пра беларускае кіно разважалі паліцаі. Каб паддаць жару, у пралогу да стужкі Кудзіненка й Качан сьцьвярджалі, што ў беларусаў зьявілася-такі свая дзяржава, але іх саміх ужо нямашака.

Распачаўся жудасны скандал. Стужцы спачатку далі пракатную ліцэнзію, потым адразу ж адабралі – за скажэньне «сапраўднай праўды пра вайну» й «нэгатыўны ўплыў на падрастаючае пакаленьне». А калі фільм паехаў на Маскоўскі фэст, усьлед яму панесьліся абураныя лісты вэтэранаў. На лічбавых плытках, што друкаваліся ў Маскве, тоўстым шрыфтам было пазначана: «Забаронена ў Беларусі». Фільм дабраўся нат да Тайваню, копіі «Акупацыі» на чорным беларускім рынку разыходзіліся, як гарачыя піражкі. Але самому Кудізенку далі зразумець, што цяпер у Беларусі здымаць ён ня зможа.

Рэжысэр вымушана працаваў у Маскве, але нечакана яго ізноў запрасілі на «Беларусьфільм» – паставіць прыдуманы ім фільм жахаў. Пачаўся самы цікавы этап сучаснага беларускага кіно.

## ТРЫ К

З 2008 году на «Беларусьфільм» вярнуліся адметныя ігравыя рэжысэры: Андрэй Кудзіненка, Аляксандар Колбышаў і Аляксандар Канановіч запусьціліся са сваімі праектамі.

Як ні парадаксальна, але самым прабеларускім фільмам, пастаўленым за лукашэнкаўскія часы, актыўна спрыяў дырэктар кінастудыі Ўладзімер Замяталін, які праславіўся арганізацыяй ганебнага рэфэрэндуму 1995 году. Для фільму «Ваўкі» Аляксандра Колбышава ён нават напісаў заключную малітву, што гучыць за кадрам.

Аляксандар Колбышаў болей вядомы як актор. «Ваўкі» (2009) – ягоны поўнамэтражны дэбют. Гэта антытаталітарная стужка: вязень уцякае з сыбірскага цягніку ў родную вёску, на яго палююць. Адныя вяскоўцы

прагнуць яго здаць, другія – дапамагаюць. Сюжэт нагадвае быкаўскую «Аблаву», але пастаўлены паводле апавяданьня Аляксандра Чакмянёва, якое 50 гадоў было пад забаронаю. У Колбышава – выдатная праца з акторамі. Стужка – халаднавата-акадэмічная, у попельна-шэрых з чырваньню колерах, яна працягвае антысталінскія традыцыі 90-х.

Камэдыя-кінаістэрыка «Дастыш фантастыш» Аляксандра Канановіча, вучня Пташука, не атрымалася такой цэласнай. Гэта разьдзяўбайская стужка ў кісьлінна-глючных фарбах (на фільме адладжвалі пастаўленую ў студыю каляровую карэкцыю) пра хлопчыка з чырвонымі валасамі, які вырасьціў грашовае дрэва. За героем бегаюць гангстэры з клізмай, дырэктарка турмы й закаханая ў небараку дзяўчына.

Хаця карціне не хапіла рэжысэрскага розуму – яна паказальная як адыход ад ідэалягічна-тандэтных схемаў і вольнае хуліганства. У Канановіча вельмі неблагі патэнцыял: ягоная дыплёмная кінакамэдыя «Колер каханьня» пра жаніха, які стаўся зялёным, а потым сінім, – бліскучы сьмех гарадзкіх плошчаў з пляткаркамі, паветранымі каровамі, фальваркам і аркестрыкам Лявона Вольскага (у фільме – яўрэйскага музыкі).

Нарэшце, «Масакра» Андрэя Кудзіненкі – гэта прыдуманы рэжысэрам новы жанр бульба-хорару, дзе страх, сьмех, сэксуальнасьць – у беларускіх шатах. Фільм пастаўлены па аддаленых матывах «Локіса» Праспэра Мэрымэ; сцэнар склаў Аляксандар Качан. Дзеяньне фільму адбываецца ў Беларусі пасьля задушэньня паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Да графа Пазуркевіча ацаніць бібліятэку едзе авантурнік Казанцаў, які замест справаў пачынае заляцацца да графскай нявесты. Але граф – мядзьведзь-пярэварацень, і ўсім гасьцям прыйдзецца кепска.

«Масакра» – антыкаляніяльная стужка зь фірмовай для Кудзіненкі моўнай гульнёй: беларуская мова, польская, руская. Дэкадэнцкія саламяныя дэкарацыі Артура Клінава; дасьціпная энцыкляпэдыя кіназабойстваў. Гэта – беларускі эўрахорар.

## ДЫЯМАНТАВЫЯ ЧАСЫ ДАКУМЭНТАЛЬНАГА КІНО

Сучаснасьць – дыямантавыя часы беларускага дакумэнтальнага кіно, якія, магчыма, ужо на сыходзе. Шырокая публіка болей ведае

публіцыстычна-дасьціпнага «Звычайнага прэзыдэнта» Юрыя Хашчавацкага з пацешным галоўным героем, але беларускае дакумэнтальнае кіно ў асноўным засяроджвалася не на падзеях – а на быцьці. На вечнасьці, – злоўленай празь зьнікальны побыт на зломе эпохаў.

Гэтая вечнасьць – у фільме Міхаіла Жданоўскага «Ўва ўсе дні» (2008) – пра мастака, які малюе абразы на камянях і ставіць крыжы ў Курапатах – месцы сталінскіх злачынстваў. Гэта экзыстэнцыйны разлом у «Медаглядзе» (1997) Сяргея Галавецкага, які распавядае пра старых у Чарнобыльскай зоне.

Лідэрамі беларускай дакумэнталістыкі сёньня зьяўляюцца Віктар Асьлюк і Галіна Адамовіч.

Пасьля фільмаў «Мы жывём на краі» й «Кола» Віктар Асьлюк прыняты ў Эўрапейскую кінаакадэмію. На «краі» жывуць вяскоўцы й іхныя каровы, якіх месьцічы штораз пераганяюць на іншы бераг. Вёска падмываецца Нёманам; старое жыцьцё адыходзіць. Людзі зь фільму адначасова нагадваюць рэнэсансных старых – па каляровае гаме адзеньня – і кустурыцаўскіх пэрсанажаў – па паводзінах. Але карціна «Мы жывем на краі» – не пастаноўка, а дакумэнт. Пранізьліва-мэлянхалічнае імгненьне (напэўна, апошняе) вёсачкі, што зьнікае.

У трылёгіі «Божа мой», «Завядзёнка», «Мужчынская справа» Галіна Адамовіч дасьледуе духоўныя аспэкты штодзённасьці. Героі – вясковая мастачка, якая робіць скульптуры Божае Маці, шматдзетная сям'я й музыкі са сваёй місіяй.

## БЕЛАРУСКАЕ КІНО НА ПАРОЗЕ ЗЬМЕНАЎ

Зьніадкуль зьяўляюцца ініцыятывы. Рэквізытары «Беларусьфільму» Ігар Асмалоўскі й Сяргей Сямёнаў на свае грошы ў 2009 годзе зьнялі трагікамічную кароткамэтражку «Правінцыяль». Галоўная вясковая прыгажуня, змушаная гадаваць сьвінак, марыць вырвацца з правінцыі – і лістуецца з заможным немцам, маючы шчэ двух жаніхоў.

Група анархістаў «Навінкі» радуе гледачоў падпольнымі стужкамі на актуальныя палітычныя тэмы: «Случай з пацаном» (2001), «Гуд-бай, бацька» (2006). «Навінкі» распрацоўваюць кінакоміксы.

Пакрысе пашырае свой уплыў «Магніфікат» – Міжнародны каталіцкі фэстываль хрысьціянскіх фільмаў і тэлепраграмаў. Сваяк Непакалянаўскага фэсту, ён пройдзе ў краіне ўжо сёмы раз. Нават фэстываль «Лістапад», які доўгі час быў вялай тусоўкай расейскіх кінаадстаўнікоў, загаварыў эўрапейскім голасам.

Нядаўна Андрэй Кудзіненка прапанаваў студыі экранізаваць «Шляхціца Завальню». У сцэнары, складзеным Артурам Клінавым, «дастаеўскія» дэманы спакушаюць галоўнага героя кашмарамі ад Яна Баршчэўскага. Напрыканцы стужкі герой забівае Аляксандра II – цара. Праект быў хуценька замарожаны.

Такім чынам, у Беларусі кіно й рэальнасьць ідуць побач.

АНДРЭЙ РАСІНСКІ

Частные культурные инициативы в Беларуси со стороны государства реальной поддержки не получают. Независимые, некоммерческие арт-площадки остаются инициативой групп энтузиастов и частных лиц



# МЕСТО, ГДЕ МОЖНО ДЫШАТЬ

## ВАЛЕНТИНА КИСЕЛЕВА – ІНТЭРВ'Ю

Галерея современного искусства «Ў» в Минске – независимый проект, возникший в 2009 году на базе существовавшей до этого арт-галереи «Подземка». Главным приоритетом «Ў» является именно беларусское современное независимое искусство. Здесь проходят концептуальные международные проекты, персональные выставки художников. Помимо этого, галерея является инициатором многих культурных проектов, например, конкурса для молодых концептуальных художников Smart Art, а также партнером таких инициатив, как исследовательский проект «Радиус нуля. Антология арт-нулевых» и конкурс для арт-критиков «На пути к современному музею». В помещении галереи проходят самые значимые для независимой культурной жизни Минска события: дискуссии, лекции, круглые столы, презентации. На Второй международной ярмарке ART VILNIUS`11, участниками которой были около 200 галерей из 18 стран Европы, кураторский проект «Ў» – «Яна не можа сказаць НЕБА» – был признан лучшим. О «буднях и праздниках» Галереи рассказывает ее директор, куратор Валентина Киселева.





**Татьяна Артимович: Валентина, галерея «Ў» является продолжением проекта «Подземка», с которого вы вместе с Анной Чистосердовой (сегодня арт-директором «Ў») начинали свою галерейную и кураторскую деятельность. К этой цели вы шли сознательно?**

**Валентина Киселева:** Когда мы с Анной организовали проект «Подземка», о таком формате, как «галерея», в тот момент мы даже не думали. У Анны возникло предложение открыть магазинчик дизайнерских предметов: игрушек, канцелярии, украшений интерьера и т. д. Мне эта идея понравилась, мы начали обсуждать, как и что сделать, и пришли к выводу, что должны продавать работы именно беларусских авторов. Как только мы обозначили пространство «Подземки» и начали искать художников и дизайнеров, к нам вдруг стали приходить наши друзья из художественной среды и называть то, что мы затеяли, галереей. Мы не были внутренне готовы к этому, поэтому сами смогли так назвать себя только спустя полтора года работы. Но уже тогда понимали, что «Подземка» – это и не просто сувенирная лавка. Первые авторы, чьи работы мы выставили на продажу, были художниками с именами. Например, у нас появилась керамика Тамары Соколовой, которая до этого нигде в Минске не выставлялась на продажу. Или серия Артура Клинова «Город Солнца».

Нужно также отметить, что в мае мы открылись, а уже через месяц состоялась первая выставка. Это было спонтанное предложение наших друзей – провести фотовыставку их приятельницы, латышского фотографа Виктории Медведевой. Мы подумали: почему нет, – и выставка открылась. Первым выставочным пространством была всего лишь одна стенка 3 на 5 метров, которая разделяла залы, где продавались дизайнерские изделия и авторская одежда. На этой «перегородке» сумели выставиться почти все монументалисты нашего города. Мы всякий раз удивлялись возможностям этой «стенки». Например, когда Руслан Вашкевич принес 12 своих работ, мы подумали, что разместить их здесь невозможно. Но стена оказалась «резиновой»: когда надо, она увеличивалась, или, наоборот, при необходимости уменьшалась. То есть, по сути, мы сначала обозначили место – «Подземка», потом – плоскость как выставочное пространство, и вдруг само собой все начало складываться. Безусловно, здесь сошлось все: наша энергия,

энтузиазм, потребность в таком месте, которая созрела на тот момент в творческой среде Минска. «Подземка» моментально стала популярным местом, хотя специально мы ее никак не рекламировали. Но люди шли, предлагали свою помощь. Иногда мне кажется, что это было какое-то коллективное бессознательное. Работая и находясь в этой среде, мы постоянно ощущали некую коллективную энергию.



**Т.А.: Как вы пришли к формату «Ў»? Очевидно, что, в отличие от «Подземки», это уже сознательный шаг в сторону профессиональной галерейной деятельности…**

В.К.: В какой-то момент после того, как мы осознали себя галереей и выставочным пространством стала уже не только «стенка», но вся площадь, мы поняли, что этих 25 квадратных метров нам уже не хватает. Начали мечтать о другом, более масштабном пространстве, но, конечно, соотносили все это со своими возможностями. Потому что в Беларуси такого рода деятельность, как «галерея», до сих пор носит сомнительный с точки зрения окупаемости характер. Пока у нас это абсолютно некоммерческий проект. Но мы продолжали думать о перспективах, искать партнеров, даже ходили смотреть заводские цеха на улице Октябрьской (вот где готовый арт-квартал!).

И тут наши знакомые, которые все эти годы наблюдали за нашей деятельностью, ходили на наши мероприятия, вдруг пришли к нам и предложили открыть большую полноценную галерею. Для нас тогда это было действительно чудо. То есть нам помогали открыть, организовать, запустить проект с тем, чтобы в перспективе мы доказали свою состоятельность и вышли на самоокупаемость. Мы искали помещение больше года, но территорию «Подземки» планировали сохранить. Нам было важно иметь такое место в качестве «лаборатории», где молодые художники могли отрабатывать любые свои безумные идеи. А галерея «Ў» должна была стать отдельным пространством для более профессиональных проектов. К сожалению, «Подземку» сохранить не удалось. История простая, в принципе, она могла произойти в любой стране: нас, как коммерчески невыгодный проект, просто удалили из пространства «Подземки». Притом эти люди даже не поняли, что они уничтожили, потому что сейчас «Подземка» (вывеска сохранилась) по сути

превратилась в обычную сувенирную лавку. Но в тот момент уже возникло юридическое лицо «Галерея арт-Подземка», и появилось это помещение в центре города – бывший пункт приема стеклотары, – которое просто идеально подошло под все наши запросы. Сегодня это центр, в котором есть галерея, бар, прекрасный книжный магазин, арт-лавка.



**Т.А.: После всего, что вы рассказали, очевидно, что вам пришлось начинать свою деятельность с абсолютного «нуля», обучаясь галерейному делу на практике…**

**В.К.:** Да, и я могу сказать, что процесс обучения происходит до сих пор. Мы начинали с того, что первые выставки в «Подземке» монтировали сами художники. Сегодня мы можем смело заявлять свои проекты как кураторские. Иногда я пытаюсь для себя ответить на вопрос о профессионализме. Мне кажется, есть несколько путей к нему. Первый – когда ты изучил некую систему и уверенно используешь эти знания в работе. А есть другой путь: когда ты работаешь в некой сфере, познаешь ее на практике, параллельно занимаешься самообразованием, конечно, ошибаешься, анализируешь – и таким образом становишься профессионалом. Да, мы учились на собственном опыте. Но сегодня я могу с уверенностью назвать нашу деятельность профессиональной.

**Т.А.: В адрес галереи помимо положительных отзывов и благодарностей звучит много критических замечаний, порой достаточно резких. Как вы воспринимаете критику?**

**В.К.:** Мне кажется, что бы ты ни делал, всегда найдутся люди, которые будут это критиковать. Есть конструктивная критика, которая нам интересна, которую мы воспринимаем. А есть необоснованная, иногда без элементарного профессионального исполнения своей работы со стороны критикующих. Например, журналист пишет о выставке, на которой якобы экспонируются принты. Он критикует эту выставку, не заметив даже, что работы были подписаны не как принты, но как живопись. То есть этот человек даже внимательно не ознакомился с экспозицией, он сам в первую очередь не компетентен. Можно ли серьезно относиться к такой критике?

Да, я знаю, многие говорят, что мы не галерея в полноценном смысле. Но если вы знаете, как правильно, почему сами не откроете галерею и не сделаете ее образцом? На самом деле, для нас самих то, что мы в принципе единственная площадка в Беларуси, работающая с современными, актуальными художественными практиками, – очень дискомфортное состояние. Хорошо, когда рядом есть кто-то еще, кто работает в таких направлениях. Тогда есть возможность обмениваться знаниями, умениями, энергией. Мы же часто вместо поддержки слышим за спиной упреки в свой адрес. Это странная позиция, потому что эту площадку мы создали не только для самореализации. Наш проект «Общественный суд над галереей «Ў» как раз ставил цель обнажить эту ситуацию. С одной стороны, это было шоу, но с другой, для нас все было очень серьезно, потому что мы сами попросили людей высказать свою позицию не за нашей спиной, а публично, в пространстве «Ў». Внутренняя политика галереи ориентирована на коммуникацию, мы открыты к диалогу, к критике, только, еще раз повторю, конструктивной, аргументированной критике.



**Т.А.: Почему, на ваш взгляд, не возникают другие, альтернативные «Ў», площадки?**

**В.К.:** Как я уже говорила, в Беларуси пока это абсолютно некоммерческий проект. Он может возникнуть только благодаря энтузиазму, внутренней потребности отдельных людей. Нужно тратить массу личной энергии, а многие к этому не готовы. Но, в принципе, я сама удивлена и не понимаю, почему такие площадки не возникают. Их могло бы быть очень много и разного формата. Сейчас у многих есть возможность выезжать в Западную Европу и видеть огромное количество вариаций различных культурных пространств. Почему такие пространства не возникают у нас – для меня загадка.

**Т.А.: Кто является художниками галереи? Почему именно эти художники?**

**В.К.:** Сегодня это 9 человек: Тамара Соколова, Сергей Кирющенко, Руслан Вашкевич, Михаил Гулин, Тоня Слободчикова, Алексей Лунев, Сергей

Шабохин, Александр Некрашевич, Алексей Губарев. Планируем ввести в наш список еще двоих. Почему именно они? Во-первых, нам важна личность человека: что ему интересно, что он хочет сказать и какими средствами. На мой взгляд, каждый наш художник уникален. Например, Тамара Соколова и Сергей Кирющенко – это уже состоявшиеся художники, которые, тем не менее, продолжают искать, хотят идти дальше. Понятно, что у каждого из них своя тема, форма. Например, Леша Лунев называет себя художником-индивидуалистом. Но через призму его личных переживаний – он работает только с тем, что его глубоко трогает, – начинаешь видеть иные грани мира. Сережа Шабохин – просто уникальный человек. Одно из направлений его деятельности – это история искусств. Но он не только использует эти знания в своих проектах, не только постоянно самообразовывается, а еще и создает «продукт» для тех, кто также интересуется современными культурными практиками. Сначала Сергей вел журнал в ЖЖ, делая подборку лучшей и важной, с его точки зрения, информации по искусству. Сейчас запустил полноценный интернет-портал о современном искусстве Art Aktivist, на котором он не только размещает материалы с других сайтов, но стимулирует молодых людей к написанию новых текстов, способствуя развитию независимой арт-среды в Беларуси. То есть нам интересны авторы, которые постоянно находятся в поиске.

Т.А.: Что представляет собой деятельность галереи сегодня?

В.К.: Нашу деятельность сложно назвать галерейной в чистом виде. Это скорее центр, в котором происходит много всего. Выбрать свой формат и строго его придерживаться при отсутствии других площадок сегодня практически невозможно. В идеале должно быть много галерей, каждая из которых работает в своем направлении. А пока нам приходится быть гибкими. Конечно, нам интересно именно современное, актуальное, молодое искусство. Но также мы вынуждены думать и о выживании. Мы не делаем специально коммерческие выставки. Но под каждый проект мы вынуждены искать финансирование. Иногда нам хотелось бы выставить какого-то художника, но потенциальному спонсору интересен другой автор.

**Т.А.: То есть вам приходится лавировать между условной коммерцией и искусством?**

**В.К.:** Да, по-другому сейчас не получается. Недавно мы были в Калининграде и познакомились с сотрудниками местного Центра современного искусства. У них таких проблем, как у нас, нет, потому что это государственный центр. Они думают не о финансах, а только о проектах, целях и задачах. Если бы мы имели такую стабильность: ты приходишь на работу и уверен, что аренда проплачена, зарплаты есть, – то даже при условии, что мы единственная галерея, можно было бы выбирать свой путь.

**Т.А.: Получаете ли вы какую-либо поддержку со стороны госструктур?**

**В.К.:** К нам часто приходит Министр культуры Беларуси Павел Латушко, дает высокую оценку нашим проектам, ставит в пример. Но я задаюсь вопросом: это интересы отдельной личности, или это культурная политика? Да, он поддерживает нас словом, которое очень для нас важно, но из Министерства культуры к нам никто не спешит ни с помощью, ни с предложениями о сотрудничестве. К нам приходят директора государственных музеев, искусствоведы, но открытой коммуникации, сотрудничества не возникает.

**Т.А.: Во многих европейских странах для частных культурных проектов существуют льготные условия, которые позволяют этим инициативам развиваться…**

**В.К.:** У нас таких условий нет. Недавно был издан Указ № 145 «О некоторых вопросах налогообложения в сфере культуры и информации». Но, даже бегло его изучив, я понимаю, что пока нам нет смысла переходить из коммерческой структуры, которой мы официально являемся и статус которой позволяет нам как минимум зарабатывать, в формат «общественной организации». Сегодня Павел Латушко очень много делает для того, чтобы вносились поправки, менялось законодательство в области культуры. Но в нашей стране все равно нельзя спешить: даже если примут какой-то уникальный универсальный закон, нужно

какое-то время наблюдать за тем, как он будет работать на практике. Конечно, присутствует момент недоверия к государству. Потому что если государство столько лет не поддерживало частную инициативу, то насколько оно сегодня заинтересовано в таких, как мы, не понятно.

Т.А.: Как вы как галерист прокомментируете мнение о том, что в Беларуси не существует арт-рынка?

В.К.: Если есть художники, есть «Ў», значит, и рынок есть, просто он слабо развит. Причин того, что он такой, или, как говорят, «его нет», несколько. Государство никак не способствует его появлению, с одной стороны. А с другой, у частных лиц отсутствует инициатива создавать площадки и галереи. Еще одна причина – низкая покупательская способность беларусов. То есть средний класс в Беларуси, который имел бы возможность и потребность тратить деньги на искусство, очень слабо развит. Также нужно сказать о художественном образовании, которое сегодня у нас очевидно отстает от европейских учебных программ и практик. Из-за этого многие наши художники и особенно критики оказываются абсолютно не конкурентоспособными за рубежом. А арт-рынок еще связан и с тем, насколько твое искусство интересно в мировом контексте.

Т.А.: На последнем ART VILNIUS ваш проект «Яна не можа сказаць НЕБА» стал победителем. Это первое признание деятельности галереи на международном уровне?

В.К.: Да, хотя это только второй наш выезд на международную арт-ярмарку. Два года назад мы также участвовали в ART VILNIUS, и тогда, как нам сказали, если бы был приз зрительских симпатий, мы бы его получили. Потому что беларусов такими еще не видели. Обычно выставлялись традиционные художники, и все думали, что у нас до сих пор «совок». Мы показали, что в Беларуси есть современное искусство, и оно оказалось интересным. В этом году все сложилось очень неожиданно. Нам рассказывали журналисты, которые присутствовали на заседании жюри, что наша победа была единогласным решением. Нам очень приятно, что акцент был сделан не на теме, которую мы заявили, но был отмечен,

в первую очередь, наш кураторский профессионализм. Это важно для нас, потому что я не могу сказать, что такую оценку какой-либо выставки мы получили бы от какого-нибудь беларусского комитета.

Т.А.: Что стало темой проекта?



В.К.: Павильон рассказывает о ситуации в нашей стране, в которой художник почему-то не может свободно выражать свои мысли. Мы задались вопросом: почему так происходит? Если художник не может говорить в этой стране обо всем, то о чем он тогда говорит? Что его самое сокровенное, как он реагирует? Куда уходит художник? То есть как гражданин он может выходить на площадь, но чем он занимается как художник? В результате получилось высказывание о внутренней миграции автора, о том, во что он выливает невозможность сказать «НЕБО».

Т.А.: Тем не менее, и беларусских современных художников, и ваши проекты часто обвиняют в их асоциальности, игнорировании беларусского «сегодня»…

В.К.: Мне кажется, все наши проекты социальны. Например, уникальный проект Кирющенко «Пришло время тесно заняться приземленным искусством», в котором он вместе с другими художниками преобразовывал реальный сельский ландшафт (экспозиция включала в себя документацию), превращая старые деревянные дома в арт-объекты. А ведь сегодня никто не вспоминает об этом проекте. Или кураторский проект Шабохина «Философия масс. Беларусский нео-поп-арт» – он гиперсоциален. Это проект-исследование. В нашей галерее мы как-то интуитивно всегда попадаем в точку. Например, после президентских выборов в декабре прошлого года мы организовали детское Рождество, и в тот момент для многих это стало «выдохом». Мне иногда кажется, что главная идея нашей площадки – быть источником энергии, местом, где ты можешь чувствовать себя свободно, комфортно, где можно дышать... Потом была выставка Жанны Капустниковой, которая в атмосфере депрессии, царившей в обществе в тот момент, выставила яркую портретную серию, поднявшую дух людей вокруг. После этого

Игорь Ганжа презентовал фотосерию «Живые люди. Минск», где сделал акцент на людях, работающих в сфере культуры и пытающихся что-то менять вокруг. В беларусской ситуации такие проекты становятся гиперсоциальными.

Мне обидно, когда некоторые наши искусствоведы начинают говорить о том, что беларусское искусство не дотягивает до некого международного стандарта. Но дело не в том, дотягивает оно или нет. Наше искусство другое. Оно не должно быть таким, как у других. Именно это нужно изучать. На мой взгляд, очень многие беларусские искусствоведы и кураторы сами не дотягивают до того, чтобы осмыслить то, что предлагает наш художник. В этом проблема. Как можно определить единый для всех культур критерий современного искусства? Нужно, в первую очередь, учитывать контекст. Наши проекты тесно связаны именно с беларусским контекстом. В этом я уверена.



## «ПОЛЬСКАЯ ДАПАМОГА» ДЛЯ БЕЛАРУСІ

«Польская дапамога» стаіць перад падобнымі выклікамі, што і ЕС. Найбольш пільным пытаннем з'яўляецца стварэнне больш эластычных часавых рамак рэалізацыі праектаў «Польскай дапамогі», скасаванне абавязку іх рэалізацыі і разліку цягам каляндарнага году, а таксама, як і ў выпадку з дапамогай ЕС, магчымасць прымянення рэгрантынгу.

Польскія ўлады павінны паважаць прынцыпы супрацоўніцтва, сфармаваныя апазіцыйнымі палітычнымі партыямі, незалежнымі СМІ і няўрадавымі арганізацыямі, і намагацца размаўляць пра сферы і маштабы польскай дапамогі для Беларусі з прадстаўнікамі ўсіх груп адначасова, не ствараючы штучных падзелаў.

Паўстанне на базе колішняй фундацыі «Ведаць як» новай структуры – Фундацыі Міжнароднай салідарнасці з'яўляецца першым крокам да рэалізацыі ідэі Польскага Фонду падтрымкі дэмакратыі. Гэта добра, што пачынаюць ажыццяўляцца пастулаты, якія доўгія гады дэкларуюцца польскімі арганізацыямі. Давайце спадзявацца, што гэтая Фундацыя скарыстаецца лепшым еўрапейскім і амерыканскім досведам і Польшча неўзабаве атрымае спраўную, кампетэнтную і пазбаўленую бюракратычных абсурдаў структуру для падтрымкі прадэмакратычных і прарынкавых зменаў у розных частках свету, перадусім у Беларусі.

Праверанае правіла сцвярджае, што ў дарозе трэба заўжды затрымлівацца ў самых папулярных корчмах. Тое самае датычыць выбару партнёра ў праекце. Асабліва партнёра з усходу.



МАРЭК МЛЫНАРЧЫК, ПАВЕЛ ПРАКОП

# ХАРАКТАРЫСТЫКА ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ НА ЎСХОДЗЕ

Няўрадавыя арганізацыі на Ўсходзе часцей вызначаюцца як грамадскія, з аднаго боку з аглядкай на расійскі тэрмін – *общественные организации*, а з іншага – на англійскі – *Civil Society Organizations*, які часта ўжываецца ў тэрміналогіі міжнародных донараў (напрыклад, EuropeAid, UNDP, Bank Światowy). На нашу думку, вызначэнне «грамадскія арганізацыі» у кантэксце іх становішча на Усходзе значна больш адпаведнае, чым «няўрадавыя арганізацыі». Галоўным аргументам на карысць прымянення прыметніка «грамадскі» з'яўляецца характар арганізацый. Вельмі часта яны дзейнічаюць нефармальна (напрыклад, маюць прабелы ў актуалізацыі арганізацыйнай дакументацыі або не маюць сталай сядзібы), стыхійна (дзейнасць ад праекту да праекту), на грамадскіх пачатках (часцяком, нягледзячы на доўгі перыяд адсутнасці фінансавання, ладзяцца лакальныя акцыі, якія забяспечваюць пастаянства функцыянавання). Насамрэч гэта супольнасці, больш згуртаваныя вакол пэўных дзеянняў, чым арганізаваныя інстытуцыі, якія выконваюць вызначаныя задачы. Прыметнік «няўрадавы» – на нашу думку – больш падкрэслівае арганізацыйны (спалучаны з фактам прыняцця на сябе пэўных публічных

функцый), чым грамадскі («самадастатковасць» у дзеянні), характар арганізацыі, а ў выпадку арганізацый на Ўсходзе мы часцей маем дачыненне з такім грамадскім вымярэннем дзейнасці. Гэта, канечне, ў пэўным сэнсе ідэальны тып, можна сказаць, першаўзор NGOs, а з іншага боку, відавочна, што грамадскія інстытуцыі ў працэсе свайго развіцця фармалізуюцца.

## ФОН ФУНКЦЫЯНАВАННЯ



Адной з прычын таго, што NGOs на Ўсходзе функцыянуюць больш у грамадскім, чым няўрадавым вымярэнні, з'яўляецца нізкі ўзровень грамадскага ўдзелу ў публічным жыцці. Бюракратычная мадэль працы адміністрацыі, якая ў Польшчы ў значнай ступені адышла ў мінулае, часта дамінуе ў нашых усходніх суседзяў. Яна праяўляецца ў тыпова іерархічнай будове спосабу кіравання паводле строгіх працэдур. У гэтай мадэлі найважнейшым з'яўляецца захаванне *status quo*, без увагі на неабходнасць увядзення элементаў спраўнага кіравання або пабудовы адносін з грамадзянамі. Гледзячы на сусветныя тэндэнцыі ў кіраванні адміністрацыяй, мы назіраем выразны шлях пераходу ад бюракратычнай мадэлі да менеджэрскай. Тут пунктам адліку з'яўляюцца рынкавыя адносіны, адпаведна перанесеныя на глебу публічных інстытутаў. Такім чынам, мы маем дачыненне з менеджэрскім стылем кіравання, з устаноўкай на змены, інавацыі, крэатыўнасць, а таксама на эфектыўнасць і выніковасць. Гэтая мадэль павольна ўводзіцца ў адміністрацыях краін былога СССР праз прымяненне, між іншым, сістэм кіравання, поўнай інфарматызацыі і г.д.

Квінтэсенцыяй сучаснай дзяржавы і грамадзянскай супольнасці з'яўляецца аднак пабудова мадэлі ўдзелу ў кіраванні адміністрацыяй, дзе ключавым момантам з'яўляюцца не працэдуры (як у бюракратычнай мадэлі) або вынікі (менеджэрская мадэль), але патрэбы грамадзян, якія вынікаюць з супольна створанага грамадскага паразумення. Гэта не толькі сістэма развітых кансультацый ці паразуменняў, але і дэлегаванне задач, а разам з тым і грошай. У Заходняй Еўропе гэтая мадэль у значнай ступені развітая, у Польшчы ствараюцца яе падмуркі, аднак у нашых усходніх

партнёраў яна нярэдка застаецца з'явай тэарэтычнай, а паўсюдным бар'ерам для яе ўвядзення з'яўляецца закон (права).

## АДНОСІНЫ NGO – АДМІНІСТРАЦЫЯ



У выніку існавання бюракратычна - менеджэрскай мадэлі шмат якія ідэі ці ініцыятывы, вылучаныя грамадскімі арганізацыямі, маюць шанец на рэалізацыю толькі тады, калі знойдуць падтрымку адміністрацыі або хаця б атрымаюць ад яе «зялёнае святло». Калі браць за крытэрый узровень узаемадзеяння NGOs з адміністрацыяй, можна вылучыць тры тыпы арганізацый, якія дзейнічаюць у бальшыні дзяржаваў былога СССР:

a) Арганізацыя без супрацоўніцтва – гэта найчасцей вялікія утварэнні, якія дзейнічаюць доўгі час, маюць сетку замежных партнёраў і незалежныя сродкі існавання, яны вядуць у меру пастаянную дзейнасць. Дзякуючы сваёй параўнальна моцнай пазіцыі яны маюць вялікую аўтаномію ў дачыненні да адміністрацыі, больш за тое, сама адміністрацыя неахвотна з імі супрацоўнічае, з-за роду іх дзейнасці – напрыклад, правы чалавека, маніторынг публічных інстытутаў etc. Гэтыя арганізацыі з-за сваёй дзейнасці («сочаць за рукамі ўлады»), з'яўляюцца для адміністрацыі ўтварэннем чужародным, часамі нават варожым. Аўтаномія памянёных арганізацый вымагае знешніх сродкаў фінансавання. На самым полюсе працуюць «выключаныя» адміністрацыяй арганізацыі, якія страцілі рэгістрацыю і дзейнічаюць па-за агульнай плынню (адсутнасць магчымасці знешняга фінансавання; напрыклад, урад Беларусі лічыць нефармальныя арганізацыі нелегальнымі, антыдзяржаўнымі).

b) Арганізацыі кансенсусу – меншыя арганізацыі, якія не валодаюць сталымі незалежнымі крыніцамі фінансавання або багатай сеткай партнёраў. Іх функцыянаванне мае «стыхійны» характар – «гарачыя сезоны» перамяжоўваюцца «адпачынкамі» – у залежнасці ад фінансавай сітуацыі. Арганізацыі такога кшталту займаюцца шматлікімі сферамі, ад адукацыі праз сацыяльную дапамогу аж да культуры і турызму, etc. Патрэба супрацоўніцтва з адміністрацыяй вынікае, па-першае, з самога характару іх дзейнасці – некаторых справаў не вырашыш прынамсі без адсутнасці супраціву адміністрацыі;

па-другое, з-за неабходнасці атрымання фармальнай рэгістрацыі. Часцяком яны выконваюць функцыю своеасаблівага каталізатара ў кантактах з адміністрацыяй. Іншым тыпам такіх арганізацый з'яўляюцца гуманітарныя арганізацыі, якія без супрацоўніцтва з адміністрацыяй не маглі б рэальна дзейнічаць.

c) Арганізацыі залежныя – утварэнні, якія дзейнічаюць пры адміністрацыі, без аўтаноміі. Яны маюць моцны фармальны бок, працуюць стала або мэтава (у залежнасці ад патрэб адміністрацыі). Часта, апрача задач, вызначаных адміністрацыяй, яны не вядуць уласнай дзейнасці. Яны выконваюць функцыю грамадскага твару адміністрацыі або часцяком «машынкі» па атрыманні знешніх сродкаў фінансавання для адміністрацыіі публічных інстытуцый.



## ПРАГРАМЫ ГРАНТАЎ І СІТУАЦЫЯ ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

Аналізуючы тры грантавыя праграмы, якія падтрымліваюць між іншымі супрацоўніцтва з Беларуссю: Праграма RITA – Змены ў рэгіёне (няўрадавая), праграма Польская дапамога (урадавая) і Праграма Еўрапейскага Тэрытарыяльнага супрацоўніцтва PL-BY-UA 2007–2013 (Еўрасаюз), варта зазначыць, што вымаганні (фармальныя і праграмныя) вызначаюць тып арганізацыі, якая можа падаць заяўку аб фінансаванні:

a) Праграма RITA падтрымлівае галоўным чынам арганізацыі без супрацоўніцтва і арганізацыі кансесусу. Гэтая праграма моцна акцэнтуе прыярытэты – падтрымка дэмакратычных зменаў, улічваючы шматлікія спосабы дасягнення гэтай мэты, напрыклад праз адукацыю, падтрымку культуры. Істотным элементам, які спрашчае арганізацыям атрыманне датацый, з'яўляюцца «ліберальныя» фармальныя вымаганні – партнёрскі ліст на этапе падачы заяўкі. Гэта азначае, што нават у выпадку адсутнасці актуальнага статусу арганізацыі могуць падаваць заяўку на ўдзел у Праграме.

b) Праграма «Польская Дапамога», як і Праграма RITA, падтрымлівае арганізацыі без супрацоўніцтва і арганізацыі кансенсусу, аднак з акцэнтам на арганізацыі, якія шмат гадоў працуюць з польскімі партнёрамі (тут вельмі істотным з'яўляецца пытанне гісторыі дзейнасці). Міністэрства Замежных справаў Рэспублікі Польшча

дае датацыі як на маніторынгава-кантрольныя дзеянні ў дачыненні да беларускай улады (арганізацыі без супрацоўніцтва), гэтак і на працу ў сферы сацыяльнай дапамогі, прадпрымальніцтва, адукацыі, якая не можа рэалізавацца ў поўнай апазіцыі ад улады (арганізацыі кансенсусу). Фармальныя вымаганні таксама спрыяюць арганізацыям, хаця і не так, як у выпадку з праграмай RITA. Варта дадаць, што ў конкурсе ў 2011 г. фінансавання не атрымалі арганізацыі, дачынныя непасрэдна да адміністрацыі. Дадатковага прызнання Міністэрства замежных справаў Рэспублікі Польшча заслугоўвае за два сёлетнія конкурсы, якія падтрымліваюць непасрэдна грамадзянскую супольнасць Беларусі: «Падтрымка беларускага грамадства» і «Супольныя польска-беларускія дзеянні 2011».



c) Праграма Еўрапейскага Тэрытарыяльнага Супрацоўніцтва PL-BY-UA 2007–2013 скіраваная галоўным чынам да арганізацый кансенсусу і залежных. З-за прыярытэтаў і тыпу праграмы (скіраванай на «цвёрдыя» вынікі), пераважная бальшыня праектаў прызначаная для адміністрацыі або публічных інстытуцый, якія супрацоўнічаюць з залежнымі арганізацыямі або арганізацыямі кансенсусу. Фармальныя вымаганні не спрыяюць арганізацыям, якія могуць мець нейкія праблемы у рэгістрацыйных пытаннях. Складанай спецыфікай праграмы з’яўляецца «аднароднасць» яе вымаганняў для ўсіх тэрытарыяльных абшараў, якія яна ахоплівае, без увагі на нетыповую сітуацыю ў такіх краінах, як Украіна і перадусім Беларусь.

## ФУНКЦЫІ NGOS У ГРАМАДСТВАХ ПОСТСАВЕЦКІХ КРАІН

Спецыфічны дзяржаўны апарат, які дзейнічае як гібрыд бюракратычнай і менеджэрскай мадэлі, стварыў прастору для арганізацый як рамантычнага, пазітывісцкага, так і апартуністычнага характару.

Арганізацыі без супрацоўніцтва з’яўляюцца дэміургамі дэмакратычнага ладу і грамадзянскай супольнасці. Гэта ўтварэнні з высокай ступенню верагоднасці дзеянняў, зазвычай яны маюць давераных партнёраў. У значнай ступені дзякуючы ім мы ведаем рэальную карціну сацыяльна-эканамічнага жыцця, напрыклад, у Беларусі. Нягледзячы на тое, што ім можна закідваць герметычнасць (якая з’яўляецца наступствам параследу

іх уладамі), яны адпавядаюць патрэбам грамадства (у выпадку Беларусі гэта асабліва актуальна пасля снежня 2010 г.)

Іх крайняй процілегласцю з'яўляюцца залежныя арганізацыі, адзінай вартасцю якіх з'яўляецца доступ (не ўплыў) да адміністрацыі. У выпадку дзеянняў, скіраваных непасрэдна да публічных інстытутаў (напрыклад, *good governance*), гэтыя арганізацыі могуць выконваць ролю грамадскага партнёра. Больш за тое, праз удзел залежнай арганізацыі ў дадзеным праекце, адміністрацыя можа дапусціць да ўдзелу адну з арганізацый кансенсусу.

На нашу думку, няварта цалкам закрывацца ад супрацоўніцтва з адмністрацыяй. Мы не верым у цудоўную здольнасць рэформы адміністрацыі з нізоў, але лічым, што можна супрацоўнічаць з чыноўнікамі (хаця гэта і няпроста). Калі мы згаджаемся на супрацоўніцтва з дактарамі, настаўнікамі, працаўнікамі дамоў сацыяльнай апекі, якія таксама з'яўляюцца элементам дзяржаўнай сістэмы, то нішто нам не замінае рабіць супольныя намаганні разам з мясцовай адміністрацыяй (напрыклад, у малых населеных пунктах) або з залежнымі арганізацыямі.

Варта падкрэсліць, што ў нашых усходніх суседзяў (Украіна, Беларусь) існуе найперш патрэба рэалізацыі мерапрыемстваў (няважна, у якой сферы), вынікам якіх будзе ўзнікненне людскіх повязяў, супольнасці, якая будзе ўсведамляць сваю тоеснасць.

Гэтая ідэя рэалізуецца ў выпадку арганізацый кансенсусу. Яны працуюць у сітуацыі маральнай дылемы: не рабіць нічога (адсутнасць рэгістрацыі) або працаваць, але ў навязаных зверху рамках, з магчымасцю часамі пераступаць гэтыя межы. Арганізацыі усведамляюць, што без «пячаткі» ўлады шмат якія цудоўныя ідэі і ініцыятывы можна пахаваць. Па-другое, яны выступаюць «піянерамі» ў знаходжанні кампрамісаў паміж імкненнямі NGOs і ўсяўладнасцю адміністрацыі. Супрацоўнічаючы з адміністрацыямі кансенсусу, мы мусім усведамляць, што вызначэнне формы і сферы дзяйнасці ў вялікай ступені належыць ім, бо яны найлепш ведаюць рэаліі і дакладна ўяўляюць, што можна або ўдасца зрабіць.

## МІЖНАРОДНАЕ ПАРТНЁРСТВА



Часта паўстаюць практычныя пытанні пра спосаб навязвання кантакту і супрацоўніцтва з партнёрам з Усходу, напрыклад, з беларускім. Арганізацыі без супрацоўніцтва ўжо маюць сваіх давераных партнёраў. Навязваючы супрацоўніцтва з арганізацыямі залежнымі, мы ставім пад пагрозу кантроль над рэалізацыяй нашых мэтаў, рызыкуем, што праект будзе выкарыстаны для рэалізацыі «лакальных інтарэсаў». Найбольш прывабнымі для арганізацый, якія хочуць распачаць «прыгоду на Ўсходзе», у тым ліку ў Беларусі, з'яўляюцца арганізацыі кансенсусу.

Цяперашняя сістэма навязвання партнёрства, між іншым, у выглядзе базы арганізацый на старонках www.ngo.pl, www.ngo.ru, www.ngo.by, або ў выглядзе базы міжнародных праектаў, рэалізаваных польскімі няўрадавымі арганізацыямі, створанай Групай Замежжа, або ў форме біржаў абмену партнёрамі, арганізаваных у рамках канферэнцый і семінараў, не гарантуе 100% выбару аптымальнага партнёра, і што яшчэ важней – магчымасць яго верыфікацыі.

Праверанае правіла кажа, што ў дарозе трэба заўжды затрымлівацца ў самых папулярных корчмах. Тое самае датычыць выбару партнёра ў праекце. Асабліва партнёра з усходу.

Найлепш будаваць адносіны з тымі, хто мае шмат працы, і таму правераны і верыфікаваны іншымі. Натуральна, тут трэба быць пільнымі. Мы ўжо мелі дачыненне з партнёрамі, цудоўна арганізаванымі і спраўнымі, якія, аднак, зусім не адчувалі «ветру перамен», а праекты рэалізавалі выключна з прычын меркантыльных.

Іншая праблема, якая можа ўзнікнуць пры супрацоўніцтве з партнёрам NGO, гэта сітуацыя, калі партнёр трактуе праект як магчымасць забяспечыць уласныя інтарэсы. Ёсьць урэшце і партнёры-манапалісты, якія не дапускаюць да супрацоўніцтва іншыя лакальныя інстытуцыі. Натуральна, аптымальны варыянт – гэта пастаянны, адказны, правераны ў баях партнёр, бо элемент трываласці, супрацоўніцтва і лаяльнасці вельмі важны. Калі партнёр відавочна неадпаведны, а прытым яшчэ і гультаяваты, варта, дзеля інтарэсаў дзейнасці, без сантыментаў падумаць пра яго замену.

МАРЭК МЛЫНАРЧЫК, ПАВЕЛ ПРАКОП

Пра правы чалавека ў Беларусі гавораць ужо шмат стагодзьдзяў. Але да сёньняшняга дня праблемы асабістай свабоды й вальнадумства застаюцца актуальнымі для беларусаў. У неспрыяльных, нават небясьпечных умовах беларускія праваабарончыя арганізацыі працягваюць сваю дзейнасьць.



АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ

# ПРАВААБАРОНЧАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ У БЕЛАРУСІ. АД ВЫТОКАЎ ДА АПОШНІХ ДЗЁН

Гісторыя асэнсаваньня правоў чалавека й змаганьня за правы чалавека мае ў Беларусі вельмі даўнюю традыцыю. Першая згадка пра правы чалавека менавіта ў такім спалучэньні словаў гучыць у XVIII ст. у беларускім рукапісным творы полацкага шляхціца Сямёна Зяновіча «Сапраўдная навука асноў права чалавека ў прыватнасьці і права народаў увогуле», у якім аўтар разглядае юрыдычныя передумовы роўнасьці, разважае пра свабоду й яе якасьці.

Надзвычай важны акт у грамадзка-палітычным жыцьці Беларусі зьдзейсьніў кіраўнік паўстаньня 1793 г. у Вялікім Княстве Літоўскім Якуб Ясінскі, які выступаў за скасаваньне манархіі й за адмену прыгону. 23 красавіка 1793 г. у Вільні адбылося паўстаньне, і быў захоплены расейскі вайсковы гарнізон, а на наступны дзень ужо быў прыняты Ўнівэрсал, у якім абвяшчалася роўнасьць станаў, а сялянам надавалася асабістая вольнасьць. Гэтыя ідэі роўнасьці людзей, асабістай свабоды й неадʼемнасьці правоў чалавека сталі асноватворнымі на ўсё наступнае

стагодзьдзе. Менавіта яны гучалі падчас усіх паўстаньняў супраць расейскага дэспатызму.

Пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. разьвіваць і абараняць грамадзка-палітычныя правы ў Савецкай Беларусі стала практычна немагчыма. Дыктатура пралетарыяту, масавыя сталінскія рэпрэсіі прымусілі беларусаў найперш клапаціцца не пра адстойваньне сваіх правоў, а пра элементарнае выжываньне. Пасьля Другой сусьветнай вайны гэтая праблема стала яшчэ больш актуальнай. Тым ня менш адразу пасьля вайны, асабліва на тэрыторыі Заходняй Беларусі, пачалі паўставаць маладзёвыя падпольныя арганізацыі: Саюз вызваленьня Беларусі, Саюз беларускіх патрыётаў, «Чайка», «Вольная Беларусь» ды інш., якія ставілі на мэце змаганьне за незалежнасьць Беларусі й аднаўленьне для беларускага народу грамадзкіх, палітычных ды сацыяльных правоў. Усе гэтыя арганізацыі былі выкрытыя КДБ, іх удзельнікі рэпрэсаваныя, а некаторыя й расстраляныя.



Сьмерць Сталіна дала новы штуршок барацьбе беларусаў за правы чалавека. З 1953 па 1985 г. па артыкуле «Антысавецкая прапаганда і агітацыя» ў Беларусі было асуджана больш за сто асобаў. Выступалі беларусы й супраць увядзеньня савецкіх войскаў у Чэхаславаччыну ў 1968 г. Так, за антысавецкія выказваньні былі пакараныя журналіст і гісторык Анатоль Сідарэвіч, паэт Фёдар Яфімаў, Мікалай Якімовіч, Мікалай Кукабака. Апошні стаў ці ня самым вядомым беларускім дысыдэнтам. За праваабарончую дзейнасьць – выступы з крытычнымі артыкуламі, распаўсюд Усеагульнай дэкларацыі аб правах чалавека – ён быў неаднаразова арыштаваны, судом накіраваны на прымусовае псыхіятрычнае лячэньне, затым асуджаны за «ганьбаваньне савецкага дзяржаўнага й грамадзкага ладу».

Але шырокага дысыдэнцкага руху ў Беларусі так ня склалася. Былі асьветніцкія паўлегальныя формы працы, накіраваныя ў асноўным супраць русіфікатарскай палітыкі, якую праводзілі камуністы. Так, напрыклад, браты Белыя ў 1950–70-я гады распаўсюджвалі антысавецкія ўлёткі ў Менску, за што былі схопленыя й асуджаныя на вялікія тэрміны зьняволеньня. Таксама быў рэпрэсаваны філёзаф і культуроляг Кім Хадзееў, які ачольваў філязофска-літаратурны гурток студэнтаў БДУ. Пры нявысьветленых абставінах быў забіты ў 1972 г. мастак Лявон Баразна, лідэр нонканфармісцкага мастацкага руху, які выступаў

супраць зьнішчэньня старога Менску. Варта згадаць і Якава Хейфіца, аднаго з габрэйскіх актывістаў, асуджанага за крытыку ўлады па пытаньні культурных правоў габрэйскай меншасьці ў Беларусі.

## ПАЧАТАК 1980-Х: ЗМАГАНЬНЕ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ



На пачатку 80-х гадоў у Беларусі сфармавалася новая маладзёвая дэмакратычная плынь, якая шукала як легальныя, так і нелегальныя формы працы. Натхнёная падзеямі ў Польшчы, беларуская моладзь паставіла перад сабой задачу змаганьня за нацыянальныя, палітычныя, грамадзкія й сацыяльныя правы для беларускага народу.

16–17 сьнежня 1987 г. адбыўся Першы Вольны Сойм маладзёвых беларускіх суполак, на якім прысутнічалі прадстаўнікі некалькіх дзясяткаў так званых «нефармальных аб'яднаньняў». Быў прыняты шэраг дакумэнтаў, у якіх дэкляраваліся барацьба за стварэньне прававо дзяржавы, неабходнасьць забесьпячэньня ўсіх грамадзкіх і палітычных свабодаў, незалежнага суда, кантроль за дзейнасьцю КДБ, за справядлівасьцю правасудзьдзя і г. д. Знакавым стаўся для беларускіх праваабаронцаў 1988 г., калі была абнародаваная праўда аб месцы масавага пахаваньня ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў пад Менскам ва ўрочышчы Курапаты. Пасьля гэтага быў створаны «Камітэт-58» як «напамінак аб адпаведным артыкуле Крымінальнага кодэксу РСФСР, па якім былі несправядліва асуджаныя мільёны людзей ува ўсіх рэспубліках СССР». На базе «Камітэту-58» было ўтворана Таварыства памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій «Мартыралёг Беларусі». Гэта першая афіцыйна абвешчаная легальная праваабарончая арганізацыя ў краіне.

Змаганьне з сталінскай спадчынай было надзвычай важным для дэмакратычных зьменаў у беларускім грамадзтве. Першыя масавыя акцыі ў Беларусі: Дзяды-87, дэманстрацыя й мітынг у Курапатах, які адбыўся 19.06.1988, і Дзяды-88, якія адбыліся 30.10.1988, – мелі выразны антысталінскі, антытаталітарны кірунак. Менавіта таму Дзяды-88 былі жорстка разагнаныя савецкімі беларускімі ўладамі. Але ўжытыя ўладамі рэпрэсіі не далі чаканага выніку. У адказ на іх у грамадзтве ўзьнялася сапраўдная хваля асуджэньня й абурэньня. Тысячы грамадзянаў пайшлі ў толькі што створаны Беларускі Народны Фронт – першую масавую

дэмакратычную грамадзка-палітычную арганізацыю, якая ставіла на мэце маштабныя дэмакратычныя пераўтварэньні ў грамадзтве й дабівалася іх у наступныя гады палітычнымі й грамадзкімі сродкамі. Праблемы дзяржаўнай незалежнасьці, шматпартыйнасьці, свабоды распаўсюду й атрыманьня інфармацыі, свабоды сумленьня, экалёгіі, правядзеньня справядлівых выбараў, эканамічнага рэфармаваньня, захаваньня правоў чалавека й г. д. былі галоўнымі пытаньнямі, якія ставіў у сваёй дзейнасьці Беларускі народны фронт. Дзейнасьць БНФ як галоўнай палітычнай і грамадзкай сілы ў канцы 1980-х – пачатку 1990-х гадоў прывяла да здабыцьця Беларусьсю ў 1991 г. незалежнасьці.



У 1990 г. разьвівалася дзейнасьць Вэнскага камітэту, які, як згадвае адзін зь ягоных заснавальнікаў Валеры Сядоў, «узьнік як адваротная рэакцыя на масавы тэрор камуністычнага рэжыму супраць сяброў БНФ і ўсіх нязгодных». Сябры Вэнскага камітэту забясьпечвалі юрыдычную дапамогу, выступалі з праваабарончымі ідэямі на мітынгах, у вольнай прэсе, удзельнічалі ў міжнародных праваабарончых канфэрэнцыях у Маскве, у канфэрэнцыях паняволеных народаў у Таліне, Тбілісі. 10 сьнежня 1990 г. правялі ў Менску мітынг, прысьвечаны Дню правоў чалавека, у якім удзельнічалі некалькі тысячаў чалавек. Сам В. Сядоў 7 лістапада 1990 г. браў удзел у антыкамуністычным мітынгу-шэсьці з цэнтру Менску й усклаў да помніку Леніна так званыя «дары» – крыж у вопратцы зьняволенага, абкручаны калючым дротам, – за што 7 траўня 1991 г. пастановаю Пракуратуры БССР быў арыштаваны й зьмешчаны ў сьледчы ізалятар. У ізалятары знаходзіўся больш за два месяцы, зь якіх 32 дні трымаў галадоўку. Неўзабаве дзейнасьць Вэнскага камітэту спынілася.

Пэўную працу, накіраваную на забесьпячэньне свабоды слова й абарону правоў журналістаў і пісьменьнікаў, праводзіў беларускі ПЭН-цэнтар (першы кіраўнік – Карлас Шэрман), створаны ў лістападзе 1989 г. З 1994 г. беларускі ПЭН-цэнтар штогод прысуджае дзьве *літаратурныя прэміі* пісьменьнікам з мэтай заахвочваньня іхнай працы на карысьць пашырэньня ідэяў адкрытага грамадзтва. У 1996 г. беларускі ПЭН-цэнтар стаў членам Камітэту «Пісьменьнікі ў зьняволеньні», заснаванага ў 1960 г. Асамблеяй Дэлегатаў Міжнароднага ПЭН-клюбу. Неаднаразова сябры беларускага ПЭН-цэнтру перасьледаваліся за сваю актыўную грамадзянскую пазыцыю. Так, былы кіраўнік ПЭН-цэнтру, беларускі пісьменьнік Уладзімер Някляеў, які кандыдаваў у прэзыдэнцкіх выбарах

у 2010 г., быў моцна зьбіты й арыштаваны КДБ, а затым асуджаны. ПЭН-цэнтар выступае ў абарону рэпрэсаваных беларускіх пісьменьнікаў.

У 1992 г. была створаная Беларуская ліга правоў чалавека, якую ўзначаліў на той час дэпутат Вярхоўнага савету Яўген Новікаў. Напачатку ЛГПЧ займалася праваабарончай працаю, дапамагала людзям, якія падпалі пад рэпрэсіі з боку беларускіх уладаў, выдавала газэту «Правы чалавека», актывісты Лігі дасьледавалі пытаньне выкарыстаньня псыхіятрычнай мэдыцыны ў мэтах перасьледу іншадумцаў у Беларусі. У 1995 г. Я. Новікаў зьмяніў свае погляды й быў адхілены ад кіраўніцтва ЛГПЧ. Паступова да 2000 г. праца ЛГПЧ спынілася.

## СЯРЭДЗІНА 1990-Х: НОВАЯ СТАРОНКА ГІСТОРЫІ ПРАВА Ў БЕЛАРУСІ

З прыходам да ўлады А. Лукашэнкі сытуацыя з правамі чалавека ў краіне рэзка ўскладнілася. Як рэакцыя на першыя абмежаваньні з боку ўладаў свабоды распаўсюду інфармацыі ўзьнікла Беларуская асацыяцыя журналістаў, асноўнай мэтай якой стала «стварэньне ўмоваў для забесьпячэньня свабоды слова й друку, права на бесьперашкоднае атрыманьне, захоўваньне й распаўсюджваньне інфармацыі».

Адказам на наступ на грамадзкія й палітычныя свабоды стала стварэньне 1 лістапада 1995 г. Беларускага Гельсынскага Камітэту (БГК), ганаровым старшынём якога быў абраны вядомы беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў. Зьдзек з нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцягу з боку вышэйшых беларускіх чыноўнікаў быў штуршком для стварэньня БГК. Камітэт мае прадстаўніцтвы ў 12 гарадах краіны, налічвае каля 350 сяброў. У 1998 г. быў узнагароджаны прэміяй ЭЗ і ЗША. БГК выяўляе выпадкі парушэньня правоў чалавека, забясьпечвае прававую дапамогу канкрэтным людзям (штогод у БГК прыходзіць да 2000 скаргаў), праводзіць праваабарончыя сэмінары й трэнінгі па навучаньні маладзёвых актывістаў і юрыстаў, выдае спэцыяльную літаратуру, арганізоўвае разнастайныя мерапрыемствы з мэтай прыцягнуць увагу грамадзкасьці да праблемаў парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. Камітэт зьяўляецца партнэрам Рады Эўропы, удзельнічае ў міжнародным гельсынскім руху. Зараз БГК ачольвае Алег Гулак.

Увесну 1996 г. у адказ на жорсткі разгон сілавымі структурамі масавай маніфэстацыі «Чарнобыльскага шляху», пасьля якога было арыштавана амаль 200 асобаў і ўзбуджаная крымінальная справа супраць арганізатараў, стварылася група падтрымкі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, якая заклала пачатак існаваньня Праваабарончага цэнтру «Вясна» (кіраўнік – Алесь Бяляцкі). Прыярытэтамі дзейнасьці Цэнтру, які сёньня прадстаўлены ў 17 найбуйнейшых гарадах Беларусі, застаюцца дапамога ахвярам палітычных рэпрэсіяў, збор і распаўсюд як у краіне, так і за яе межамі, інфармацыі пра парушэньні правоў чалавека ў Беларусі, асьветніцкія й адукацыйныя праваабарончыя праграмы, назіраньне за выбарамі. У 2003 г. Вярхоўны суд Беларусі па іску міністэрства юстыцыі скасаваў рэгістрацыю «Вясны». У 2007 г. Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў ліквідацыю незаконнай і абавязаў беларускі ўрад аднавіць рэгістрацыю. Гэтае рашэньне не было выкананае. 6 сакавіка 2004 г. ПЦ «Вясна» быў прыняты ў Міжнародную Фэдэрацыю Правоў Чалавека (FIDH), а ў 2008 г. А. Бяляцкі быў абраны віцэ-прэзыдэнтам FIDH. Вынікі праваабарончай дзейнасьці Цэнтру былі адзначаныя некалькімі міжнароднымі прэміямі Чэхіі, Італіі, Нарвэгіі, Швэцыі, ЗША.



У другой палове 90-х – пачатку 2000-х гадоў стварыліся іншыя рэспубліканскія й рэгіянальныя праваабарончыя арганізацыі, такія як Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі й «Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў». На базе апошняга пасьля яго ліквідацыі ўладамі ў 2003 г. былі створаныя Цэнтар прававой трансфармацыі і Фонд разьвіцьця прававых тэхналёгіяў, якія працягнулі дзейнасьць у галіне праваабароны. У кірунку расьсьледаваньняў і прыцягненьня ўвагі да палітычна матываваных выкраданьняў, што адбыліся ў краіне ў 1999–2000 гг., з 1998 г. працуе Прававая дапамога насельніцтву (кіраўнік – Алег Волчак).

З 1998 г. працуе рэгіянальная праваабарончая арганізацыя Магілёўскі праваабарончы цэнтар (кіраўнік – Уладзімер Краўчанка), якая на рэгіянальным узроўні займаецца правядзеньнем маніторынгу сытуацыі з правамі чалавека, зборам і распаўсюдам інфармацыі, падрыхтоўкай адукацыйных і асьветніцкіх праваабарончых мерапрыемстваў.

Праваабарончай дзейнасьцю ў краіне з пачатку 2000-х гадоў таксама займаюцца такія арганізацыі, як Менскі цэнтар правоў чалавека, «Прававая ініцыятыва» (падрыхтоўка праваабарончых

трэнінгаў і сэмінараў), «Праваабарончы альянс» (дапамога ахвярам палітычных рэпрэсіяў і іх сем'ям, распаўсюд інфармацыі пра парушэньні правоў чалавека ў краіне). У 2006 г., пасьля масавых рэпрэсіяў падчас і пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, распачаў працу Камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасьць», які ўзначальвае Іна Кулей. Асаблівую ўвагу Камітэт засяроджвае на падтрымцы рэпрэсаваных студэнтаў, сем'яў рэпрэсаваных, на мэдычнай і псыхалягічнай дапамозе ахвярам палітычных рэпрэсіяў.

З 2007 г. у Вільні запрацаваў як сумесная праваабарончая ініцыятыва некалькіх арганізацыяў «Дом правоў чалавека ў выгнаньні ў Вільні», які зараз выступае як буйны адукацыйны праваабарончы цэнтар, адкрыты дэмакратычны асяродак, дзейнасьць якога накіраваная на дапамогу беларускім НДА, рэалізацыю беларускіх праваабарончых адукацыйных праграмаў, на падтрымку міжнароднага супрацоўніцтва беларускіх ды замежных праваабарончых арганізацыяў. Таксама на базе арганізацыі праводзяцца трэнінгі, сустрэчы, культурніцкія акцыі, якія цяжка ажыцьцявіць у Беларусі.

Пасьля падзеяў 19 сьнежня 2010 г. была створаная ініцыятыва сваякоў палітычных вязьняў Камітэт «Вызваленьне», які працуе ў кірунку дапамогі палітычным вязьням, а таксама сем'ям, якім такая падтрымка патрэбная.

З прычыны неспрыяльных умоваў для працы ўсіх праваабаронцаў у Беларусі нашыя праваабарончыя арганізацыі аб'ядноўваюць свае намаганьні ў сумеснай дзейнасьці. У 2004 г. у Менску й 25–26 верасьня 2010 г. у Вільні былі праведзеныя два форумы беларускіх праваабаронцаў, на якіх былі абмеркаваныя шляхі актывізацыі й паляпшэньня праваабарончай работы. На другім форуме, у якім бралі ўдзел прадстаўнікі 18 беларускіх праваабарончых арганізацыяў, было прынятае рашэньне аб распрацоўцы стратэгіі разьвіцьця беларускага праваабарончага руху.

На працягу гэтых гадоў было праведзена некалькі супольных праваабарончых кампаніяў, накіраваных на вырашэньне балючых праблемаў у галіне абароны правоў чалавека. Напрыклад, кампанія Stop 193.1, ініцыяваная Асамблеяй НДА, была накіраваная на скасаваньне ў крымінальным кодэксе адказнасьці за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Гэтая кампанія актыўна праводзілася ў 2009–2010 гг. Таксама трэба ўзгадаць ініцыяваную ПЦ «Вясна»

й БГК кампанію «Праваабаронцы супраць сьмяротнага пакараньня» (распачатая ў 2009 г.); кампанію за альтэрнатыўную службу, у правядзеньні якой удзельнічалі Цэнтар прававой трансфармацыі й ПЦ «Вясна»; кампанію «Праваабаронцы за свабодныя выбары», якую ў 2008 і 2010 гг. падчас парлямэнцкіх і прэзыдэнцкіх выбараў праводзілі ПЦ «Вясна» й БГК. Сумесныя намаганьні праваабарончых арганізацыяў спатрэбіліся для падрыхтоўкі альтэрнатыўнага дакладу па UPR у 2009–2010 гг. для ААН, над якім працавалі Асамблея НДА, ПЦ «Вясна», БАЖ і БГК. Таксама каардынацыя адбываецца на ўзроўні працы грамадзкіх арганізацыяў у грамадзянскай плятформе ва Ўсходнім партнэрстве ў 2009–2011 гг.



Сур'ёзным выклікам для беларускай праваабарончай супольнасьці сталі падзеі непасрэдна падчас і пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня 2010 г. Свае намаганьні беларускія праваабаронцы засяродзілі на дапамозе ахвярам палітычных рэпрэсіяў, выкарыстоўваючы дзеля гэтага як унутраныя, так і міжнародныя магчымасьці й мэханізмы. Была забясьпечаная сталая дапамога палітычным зьняволеным, а таксама сем'ям пацярпелых. Праўдзівыя зьвесткі пра стан палітвязьняў, пра магчымасьці для абароны палітзьняволеных, пра маштабы рэпрэсіяў, якія закранулі сотні чалавек у Беларусі, маніторынг судовых працэсаў, – гэтая інфармацыя з вуснаў праваабаронцаў у 2011 г. неаднаразова гучала ў структурах ААН і АБСЕ, на паседжаньнях Рады Эўропы й Эўрапейскага Зьвязу. У сваіх заявах беларускія праваабаронцы жорстка асудзілі тыя рэпрэсіі, якія ўлады абрынулі на палітычных апанэнтаў. Беларускія праваабаронцы працавалі ў шчыльным кантакце з сваімі замежнымі партнэрамі.

Улады нэрвова адрэагавалі на справядлівую крытыку праваабаронцаў. КДБ былі праведзеныя ператрусы ў офісах вядучых праваабарончых беларускіх арганізацыяў і ў прыватных кватэрах праваабаронцаў, былі канфіскаваныя кампутарная тэхніка й носьбіты інфармацыі. Алесь Бяляцкі, старшыня ПЦ «Вясна», атрымаў ад Генэральнай пракуратуры афіцыйнае папярэджаньне за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, БГК атрымаў два папярэджаньні ад Міністэрства юстыцыі. У дзяржаўных СМІ ідзе бесьперапынная кампанія па дыфамацыі й дыскрэдытацыі дзейнасьці беларускіх праваабаронцаў, іх называюць «пятай калёнай», «ворагамі народу».

Тым ня менш, адчуваючы вялікую адказнасьць перад беларускім народам і перад тымі, каму патрэбная дапамога праваабаронцаў, атрымліваючы бесьперапынную моцную падтрымку ад людзей, беларускія праваабарончыя арганізацыі працягваюць сваю дзейнасьць.

АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ



***Ад рэдакцыі.*** *Праз пару дзён пасьля напісаньня гэтага артыкулу Алесь Бяляцкі быў арыштаваны. Эўрапейская супольнасьць і праваабаронцы сьвету ўспрынялі гэты крок з боку беларускіх уладаў «як расправу й помсту за ягоную шматгадовую праваабарончую дзейнасьць, а таксама як імкненьне зьнішчыць Праваабарончы цэнтар «Вясна» й запалохаць увесь праваабарончы рух у Беларусі».*

Усе зьмены, якія адбываліся ў беларускай адукацыйнай сыстэме ў апошняе дзесяцігодзьдзе, можна назваць «вяртаньнем у мінулае»: пад патрэбу ўлады перапісваліся падручнікі гісторыі й грамадазнаўства, выбудоўвалася моцная адукацыйная вэртыкаль, зьнішчалася нацыянальная мова, у школы вярнулася ідэалёгія.



ТАМАРА МАЦКЕВІЧ

# ВЯРТАНЬНЕ БЕЛАРУСІ Ў ЭЎРАПЕЙСКУЮ КУЛЬТУРНУЮ ПРАСТОРУ: РОЛЯ АДУКАЦЫІ

У вялікай ступені цяжкасьці з пабудовай у Беларусі прававой дэмакратычнай дзяржавы, улучанай у сусьветную эканамічную й культурную прастору, зьвязаныя з тым, што беларуская сыстэма адукацыі яшчэ ня выканала сваю сацыякультурную місію – фармаваньня свабоднай дэмакратычнай эўрапейскай нацыі.

У краінах былога СССР адукацыя была накіравана на абслугоўваньне ваенна-прамысловага комплексу. Таму ў школах падтрымліваўся добры ўзровень выкладаньня матэматыкі й прыродазнаўчых дысцыплінаў і штучна заніжалася роля гуманітарнай адукацыі. Пра грамадзянскую адукацыю гаворкі наогул не вялося – яна цалкам замянялася прапагандай.

Пасьля распаду камуністычнага блёку ўсе вызваленыя дзяржавы пачалі рэфармаваць і адбудоўваць свае сыстэмы адукацыі, бо лад мяняўся й грамадзтва патрабавала ад чалавека іншых якасьцяў.

Не была выключэньнем і Беларусь. У 1993 годзе была распрацаваная, але зь вядомых прычынаў не пасьпела быць прынятай, «Канцэпцыя нацыянальнай школы Беларусі», былі выдадзены пазбаўленыя савецкіх ідэалягем падручнікі гісторыі ды грамадазнаўства. Але пасьля 1996 году рэформу адукацыі пачалі згортваць.

## СЫТУАЦЫЯ, ЯКАЯ СКЛАЛАСЯ Ў БЕЛАРУСКАЙ АДУКАЦЫІ НА СЁНЬНЯ



Замова, дадзеная адукацыі ў пачатку 90-х, была замененая на іншую. І ўсе зьмены, якія адбываліся ў адукацыйнай сыстэме ў апошняе дзесяцігодзьдзе, можна назваць «вяртаньнем у мінулае»: зноў пад патрэбу ўлады перапісваліся падручнікі гісторыі й грамадазнаўства, выбудоўвалася моцная адукацыйная вэртыкаль, зьнішчалася нацыянальная мова, у школы вярнулася ідэалёгія – заўсёдны інструмэнт дыктатуры.

Сёньня ўсьведамленьне нацыянальнай прыналежнасьці проціпастаўляецца падыходу, паводле якога Беларусь ёсьць захаваная беларускім кіраўніком частка СССР у ягоных найлепшых рысах, а беларусы – найлепшыя з савецкіх людзей.

У 2008 годзе была абвешчаная чарговая рэформа адукацыі, якая яшчэ больш аддаліла нас ад сучасных адукацыйных працэсаў. Гэтае рэфармаваньне адрозьнівалася пасьпешлівасьцю й непрадуманасьцю. Дэкрэт № 15 «Аб асобных пытаньнях агульнай сярэдняй адукацыі» быў падпісаны 17 ліпеня 2008 году, а зь 1 верасьня 2008 году ўсе школы павінны былі пачаць працу згодна з новымі праграмамі. Паказальна, што рэформа рыхтавалася не ў Міністэрстве адукацыі, а ў Адміністрацыі прэзыдэнта, і абвясьціў яе ў той час галоўны ідэоляг краіны акадэмік Анатоль Рубінаў.

У выніку рэформы 2008 году ў першую чаргу былі скасаваныя новаўвядзеньні 90-х гадоў, скіраваныя на ўніфікацыю беларускай адукацыйнай сыстэмы з сучаснай эўрапейскай. Было ліквідавана 12-гадовае навучаньне, практычна па ўсіх прадметах зьнізілася колькасьць навучальных гадзінаў, асабліва пацярпелі замежныя мовы, літаратура, грамадазнаўства, а таксама некаторыя прадметы

гуманітарнага цыклю, якія спрыялі фармаваньню сьветапогляду школьнікаў. А гісторыя Беларусі, сусьветная мастацкая культура наогул былі выключаныя з школьнай праграмы. У выніку ідэалягічнай цэнзуры з падручнікаў гісторыі й літаратуры зьніклі імёны многіх беларускіх гістарычных дзеячаў і пісьменьнікаў, савецкі пэрыяд пачаў тлумачыцца практычна гэтак жа, як у савецкія часы.

Рэформа скасавала профільнае навучаньне ў школах, зьліквідавала паглыбленае вывучэньне прадметаў. У выніку ўсе школы маюць аднолькавую праграму, разьлічаную на вучня са здольнасьцямі ніжэй за сярэдні ўзровень. А заняткі для здольных вучняў прапануюцца ў выглядзе неабавязковых для наведваньня факультатываў, якія вынесеныя на пазаўрочны час. Захавалася невялікая колькасьць гімназіяў і ліцэяў, дзе ўзровень адукацыі вышэйшы, але й ён паступова зьніжаецца.



Рэформа 2008 году канчаткова замацавала дзяржаўную манаполію на сярэднюю школу, зьнізіла агульны навучальны ўзровень, скасавала грамадзянскую адукацыю, замяніўшы яе псэўдапатрыятызмам і вучэньнем пра перавагі беларускай мадэлі разьвіцьця.

Гэтая рэформа была не выпадковай. Ідэалёгія, выкладаньне якой было ўведзена ў расклады з 2003 году, ня справілася са сваёй задачай. І тады пад задачу ідэалёгіі – выхаваньне безыніцыятыўнага паслухмянага чалавека, які бяздумна падтрымлівае палітыку кіраўнічых колаў, – перабудавалі ўсю адукацыйную сыстэму. У выніку асноўнай функцыяй школы стала не адукацыя, а кантроль за думкамі й стрымліваньне актыўнасьці новага пакаленьня. Як сказала раённая адукацыйная чыноўніца з Оршы, «у нас государственная, а значит, государева школа. Как скажет государь, так и будет».

Аднак адукацыя – гэта каштоўнасьць для абсалютнай большасьці беларусаў. Спрадвеку беларусы імкнуліся даць адукацыю сваім дзецям, а калі не было сродкаў – вучылі ўсёй сям'ёй хаця б аднаго, каб выбіўся ў людзі. Заможныя сяляне будавалі школы, наймалі «дарэктараў» – хатніх настаўнікаў, якія хадзілі зь сям'і ў сям'ю й вучылі грамаце.

Сёньня склаліся такія ўмовы, што гэтая традыцыя адраджаецца. Агульны ўзровень школьнай адукацыі настолькі нізкі, што настаўнікі, здольныя даваць сучасныя якасныя веды, і бацькі, зацікаўленыя ў адукацыі дзяцей, вымушаны ствараць альтэрнатыўныя, незалежныя ад дзяржавы адукацыйныя асяродкі.

Асьветніцкая функцыя паступова выходзіць па-за межы школы ў сфэру нефармальнай адукацыі.

Найбольш пашыранымі формамі нефармальнай адукацыі ёсьць курсы й прыватныя заняткі (рэпэтытарства). Яны маюць розную ступень легалізацыі, але выконваюць вельмі вузкія задачы, не прэтэндуюць на выхаваўчую функцыю, не скіраваныя на сацыялізацыю навучэнцаў.

Па-ранейшаму шмат для адукацыі робяць грамадзкія арганізацыі, хаця дзяржава стварыла для іх функцыянаваньня вельмі неспрыяльныя ўмовы.

Прыватныя адукацыйныя ўстановы (школы й ВНУ) нешматлікія й не вылучаюцца актыўнасьцю. Яны паступова выціскаюцца з рынку адукацыйных паслугаў. «Падпольныя школы» таксама нешматлікія, ня могуць адкрыта весьці набор вучняў, рызыкуюць апынуцца пад рэпрэсіямі. Але, зь іншага боку, такія школы (напрыклад, Беларускі гуманітарны ліцэй) зьяўляюцца прыкладам таго, што нават ва ўмовах дыктатуры магчымая адукацыйная самаарганізацыя на каштоўнаснай аснове.

## БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЕ ПЕРАШКАДЖАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ

Кожная дзяржава стварае такую адукацыйную сыстэму, якая адпавядае яе палітычнаму ладу. Сёньняшняя дзяржава не зацікаўленая ў тым, каб беларусы ўсьвядомілі свае нацыянальныя карані, узгадалі традыцыйныя каштоўнасьці. Тады ж высьветліцца, што абсалютная большасьць нашых грамадзянаў – прадстаўнікі заходняй цывілізацыі: яны маюць эўрапейскую мэнтальнасьць, адпаведныя каштоўнасьці, а дэмакратыя – гэта наш цывілізацыйны выбар.

Зараз уладам лягчэй маніпуляваць масавай сьвядомасьцю. З дапамогай ідэалёгіі й прапаганды можна навязаць народу не ўласьцівыя нацыі ідэалы калектывізму, «моцнай рукі», ахвяраў дзеля стабільнасьці й парадку, укласьці ў галаву, што нашая краіна стаіць на раздарожжы паміж Захадам і Ўсходам, напрыдумляць «старэйшых братоў» і «імаверных праціўнікаў». Пакуль беларусы беларускай дзяржаве перашкаджаюць.

Гэта тлумачыцца тым, што ў сучасных палітычных і сацыяльна--культурных беларускіх умовах існуе наўпроставая сувязь успрыняцьця нацыянальных каштоўнасьцяў з дэмакратычным сьветапоглядам

і грамадзкай актыўнасьцю. А грамадзкая актыўнасьць – гэта тое, чаго існы рэжым ня хоча мець.

Беларускамоўная адукацыя загнаная ў рэзэрвацыю, і сытуацыя толькі пагаршаецца. У сталіцы вучыцца па-беларуску ня больш за 2% вучняў. У абласных і раённых цэнтрах сытуацыя яшчэ горшая. Стварыць беларускі кляс вельмі цяжка, амаль немагчыма.

Зь іншага боку, пашыраецца хатняя, дыстанцыйная й нефармальная адукацыя. Дзеці пакуль ходзяць ва «всеобуч», але ўсё часьцей адукацыю атрымліваюць паралельна. Гэткая адукацыя вельмі розная. Беларускамоўная ёсьць таксама. Беларусамі сярод моладзі быць прэстыжна.

Аднак дзяржаву гэта не задавальняе. Таму Адукацыйны кодэкс, які ўступае ў дзеяньне зь 1 верасьня 2011 году, прадугледжвае яшчэ большы кантроль дзяржавы за ўсімі формамі навучаньня.



## РОЛЯ ПЭДАГОГА

Разумеюць ролю пэдагога ў фармаваньні будучыні ня толькі дэмакратычныя сілы, але і ўлада. Яна разглядае пэдагога як фактар, які ўплывае на маладое пакаленьне й можа ўмацаваць існы рэжым. Нездарма міністра адукацыі А. Радзькова прызначылі кіраўніком ініцыятыўнай групы А. Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах 2010 году, а потым забралі на падвышэньне ў адміністрацыю прэзыдэнта. Сёньня афіцыйная пазыцыя беларускай улады палягае на тым, што школа павінна рыхтаваць непатрабавальнага грамадзяніна – выканаўцу чужых замоваў, які стаіць на падмурку адаптаваных савецкіх каштоўнасьцяў.

Дзеля гэтага, з аднаго боку, улады максымальна абмяжоўваюць свабоду настаўніка: для гэтага выкарыстоўваюцца кароткатэрміновыя кантракты, бюракратыя, дакладна прапісаныя пляны, праграмы, інструкцыі. З другога боку, паслухмяныя настаўнікі істотна «падкормліваюцца». Для зьніжэньня пратэставай і сацыяльнай актыўнасьці пэдагогаў дзяржава закрывае вочы на ценявы бізнэс большасьці настаўнікаў – рэпэтытарства, якое дазваляе мець дадатковы і, як правіла, нелегальны прыбытак. Але толькі датуль, пакуль настаўнік застаецца паслухмяным. Напрыклад, у 2010 годзе ў адрас настаўнікаў, якія вылучылі свае кандыдатуры на мясцовых

выбарах, паступалі пагрозы: улады абяцалі распачаць супраць пэдагогаў крымінальныя справы за незаконны прыбытак ад прыватных урокаў.

У апошні час у Беларусі пад рэпрэсіі трапляюць ня толькі дэмакратычна настроеныя настаўнікі, але і вучні, студэнты. У рэпрэсіўных мэтах выкарыстоўваюцца эканамічныя мэтады, прызыў у войска, мэдыцына, прычым гэта амаль заўсёды робіцца з парушэньнем заканадаўства.

Новы Адукацыйны кодэкс прадугледжвае новыя магчымасьці для выдаленьня непажаданых настаўнікаў і нават вучняў (!) з сыстэмы адукацыі.

З пункту гледжаньня грамадзянскай супольнасьці роля пэдагога надзвычай важная. Нашая агульная мэта – не згубіць маладое пакаленьне для пэрспэктываў дэмакратыі ў Беларусі.

Задача перад настаўнікам стаіць няпростая, бо ўсё цяжэй і цяжэй растлумачыць моладзі, што такое дэмакратычныя каштоўнасьці, гэта для яе – абстрактныя паняткі. Як немагчыма распавесьці чалавеку пра смак ежы, якой ён ніколі не каштаваў, так моладзь, якая вырасла й сфармавалася пры антыдэмакратычнай уладзе, не адчувае, што такое свабода, выбар, павага да іншай думкі. А калі яна гэтага ня ведае, не прыймае, то ёй цяжка зразумець, да чаго трэба імкнуцца.

## СЁНЬНЯ БЕЛАРУСКІ НАСТАЎНІК СТАІЦЬ ПЕРАД ВЫБАРАМ

Сёньня настаўнік мае тры мадэлі паводзінаў.

Калі не рабіць нічога, – ідэалягічная прапаганда зусім дыскрэдытуе паняткі «патрыятызм», «дэмакратыя», «Эўропа», «свабода», і будуць прымацца за норму патэрналізм, ксэнафобія, канфармізм. Тады недалёка той час, калі маладыя беларусы ўжо ня будуць сьмяяцца з асноўнага пастуляту «навуковага камунізма», які сур'ёзна даводзіць, што «дыктатура пралетарыяту ёсьць найвышэйшай формай дэмакратыі».

Калі займацца дэмакратычнай адукацыяй на далёкую пэрспэктыву, – рызыкуем ператварыць дэмакратыю ў гульню, дзе правілы дзейнічаюць толькі на абмежаванай прасторы й непрыдатныя для жыцьця.

І трэці шлях – самы цяжкі: настаўнік павінен пераасэнсаваць тую функцыю, якую яму адводзіць дзяржава, актыўна абараняць сваю прафэсійную й грамадзянскую пазыцыю й будаваць дэмакратыю сродкамі адукацыі ўжо сёньня. Гэта патрабуе вялікіх намаганьняў.

Настаўніку трэба знайсьці мэтады, каб паказаць маладому пакаленьню перавагі дэмакратыі. Прычым зрабіць гэта ў краіне, дзе ідэалёгія ня ў стане замяніць грамадзянскую адукацыю, а грамадзянская адукацыя незапатрабаваная, бо разьлічаная на дэмакратычнае грамадзтва. Настаўнік павінен ствараць умовы, каб дзеці змаглі засвоіць каштоўнасьці цывілізаваных грамадзтваў у той час, калі звонку замест каштоўнаснай базы прапануецца набор рэклямных лёзунгаў накшталт «За квітнеючую Беларусь!». І зрабіць гэта беларускаму настаўніку трэба самастойна, бо спытыць парады няма ў каго. Беларусь – апошняя дыктатура ў Эўропе. Нашыя эўрапейскія суседзі часам нават не разумеюць, што дыктатура ў інфармацыйным грамадзтве выкарыстоўвае новыя больш хітрыя й завуаляваныя тэхналёгіі ідэалягічнай прапаганды й рэпрэсіяў, зь якімі змагацца нашмат цяжэй, чым у часы польскай «Салідарнасьці» й нават у пэрыяд каляровых рэвалюцыяў.

Зь іншага боку, трэці шлях самы просты: трэба быць сабой і выконваць сваю місію, – і яго выбіраюць шмат настаўнікаў Беларусі.

Усьвядоміць сваю місію й атрымаць неабходныя інструмэнты для яе рэалізацыі настаўніку дапамагаюць грамадзкія арганізацыі, якія ладзяць мэтадычнае й грамадзянскае навучаньне для пэдагогаў. Яны прапаноўваюць розныя праграмы, стажыроўкі, перакладаюць матэрыялы, якімі карыстаюцца настаўнікі дэмакратычных краінаў. Каб не вынаходзіць ровар, можна скарыстаць тое, што спадабалася, што больш для нас прыдатнае, але шмат што давядзецца рабіць самастойна.

Беларускія мэтадысты й іншыя пэдагагічныя адмыслоўцы, якія прапаноўваюць настаўнікам тэхналёгіі навучаньня, запазычаныя ў асноўным у суседзяў з усходу, зусім ня ўлічваюць, што абсалютная большасьць нашых грамадзянаў мае эўрапейскую (заходнюю) мэнтальнасьць, нават не ўсьведамляючы гэтага. Што б там ні казалі, для беларусаў, як і для немцаў, чэхаў ці латышоў, чалавек заўсёды быў важнейшы за ягоны статус: пасаду, пагоны, узнагароды ці іншыя рэгаліі. Гэта, як кажуць, мэдычны факт, псыхалёгія чалавека заходняй цывілізацыі. Хто быў у азіяцкіх краінах і Расеі, асабліва ў глыбінцы, той разумее, што там зусім інакш. Можа, менавіта таму інавацыйныя й асабова-арыентаваныя адукацыйныя тэхналёгіі так цяжка прыжываюцца на расейскай глебе, што яны прыдуманыя эўрапейцамі з разьлікам на заходнія цывілізацыйныя каштоўнасьці.

Дарэчы, выбітны псыхоляг і пэдагог Леў Выгоцкі – ураджэнец Воршы – стварыў культурна-гістарычную тэорыю, якая спарадзіла найбуйнейшую ў савецкай псыхалёгіі школу. З гэтай школы выйшлі А. Лявонцеў, А. Лурыя, А. Запарожац, Л. Бажовіч, П. Гальперын, Д. Эльконін, П. Зінчанка, Л. Занкоў і інш. У 1970-я гады тэорыі Выгоцкага сталі выклікаць цікавасьць у амэрыканскіх псыхолягаў. У наступнае дзесяцігодзьдзе ўсе асноўныя працы Выгоцкага былі перакладзеныя й леглі – разам з дасьледаваньнямі Жана Піяжэ – у аснову сучаснай адукацыйнай псыхалёгіі ЗША. А ў гэты ж час у Расеі, а з аглядкай на яе й у Беларусі, хутка згортвалася заснаванае на тэорыі нашага земляка разьвіцьцёвае навучаньне паводле сыстэмы Эльконіна-Давыдава, зноў узносілася на п’едэстал савецкая адукацыйная сыстэма, здольная прадукаваць хіба што салдатаў.

Беларускім настаўнікам, як і беларусам наогул, трэба вырвацца з-пад уплыву рускамоўнай інфармацыйнай прасторы, глядзець шырэй, каб знайсьці сваё месца ў шматкультурным сьвеце й застацца сабою.

## «ПАКАЛЕНЬНЕ Y» VS «ПАКАЛЕНЬНЕ LU»

Любая адукацыя мае тры складнікі: веды, грамадзянскія кампэтэнцыі (г. зн. уменьне й асэнсаванае жаданьне карыстацца тымі ведамі) і каштоўнасьці. Калі страчваецца хаця б адзін са складнікаў, атрымліваецца нетрывалая канструкцыя.

Адмежаваная ад эўрапейскіх навучальных праграмаў беларуская адукацыя не ацэньваецца паводле крытэраў, якія вызначаюць якасьць эўрапейскай адукацыі. Беларусь ня ўключаная ў міжнародную праграму ацэнкі адукацыйных дасягненьняў вучняў (PISA), якая забясьпечвае самы шырокі ў сьвеце й строгі набор міжнародных дасьледаваньняў па ацэнцы ведаў і ўменьняў вучняў сярэдніх школ. Беларусь не далучылася й да Балёнскага працэсу, які дазваляў бы студэнтам і выкладчыкам ВНУ абменьвацца адукацыйным досьведам. Большасьць беларускіх выкладчыкаў і ня чула пра ключавыя кампетэнцыі як крытэр ацэнкі якасьці адукацыі, прапісаны ў рамкавых умовах у рэкамэндацыях Эўрапарлямэнта й Рады Эўропы ад 18 сьнежня 2006 году.

Беларуская адукацыя разьвіваецца ўсьляпую – і як вынік мы маем цэлае пакаленьне, сфармаванае пры рэжыме Лукашэнкі, якое атрымлівае

